Літаратура
і мастацтва

ISSN 0024-4686

№4 (4599) 28 студзеня 2011 г.



# Атлант айчыннае літаратуры

Мікола МЯТЛІЦКІ

**Іван Пятровіч Шамякін… Пачынаючы з першых даваенных і ваенных вершаў, з аповесці “Помста”, напісанай у пераможаным Берліне сорак пятага на дабротнай нямецкай паперы нейкіх пазбіраных бланкаў, разгортваецца перад намі вялікі літаратурны шлях сапраўднага майстра слова, поўны самых значных творчых дасягненняў. Гэта цэлы шэраг аповесцей, п'ес, апавяданняў, публіцыстычных артыкулаў, з якімі пісьменнік рэгулярна выступаў у перыядычным друку, і, безумоўна, кнігі для дзяцей і дзённікавыя запісы, якія сталіся запаветнай кнігай пісьменніка “Роздум на апошнім перагоне”.**



*Фота з архіва сям'і Шамякіных.*

Такі ён — вялікі і духоўна трывалы літаратурны мацярык Івана Шамякіна. Яшчэ і сягоння на яго прасторах трапляецца новае, раней не вядомае. Так, у часопісах “Маладосць” і “Полымя” змешчаны дзённікавыя старонкі з даваеннага юнацтва і апошніх гадоў жыцця, першыя вершы, апавяданні і “Грузінская аповесць”. Уважныя спадчыннікі рыхтуюць новае з пісьменніцкага архіва, што неўзабаве патрапіць на старонкі нашых літаратурных выданняў і ўвойдзе ў паўнаважкі Поўны збор твораў пісьменніка, які рыхтуецца акадэмічным Інстытутам мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы і першыя тамы якога ўжо ўбачылі свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура”.

Што ж сягонняшняму грамадству гаворыць творчасць Шамякіна? Героі твораў пісьменніка жывуць паўсядзёнными клопатамі свайго часу, змагаюцца за сваю айчыну ў бітвах кровапралітнай вайны, з радасцю пераможцаў будуюць на руінах і папялішчах новае жыццё, жывуць справамі вёскі, думаюць пра новае архітэктурнае аблічча нашых гарадоў, турбуюцца чарнобыльскім лёсам суайчыннікаў, занепакоена тужаць аб развале вялікай адзінай краіны, жорстка судзяць вёрткіх нуварышаў новага часу, шукаюць страчанага прытулку. Сапраўдным гуманізмам, як касцёр цеплынёй, дыхаюць і дыхаюць шамякінскія старонкі, даводзячы нам, беларусам, запаветную вынашаную пісьменнікам ісціну: жыццё на зямлі пры любых абставінах павінна заставацца па-чалавечы адказным і годным.

Мне выпала шчасце два дзясяткі гадоў быць побач з пісьменнікам. Чуць яго мудрае слова. Было шэраг сустрэч, некалькі памятных вандровак па Беларусі. Народ па-сапраўднаму любіў пісьменніка, з гарачай любоўю сустракалі яго чытачы і ў родным Гомелі, горадзе даваеннага юнацтва, і ў Лепелі, і ў Глыбокім. На літаратурных сустрэчах пісьменнік быў заўсёды ўзрушаным, як пачатковец. Бо выносіў на людзі свае ўласныя перажыванні, занепакоенасць, прамаўляючы, як бы раіўся, шукаў маральнага апірышча для апраўдання або асуджэння ўчынкаў сваіх герояў. У Глыбокім, дэманструючы на прэм'ерным паказе фільм “Эпілог”, таленавіта створаны незабыўным рэжысёрам Ігарам Дабралюбавым, яшчэ раз прыгадаў гісторыю напісання аповесцей “Вернісаж” і “Адна на падмостках”, якія сталіся сцэнарнай асновай карціны. “Я хачу аднаго, каб наша жыццё не было такім — жорсткім і бесчалавечным…” — сказаў тады пісьменнік са сцэны. Яго турбаваў лёс творчай інтэлігенцыі Беларусі, хацелася, каб творчыя людзі як мага хутчэй займелі запатрабаванасць на новых падмостках жыцця, каб іх рэальны ўдзел у сучасным жыцці быў значным і чутным.

Сягоння, напярэдадні сумнага 25-годдзя чарнобыльскай катастрофы, хочацца прыгадаць той хвалюючы клопат пісьменніка, які сагрэў не адно чалавечае сэрца заступніцкай увагай у трывожныя дні далёкага ўжо 1986 года. Як дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Іван Пятровіч адразу ж пасля пачутай весткі пра аварыю рушыў у сваю выбарчую акругу — Рэчыцу, Хойнікі, Брагін, Нароўлю, каб на ўласныя вочы пабачыць усё тое, што адбылося, каб знаходзіцца побач з пацярпелымі людзьмі. Мне выпала быць з ім у адной з такіх паездак, стаць сведкам пісьменніцкага нераўнадушша да лёсу людзей, калі тагачаснымі партыйнымі ўладамі замоўчваліся маштабы катастрофы. Я памятаю і тую паваротку ў вёску Веляцін за Хойнікамі, дзе ў адзін з першых пасляваенных гадоў малады Іван Шамякін жыў і пісаў свой самы шчаслівы спанадзейлівы раман “У добры час”. Як тады марылася пісьменніку, што зямное жыццё наша будзе светлым, бязвоблачным. І вось цяпер, глянуўшы ў далёкую памяць, у бок апраменена Веляціна, пісьменнік прызнаўся нам, сваім спадарожнікам, што напіша новы раман пра гэту зямлю, што збірае для яго матэрыял. І гэтым раманам неўзабаве стала “Злая зорка”. Сюжэтнае развіццё твора супадае з самой хронікай падзей. Яго галоўныя героі рэальна пазнавальныя, выхапленыя з самога трывожнага тагачаснага жыцця. Зажурана-прачула гаворыць пісьменнік пра чарнобыльскае Палессе: “Такое і ў кіно не бачылі. Бачылі спаленыя вёскі, пустыя, адкуль людзі адыходзілі ў лясы ці іх выганялі гвалтоўна на смерць, на здзек, на доўгае падарожжа ў Германію. Але на ўсіх тых вёсках — ляжаў след вайны, разбурэння. А тут жа ўсё дагледжанае і… усё нікому не патрэбнае. Сушацца на платах гладышкі, на тых жа платах і на вяроўках у двары посцілкі, коўдры, андаракі, спадніцы, бялізна, многа добрага адзення — мылі, сушылі перад святамі. За шыбамі вокнаў гардзіны, квяцістыя фіранкі. У адной хаце акно засталося адчыненым, і вецер калыша фіранкі. “Аганёк” кветкамі-зорачкамі лапушыста лезе з акна, як бы хоча пацалавацца з бэзам. Як ён буйна цвіце, бэз, ледзьве не ў кожным гародчыку!” Гэта ўбачанае той чарнобыльскай вясной, якая апаліла сабой паўсвету, зрабіўшы наш беларускі лёс постчарнобыльскім.

Пакручастымі дарогамі лёсу Іван Пятровіч Шамякін пранёс па-сапраўднаму лебядзіную вернасць каханай жанчыне — жонцы, незабыўнай Марыі Філатаўне. Пакаленні зачытваліся і зачытваюцца старонкамі юнацкага лёсу, пройдзенага праз выпрабаванні вайны, герояў “Трывожнага шчасця” Пятра Шапятовіча і Сашы Траянавай. Гэта адзін з самых аўтабіяграфічных твораў пісьменніка. І завяршыўся ён ужо на зломе XX стагоддзя прачулай аповесцю-рэквіемам “Слаўся, Марыя!”, прысвечанай памяці дарагога чалавека, стаў своеасаблівым гімнам беларускай жанчыне.

Пісьменнік-франтавік Іван Пятровіч Шамякін глядзеў заўсёды бязлітасна мужна ў вочы жыццю. Адным з самых хвалюючых святаў у шамякінскай сям'і быў Дзень Перамогі. Пісьменнік часта сустракаўся з маладымі воінамі — прадаўжальнікамі ратнае справы яго франтавога пакалення. Такія сустрэчы адбываліся і ў Цэнтральным Доме афіцэраў, і непасрэдна ў воінскіх часцях, куды пісьменнік ахвотна выязджаў па запрашэнні ваенна-шэфскай камісіі Міністэрства абароны. Чуючы памяць сваёй вайны, Шамякін жадаў маладым байцам толькі мірнага неба над галавой. Запісаў у сваім дзённіку пасля адной такой сустрэчы: “На канцэрце плакаў, як бабёр, — так расчулілі дакументальныя кадры вайны, франтавыя песні. Я па прыродзе сентыментальны. Але не да такой ступені: раней ад песень не плакаў. 9-га глядзеў “А зоры тут ціхія” — зноў наплакаўся. Сам сачыняў падобныя сюжэты. Яны, тыя з фільма, мае равесніцы, але мне ўяўляліся ўнучкамі. Божа мой! Які гэта страх — вайна!”

У жалобнай зале Цэнтральнага Дома афіцэраў 15 кастрычніка 2004 года развіталася Беларусь са сваім любімым пісьменнікам. Каля труны стаялі ссівелыя паплечнікі, маладое пакаленне мінчан рушыла няспынным патокам — несла апошнія жывыя кветкі вялікаму сыну Бацькаўшчыны.

Ён адыходзіў і адначасна вяртаўся. Вяртаўся, каб стаць духоўнай сутнасцю нашага жыцця, каб мужна і стойка бараніць жыццёвыя каштоўнасці на новых віражах айчыннай гісторыі.

## Пункціры

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" дырэктара ўнітарнага паліграфічнага прадпрыемства "Віцебская абласная друкарня" Яўгенія Ларычава і загадчыка сектара рэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі і кантролю за выкананнем заканадаўства прававога ўпраўлення Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Віктара Гурэцкага.

Лаўрэатамі прэміі імя Васіля Віткі сталі пісьменнікі Мікола Мятліцкі, Павел Саковіч і мастачка Настасся Лебядзінская. Прэмія заснавана дзіцячым часопісам "Вясёлка" для аўтараў лепшых публікацый і ўручаецца штогод. Атрыбутамі прэміі з'яўляюцца спецыяльны дыплом і медаль.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Вячаслава Дабрыніна з 65-годдзем. "У Беларусі ведаюць і шануюць Вас як цудоўнага артыста, аўтара любімых мелодый, з якімі ідзе па жыцці ўжо некалькі пакаленняў", — сказана ў віншаванні.

Да 85-годдзя малодшага сына Якуба Коласа, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, доктара тэхнічных навук і паэта Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча Літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа падрыхтаваў літаратурную імпрэзу "І паўтарыўся бацька ў сыне". У дзень нараджэння Міхася Міцкевіча адкрыецца таксама выстаўка, прысвечаная яго творчасці.

Дадатковыя спектаклі па сацыяльных цэнах прапануе прыхільнікам опернага мастацтва Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь. 5 лютага на сцэне тэатра — опера П. І. Чайкоўскага "Іяланта", 12 лютага — опера Дж. Расіні "Севільскі цырульнік". Пачатак спектакляў — у 12 гадзін.

Экспазіцыя Гомельскага абласнога музея ваеннай славы ўпершыню будзе прадстаўлена за мяжой. У музеі Гордана Хайландэра ў шатландскім горадзе Абердзін з 1 лютага 2011 года пачне працаваць выстаўка "Гомель — беларускі горад у Другой сусветнай вайне". Выстаўка працягне сваю работу да 20 чэрвеня 2011 года. Акрамя таго, вядуцца перамовы з музеем Супраціўлення ў французскім горадзе Клермон-Феран аб арганізацыі выстаўкі, прысвечанай тэме партызанскага руху на тэрыторыі вобласці ў гады вайны.

Чатырнаццаць творчых калектываў з Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы прынялі ўдзел у VI міжнародным фестывалі "Фальклор без межаў", які прайшоў у Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Канцэртнымі пляцоўкамі фестывалю сталі дамы культуры ў васьмі сельскіх населеных пунктах раёна і ў горадзе Іванаве.

Спаўняецца 15 гадоў папулярнаму музычнаму фэсту "Рок-каранацыя". З гэтай нагоды арганізатары вырашылі падрыхтаваць асаблівую імпрэзу. Цырымонія ўзнагароджання лепшых беларускіх рок-музыкаў пройдзе 18 лютага 2011 года ў фармаце гала-канцэрта. У спісе гасцей — галоўныя героі ранейшых цырымоній, акрамя рок-князёўны 2007 года Вольгі Самусік, якой не стала ў снежні 2010 года.

З вялікім поспехам у Віцебску прайшла прэм'ера дзіцячага спектакля "По щучьему велению", праект абласной філармоніі. У аснову пастаноўкі лёг музычны твор расійскага кампазітара Уладзіміра Чарняўскага, які пашыраны, упрыгожаны харэаграфічнымі нумарамі і пераствораны такім чынам у мюзікл. Самі стваральнікі спектакля лічаць яго вялікай удачай.

**Падрыхтавала**
**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

## За падзеяй

# Выбар зроблены!

**"За мінулыя гады намі закладзены магутны фундамент для доўгатэрміновага, стабільнага развіцця. Цяпер галоўная задача — перайсці ад аднаўлення і захавання да шматразовага прымнажэння ўсяго створанага. Галоўнай рухаючай сілай росту павінна стаць дзелавая актыўнасць, творчы патэнцыял грамадзян".**

*(З выступлення А. Р. Лукашэнкі на ўрачыстай цырымоніі ўступлення на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь)*

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

У Вялікай зале Палаца Рэспублікі адбылася ўрачыстая цырымонія ўступлення на пасаду новаабранага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

Грамадзяне зрабілі свой выбар, аддаўшы пераважную большасць галасоў Аляксандру Лукашэнку — вопытнаму і вядомаму палітыку. Сваім выбарам краіна прызнала выніковасць працы дзеючага Прэзідэнта і пацвердзіла давер да яго ў гэты лёсавызначальны час.

Інаўгурацыя — знамянальная і ўрачыстая падзея ў жыцці краіны. З 21 студзеня пачаўся новы адлік прэзідэнцкага тэрміну, стратэгічная мэта якога — вывесці Беларусь у лік лідараў тэхналагічнага і інтэлектуальнага развіцця.

А якімі бачацца напрамкі творчага пошуку дзеячаў літаратуры і мастацтва ў гэты перыяд?

Карэспандэнт "ЛіМа" папрасіў адказаць на гэтае пытанне вядомых пісьменнікаў.

**Георгій МАРЧУК,**
**сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

— Старэйшаму пакаленню, як вучыў адзін народны пісьменнік, каб застацца ў кантэксце беларускай літаратуры, трэба актыўна шукаць мажлівасці перавыданняў сваіх твораў.

Ад маладых чакаем адкрыццяў у поўнай свабодзе творчасці. Даследуйце душу сучаснага беларуса ў кантэксце асэнсавання рэчаіснасці. Шукайце сваю тэму і сваіх герояў.

Няма камедыі, сатыры. Час адкрыць у Мінску тэатр камедыі.

**Алег САЛТУК,**
**паэт (Віцебск):**

— Хацелася б, каб наш Прэзідэнт і ўладная вертыкаль, нягледзячы на ўсе праблемы, а іх нямала, звярнулі ўвагу і на пісьменнікаў. Дзяржаўная заклапочанасць павінна адчувацца ў выданні кніг, аплаце нашай працы.

А нам у сваю чаргу патрэбна пісаць пра рэальнае жыццё, а не лётаць у мроях. Значныя творы з'яўляцца тады, калі мы сур'ёзна задумаемся пра час і пра сябе ў гэтым часе. Усе працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве, павінны дэталёва аналізавацца. Мы закліканы паказваць героя свайго часу і антыгероя. Колькі ўжо можна перапісваць гісторыю сем'яў Сапегаў, Сангушак ды іншых князёў і магнатаў, фантазіраваць пра іх дабрыню і святасць?!

На мой погляд, у полі зроку літаратараў павінны знаходзіцца рабочы і калгаснік, доктар і настаўнік, інжынер і вучоны, а не эстрадны спявак-аднадзёнка, узведзены ў зорны ранг эстрадай і тэлебачаннем. Напэўна, хопіць ужо на тэлеэкранах "мыльных" серыялаў, розных эстрадных балбатуноў і смехачоў. І літаратурных таксама.

Асабіста я за літаратуру духоўную і душэўную, і разам з тым — грамадзянскую, каб чытач змог знайсці ў ёй адказы на пытанні: навошта жывём, дзе жывём, як жывём, чым жывём і чым будзем жыць? Нікому не схавацца ад гэтых пытанняў. І ад сябе таксама. І перш чым сесці за вершы ці прозу, варта цвёрда адказаць сабе: з кім ты? за што ты? супраць каго ты? Не адкажаш — лічы, што твая праца марная.

**Валянціна ПАЛІКАНІНА,**
**член СП Саюзнай дзяржавы, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі "Мастацкая літаратура" (Мінск):**

— Творчасць, на маю думку, не вымяраецца пяцігодкамі, яна адбываецца на працягу ўсяго жыцця. Як запланаваць вялікі твор, калі душа яшчэ бездапаможная, зайздросная, капрызная, уцягнутая ў хаос супярэчнасцей?.. Творчы пошук, як мне здаецца, пачынаецца з сябе, калі задаюцца галоўныя лёсавызначальныя пытанні: "хто я", "навошта жыву?", "куды іду?", калі пісьменнік духоўна ўзрастае. А на шляху ўдасканалення душы адкрываецца мноства тэм, якія перастаюць быць схемай, шаблонам, а становяцца жывой гісторыяй, адкрыццём. Такія творы не праходзяць для чытача бясследна. Бо па сутнасці людзі ўжо перанасыціліся нізкапробнай "развлекалкой", шукаюць духоўнай падпіткі, зразумелі, што пустата нічога не дае, а чарнота наклікае бяду. І калі пісьменнік твор выпакутуе, перадасць яму рытм свайго сэрца, пройдзе з ім па ўсіх горкіх і радасных дарогах, то напісанае стане для чытача парадай і падтрымкай у нашым складаным прагматычным свеце. І справа не ў аб'ёмах, а ў сіле шчырасці.

Што датычыць кірункаў, то, мне здаецца, беларуская і руская літаратура будуць узаемна ўзбагачацца. Пераклады на беларускую мову твораў, якія напісаны па-руску, дадуць магчымасць захаваць іх аўтараў для беларускай літаратуры. А пераклады на рускую мову пашыраць рамкі творчасці беларускіх пісьменнікаў, зробяць іх пазнавальнымі ў іншых літаратурных колах.

*Застаецца дадаць, што пісьменнік — гэта не той, хто піша, а той, якога чытаюць. Будзем жа чакаць кніг, што стануць добрымі сябрамі чытачоў.*



Фота БелТА

## Узнагароды

# Прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці

**Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі разгледзела матэрыялы па работах, творах і кандыдатах, якія вылучаны на саісканне прафсаюзных прэмій 2011 года, і паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на саісканне прэмій дапушчаны:**

**I. За творы прозы, паэзіі і драматургіі** (адна прэмія):

1. **Славамір Антановіч** — за гістарычны раман "В августе девяносто первого…";
2. **Мікалай Кавалевіч** — за зборнік вершаў "Вертоград обретённый";
3. **Васіль Ткачоў** — за кнігу "Снукер".

**II. За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць** (адна прэмія):

1. **Сяргей Аўдзеенка** — за словы, музыку, падрыхтоўку і выпуск кліпа песні "Хоккей — это сила!";
2. **Алег Елісеенкаў** — за песні апошніх гадоў на вершы беларускіх паэтаў (2007 — 2010 гг.);
3. **Ганна Кароткіна** — за паэму "Трунвальд" для аргана і літаўраў;
4. **Міхаіл Суддзін** — за музычны альбом "Длинная дорога".

**III. За работы ў галіне тэатральнага мастацтва і кінамастацтва** (адна прэмія):

1. **Валерый Анісенка** (рэжысёр-пастаноўшчык), **Марына Шуста** (мастак-пастаноўшчык), **Ігар Сігаў** (артыст) і **Людміла Сідаркевіч** (артыстка) — за стварэнне спектакля "Каласы пад сярпом тваім" паводле рамана У. Караткевіча ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі (2008 г.);
2. **Аляксандр Ждановіч** — за галоўныя ролі С. Галубкова ў спектаклі С. М. Кавальчыка "Бег" (прэм'ера ў 2009 г.) і Герарда Эскабара ў спектаклі К. Занусі "Дзева і Смерць" (прэм'ера ў 2010 г.).

**IV. За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва** (адна прэмія):

1. **Сямён Дамарад** — за стварэнне серыі пейзажаў "Зямля беларуская" (2007 — 2009 гг.);
2. **Аляксей Дземчанка** і **Ігар Свянціцкі** — за студэнцкі праект "Утульны дом" — роспіс лесвічных клетак жылых дамоў (2010 г.);
3. **Уладзімір Новак** — за стварэнне серыі карцін на тэму спорту і партрэтаў алімпійскіх чэмпіёнаў (2007 — 2009 гг.);
4. **Юрый Падолін** — за выкананне рэстаўрацыйных работ помнікаў беларускай культуры (Нясвіжскі і Мірскі замкі, музей "Пространство Хаима Сутина" ў г.п. Смілавічы) (2010 г.).

**V. За лепшы твор аб прафсаюзах** (адна прэмія):

1. **Алена Вашкевіч** і **Максім Мінчукоў** — за фільм "Первый день молодого специалиста" (2009 г.);
2. **Ала Даніліна** і **Аляксандр Аляксанаў** — за мультымедыйны фільм "Мы и профсоюз" (2010 г.).

**VI. За актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці працоўных** (адна прэмія):

1. **Уладзімір Кірута** — дырэктар культурна-забаўляльнага рэспубліканскага даччынага ўнітарнага прадпрыемства "Культсэрвіс" Мінскага трактарнага завода.

**VII. За выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці** (адна прэмія):

1. **Народная арт-група "Брэвіс"** Брэсцкага абласнога Палаца культуры Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі;
2. **Народны камерны ансамбль "Класік"** Дома культуры чыгуначнікаў станцыі Баранавічы ТРУП "Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі";
3. **Народны хор ветэранаў працы "Славянскі сувенір"** Рэспубліканскага Палаца культуры ветэранаў;
4. **Узорны цымбальны аркестр "Першацвет"** ДУА "Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 13 г. Мінска".

**VIII. У галіне журналістыкі** (адна прэмія):

1. **Барыс Крэпак** — за распрацоўку канцэпцыі і падрыхтоўку матэрыялаў рубрыкі "Вяртанне імёнаў" і матэрыялы, прысвечаныя 65-годдзю Вялікай Перамогі, апублікаваныя ў газеце "Культура" ў 2010 годзе;
2. **Рыгор Мацюшнікаў** — за цыкл праграм "Сацыяльнае партнёрства" на радыёстанцыі "Беларусь" (снежань 2008 г. — жнівень 2010 г.).

**Камісія звяртаецца з просьбай да творчых саюзаў, культурна-асветных устаноў, прафсаюзных і грамадскіх арганізацый, калектываў прадпрыемстваў і навучальных устаноў, грамадзян рэспублікі правесці абмеркаванне кандыдатур на саісканне прэмій Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2011 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці.**

***Вашы прапановы, водгукі, заўвагі просім накіроўваць да 5 сакавіка б.г. на адрас: Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Камісія па прэміях ФПБ (пакой 915), пр-т Пераможцаў, 21, 220126, г. Мінск, тэл. 203 95 83.***

Літабсягі

# Патрыётаў трэба гадаваць

**"Круглыя сталы", якія вайскоўцы праводзяць сумесна з беларускімі літаратарамі на базе "Студыі ваенных пісьменнікаў" пры Цэнтральным Доме афіцэраў — ужо добрая традыцыя. Чарговае пасяджэнне прысвячалася ваенна-патрыятычнай тэме на старонках айчынных перыядычных выданняў.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Кастуся Дробава**

Начальнік упраўлення інфармацыі, прэс-сакратар галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны Беларусі Уладзімір Макараў падкрэсліў безумоўную важнасць ваенна-патрыятычнага выхавання ў першую чаргу моладзі, каб прадухіліць у далейшым паўтарэнне "падзей на плошчы". Дырэктар РВУ "Літаратура і Мастацтва" Алесь Карлюкевіч выказаў занепакоенасць тым, што са старонак сучасных літаратурных твораў знікае дзейсны, станоўчы герой. Паменшала добрых, якасных твораў героіка-патрыятычнай тэматыкі на старонках літаратурна-мастацкіх часопісаў. У асноўным цяпер гэта паэзія і публіцыстыка. Выступоўца паведаміў, што "Літаратура і Мастацтва" плануе выпуск кнігі ўспамінаў А. Сульянава пра Васіля Быкава, героіка-патрыятычных нарысаў. Зусім нядаўна быў выдадзены ўнікальны альбом плакатаў — "Родина-мать зовёт!". Сумесна з Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны рыхтуецца альбом "Оружие Победы", у якім будуць прадстаўлены экспанаты часоў Другой сусветнай са сваёй уласнай гісторыяй.

Галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі распавёў, што ў мінулым годзе на старонках часопіса было апублікавана нямала твораў ваеннай тэматыкі. Падзеяй з'явілася аповесць М. Фядосіка "Служу Радзіме". У пятым нумары быў надрукаваны своеасаблівы "Вянок Перамогі" — творы салдат Вялікай Айчыннай. На працягу ўсяго года публікаваліся нарысы пра герояў Савецкага Саюза, якія, на шчасце, яшчэ жывуць сярод нас. Гэты праект, названы "Вечны агонь Перамогі", можа і павінны стаць асобнай кнігай. Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў паведаміў пра вынікі літаратурнага конкурсу сярод моладзі, арганізаванага мінскімі пісьменнікамі. На конкурс было прыслана больш як 1600 твораў патрыятычнай тэматыкі з розных рэгіёнаў Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі. Галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Алесь Бадак падкрэсліў, што ваенна-патрыятычная тэматыка для гэтага выдання мае важнае значэнне. І сёння ў Беларусі, пэўна, ніводны іншы часопіс не звяртаецца да яе так часта і плённа.

А заключным акордам мерапрыемства стала ўрачыстае ўзнагароджанне літаратараў-патрыётаў юбілейнымі медалямі "65 лет Великой Победы".



***На здымку:** выступае Мікола Мятліцкі.*

Артлінія

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ, г. Светлагорск**

# Галерэя ў школе

**Гэтая карцінная галерэя размясцілася на трэцім паверсе Азарыцкай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Факт сам па сабе незвычайны. А калі ўлічыць, што ўсе карціны ўвасобілі маляўнічасць таго ж самага гарадскога пасёлка і што аўтарам іх з'яўляецца вядомая беларуская паэтэса Соф'я Шах, дарэчы, выпускніца гэтай школы, то незвычайны факт набывае асаблівую адметнасць.**



Сорак сваіх жывапісных твораў, прысвечаных родным мясцінам, падаравала Соф'я Мікалаеўна школе. Кожны з іх нібы сцвярджае: прыгажосць побач з намі, трэба толькі заўважыць і адчуць яе. Між іншым, праз карціны ўзноўлена і тая прыгажосць, якая па розных прычынах была зруйнаваная часам. Велічна паўстаюць у трыпціху Соф'і Шах азарыцкія храмы. Тыя, што былі, і той, што будзе, узвядзенне якога яшчэ не завершана. Усе работы, прадстаўленыя ў галерэі, прасякнутыя замілаваным адчуваннем маленства, настальгіяй па ім.

Распазнавальнасць — вось што найперш прываблівае наведвальнікаў школьнай галерэі. Але гэта зусім не фатаграфічная распазнавальнасць, а мастацкая: праз мастацкасць праглядваюць пачуцці, узнаўляецца час. Тое, што Соф'я Шах перадусім паэтэса, бачна і тут. Вобразная акцэнтаванасць, лірычная трапятлівасць, адчуванне пейзажнай незвычайнасці ў звычайным... "Прага жыцця", "Вячыстая краса", "Бярозавае святло", "Апошняе "курлы", "Моц каранёў", "Лясецкі вартавы", "Памкнёнасць"... Ды і карціны, якія маюць больш празаічна-дакладныя назвы ("Азарыцкі палац", "Бібліятэка", "Від на бальніцу", "Былая Андрэеўка", "Школа-інтэрнат", "Будынак гарпасялковага Савета"...), напісаныя з такім адчуваннем родных мясцін, што ўспрымаюцца як неад'емнасць прывабных Азарычаў.

Шлях да выяўленчага мастацтва ў паэтэсы быў незвычайны. Амаль 15 год дапамагала яна аўтару гэтых радкоў у клопатах па кіраўніцтве Светлагорскай карціннай галерэяй "Традыцыя" імя Германа Пранішнікава. А гэта — знаёмства не толькі са шматлікімі экспазіцыямі, але і з іх знанымі аўтарамі (Г. Вашчанкам, Л. Шчамялёвым, В. Шаранговічам, В. Альшэўскім, В. Зінкевічам ды многімі іншымі), наведванне іх майстэрняў. Адна з персанальных выставак Соф'і Шах мела вызначальную назву: "І фарбамі спяваць паспрабавала". Аднак цяпер, "спяваючы фарбамі", яе паэтычная душа не перастае спяваць словамі. Прынамсі, кожны азарыцкі жывапісны твор дапаўняецца вершаваным. Дый не толькі вершамі да азарыцкіх карцін абмяжоўваецца паэтэса. Яна — аўтар вянка вянкоў санетаў пад назваю "Азарычы"! Так што ўсёй сваёй творчай памкнёнасцю Соф'я Шах сцвярджае вернасць дарагім мясцінам. Пра гэта сведчыць і яе карцінная галерэя ў роднай школе. Дарэчы, школа, шмат у чым дзякуючы намаганням таленавітага дырэктара Таццяны Цяцерыч, лічыцца адной з лепшых у Калінкавіцкім раёне.

***На здымку:** Соф'я Шах "Былая сажалка".*

Повязі

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Музычныя густы рыцарства

**У выдавецтве "Кнігазбор" пры падтрымцы Польскага Інстытута ў Мінску пабачыла свет новая кніга гісторыка, даследчыка беларускай музычнай культуры, лідара гурта "Стары Ольса" Зміцера Сасноўскага "Музычная культура рыцарскага саслоўя Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага". Храналагічны перыяд, якому прысвечана гэтая работа, — XIII — XVIII стст. — праменжак часу паміж утварэннем ВКЛ і знішчэннем "Рэчы Паспалітай абодвух народаў".**



Вайсковая музычная культура — значная частка агульнай культуры XIII — XVIII стст. З'яўляючыся адметнасцю жыцця прывілеяванага саслоўя, яна часта згадваецца ў літаратуры, ёсць і іканаграфічныя крыніцы, што сведчаць пра развіццё вайсковай музыкі. "Даследуючы гісторыю беларускай музычнай культуры, — расказвае Зміцер Сасноўскі, — я заўважыў, што можна асобнымі раздзеламі вылучаць вайсковую музыку. Маючы павагу да рыцарскага саслоўя і ведаючы багатую культуру вайсковай музыкі, вырашыў зрабіць падборку такіх матэрыялаў. Але паколькі Каралеўства Польскае і ВКЛ шчыльна кантактавалі і знаходзіліся ў вайсковым саюзе, размежаваць рыцарскую музыку гэтых дзяржаў было вельмі складана. Да таго ж многія крыніцы не ўдакладняюць, з якога месца паходзіць малюнак, пэўная з'ява вайсковай музыкі".

Прадставіць вайсковую музыку асобна ад жыцця рыцарскага саслоўя вельмі складана. Бо, напрыклад, у 70-х гадах XVI ст. прыдворная Гарадзенская капэла караля Стэфана Баторыя ператваралася ў вайсковую, паходную капэлу ў той час, калі каралеўскі двор выязджаў на вайну. Яна таксама выконвала ролю парадную, магла быць і камернай капэлай. "У выніку давялося ад першапачатковай задумы разгледзець толькі вайсковую музыку, што практычна ўжывалася падчас войнаў, паходаў і бітваў, прыйсці да ідэі апісаць музычную культуру рыцарскага саслоўя ў цэлым", — згадвае Зміцер.

Сярод адметнасцей новай кнігі — багатая іканаграфія. Тут выкарыстаны мініяцюры, гравюры, партрэты, фрагменты фрэсак з выявамі музычных інструментаў. У асобным раздзеле прадстаўлены "Народныя спевы пра рыцараў". "Гістарычна так склалася, — тлумачыць аўтар, — што многія творы рыцарскай тэматыкі натуральным чынам траплялі ў народнае асяроддзе, але з-за войнаў і ў выніку рабаўніцтва замкаў зніклі з дакументаў вышэйшых саслоўяў. Так некаторыя з іх дажылі да нашага часу ў выглядзе народных песень".

З-пад пяра

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылося чарговае творчае пасяджэнне паэтычных клубаў "Пегас" і "Жнівень" прадпрыемстваў ЗАТ "Атлант". На працягу некалькіх гадоў прафкамам "Атланта" выдадзены чатыры зборнікі вершаў завадчан пад агульнай назвай "Сопричастность-прыналежнасць". Шматлікія паэтычныя творы членаў клубаў друкаваліся на старонках газет, гучалі па радыё і на тэлебачанні, былі пакладзены на музыку і сталі песнямі. Добрай традыцыяй правядзення пасяджэнняў стала запрашэнне да ўдзелу ў мерапрыемстве знакамітых беларускіх пісьменнікаў.

**Алена ЖДАНОВІЧ**

Дыпломы і падарункі атрымалі юныя пераможцы тэлепраекта-конкурсу "Час чытаць", наладжанага Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкай імя А. Гайдара г. Барысава сумесна з тэлеканалам "Свет-ТВ", — Аня Грудзько, Каця Кумагерчык і дуэт "Хрысталавы". На працягу месяца праходзілі тэлездымкі дзяцей і падлеткаў, якія прадстаўлялі добрыя чароўныя гісторыі, знойдзеныя імі ў кнігах, — чыталі вершы, пераказвалі казкі, паказвалі інсцэніроўкі розных дзіцячых твораў. Узнагароджанымі сталіся тыя, хто набраў найбольшую колькасць галасоў тэлегледачоў і найвялікшую колькасць балаў ад журы.

**Дар'я ВАЛКАВЕЦ**

Паэт Міхась Сазончык прадставіў на суд чытача новую кнігу "Роздум". Яна — пра дзень сённяшні і дзень наступны. Гэта — хваляванне за лёс Бацькаўшчыны, клопат пра будучыню, пра тыя ідэалы, якія павінны прыняць маладыя, каб працягваць жыццё годна і сумленна. Родны край паэт успрымае як Божы дар, які не павінен "загінуць у полымі новай вайны". Гаворачы пра Беларусь увогуле, аўтар не забываецца і пра сваю малую радзіму — Аршаншчыну, з любоўю апявае Нясвіжчыну, з якой звязаны лепшыя гады жыцця. Кніга ўжо знайшла прыхільнікаў сярод аматараў паэзіі, чытачоў бібліятэк Нясвіжскага раёна.

**Валянціна ШЧАРБАКОВА**

Галерэя "Акадэмія" Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў падрыхтавала чарговую экспазіцыю "Ferrum.by". Свае творы прадставілі студэнты і выпускнікі двух факультэтаў БДАМ — мастацкага дызайну і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Наведвальнікам работы спадабаліся. Будучыя майстры маюць добры густ і цудоўна арыентуюцца ў складаных лабірынтах сучаснага дызайну і скульптуры.

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць глыбокае спачуванне пісьменніку Зэкаву Анатолю Мікалаевічу з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць у сувязі са смерцю пісьменніка Мікалая Трафімавіча ЧАДОВІЧА і выказваюць шчырыя спачуванні яго блізкім і родным.

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці грамадскага дзеяча і вядомага кінематаграфіста Юрыя Мікалаевіча ЦВЯТКОВА і выказвае шчырае спачуванне яго родным і блізкім.

# «Чытаем разам» — далучайся!

Алеся ЛАПІЦКАЯ

**Праблема нізкай цікавасці да кнігі даўно абмяркоўваецца і аналізуецца. Аднак, каб змяніць сітуацыю, неабходны канкрэтныя дзеянні. Мала напісаць добрую кнігу — трэба яшчэ і зацікавіць магчымага чытача. І вось пісьменнікі ўзяліся за справу папулярызацыі беларускай кнігі сярод сучаснай моладзі — зрэшты, прывабіць да чытання школьнікаў прасцей, чым дарослых, бо на дапамогу абавязкова прыйдуць бацькі, настаўнікі, бібліятэкары.**


Фота Кастуся Дробава

> *У лютым 2011 года распачынаецца рэспубліканская акцыя "Чытаем разам", якая будзе доўжыцца да лютага 2012 года. Удзел у акцыі прымуць 14 раёнаў (па два з кожнай вобласці і адзін з горада Мінска). Кожнаму раёну будзе прапанавана адна з 14 вызначаных арганізатарамі кніг сучасных беларускіх пісьменнікаў, якая будзе чытацца і абмяркоўвацца на разнастайных культурных мерапрыемствах. Удзел у акцыі могуць прыняць усе ахвотныя!*

Нацыянальны цэнтр мастацкай творчасці дзяцей і моладзі, рэдакцыі часопісаў "Бярозка" і "Вясёлка" прапануюць усім жадаючым далучыцца да правядзення рэспубліканскай акцыі "Чытаем разам". Галоўны рэдактар "Бярозкі" Алена Масла, галоўны рэдактар "Вясёлкі", старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Вясёлка" Анастасія Радзікевіч прэзентуюць свой праект чытачам "ЛіМа".

**Уладзімір Ліпскі:** Менавіта чытво — незвычайная дзея выхавання душы. Яно дае пачуццё сувязі з нечым высокім, пранізлівым, што кранае да самага споду. Апошнім часам моладзь перастала чытаць, таму ўзнікла жаданне не сядзець склаўшы рукі — асабліва нам, пісьменнікам, рэдактарам, — а ўзбудзіць прагу маладых чытачоў да сапраўднага мастацкага слова.

**Алена Масла:** Я нядаўна была на сустрэчы з чытачамі ў дзіцячай бібліятэцы № 1 — прыходзілі пяцікласнікі з 42 школы — і замест 45 хвілін мы размаўлялі з дзецьмі цэлыя дзве гадзіны! Якраз у 11 — 12 гадоў іх найвастрэй хвалююць пытанні ўзаемаадносін чалавека з чалавекам, чалавека са светам. Як бы ні развівалася тэхніка, чалавек заўсёды застаецца ў духоўных пошуках, у якіх дапамагаюць добрыя кнігі з добрай скіраванасцю. Чытанне — гэта выхаванне чалавека. Таму з 2006 г. у ЗША, дзе камп'ютарызацыя даўно праведзена, распрацоўваюць нацыянальную праграму па вяртанні цікавасці грамадства да чытання. Супрацоўнікі сацыялагічных інстытутаў ЗША сцвярджаюць: чалавек, які мала чытае і толькі спажывае інфармацыю праз камп'ютар, мае значна ніжэйшы IQ, чым чалавек, які любіць кнігі. Той, хто чытае, мае больш высокі творчы патэнцыял, ён здатны самастойна мысліць і выдаваць прадукт. То бок, тэхніка гадуе грамадства спажыўцоў, дзеткі ж, якія чытаюць, — гэта людзі развітыя, духоўныя, адукаваныя.

**Анастасія Радзікевіч:** Кніга для дзяцей, для вучняў пачатковых класаў абавязкова павінна заставацца ў традыцыйным папяровым абліччы, бо чытаць з ранняга ўзросту з камп'ютара, з электроннага носьбіта не зусім добра. Шкада, што сёння моладзь у 16 — 18 гадоў чытае значна менш, чым чыталі ў свой час мы. Чытанне дае магчымасць развівацца, павялічваць эрудыцыю, пашыраць слоўнікавы запас, асэнсоўваць духоўныя, маральныя праблемы.

**А. М.:** Я як маці лічу: калі ў цябе няма часу займацца з дзецьмі альбо ты не хочаш гэтага рабіць — ты аддаеш малых тэлебачанню, камп'ютару. Калі ж ты хочаш з імі займацца, то адзін з найлепшых спосабаў баўлення часу — сумеснае чытанне кніг. І тут ужо кожны з дарослых робіць, па-першае, выбар — займаецца ён дзецьмі ці не, — і, па-другое, нясе за гэта адказнасць.

**У. Л.:** Рэспубліканская акцыя "Чытаем разам" мае на мэце прыцягнуць школьнікаў да чытання кніг. Наш праект падтрыманы на самым высокім узроўні: мы вялі перамовы з міністэрствамі адукацыі, культуры, інфармацыі — усе згадзіліся на правядзенне акцыі, бо гэта вельмі патрэбна.

**А. Р.:** Каб зацікавіць чытаннем, мы сабралі сапраўды натхнёных людзей. Калі будзе ўнутраны запал, матывацыя, дзеці абавязкова захочуць прачытаць прапанаваныя кнігі.

**А. М.:** Мы імкнёмся не толькі далучыць да чытання моладзь, але і разварушыць дарослых, аб'яднаць людзей, неабыякавых да кнігі, да дзяцей. "Бярозка" разам з часопісам "Бібліятэка прапануе" з верасня 2010 года праводзіць акцыю "Чытаем па-беларуску!". І няхай узнікне яшчэ з дзясятак акцый, няхай далучацца новыя групы, ствараюцца новыя ініцыятыўныя групы — мы разам, па кропельцы, збяромся ў ручаінку, а можа, і ў раку!

**У. Л.:** Сутнасць праекта — вызначыць 14 кніжак і праверыць іх, "катнуць" да чытача. Будзе вызначана 14 раёнаў — па два ў кожнай вобласці і два ў Мінску. Распачаць акцыю ўзяўся Дзяржынскі раён — там будуць чытаць маю кніжку "Азбука жыцця". Яна ўжо ёсць у раёне ў колькасці 300 асобнікаў. Гэта не проста кніга для дзяцей, гэта дзіцячая энцыклапедыя ад "А" да "Я" — адказы на складаныя пытанні, якія задаюць дзеці: што такое дзяржава, інфармацыя, спадчына? Пасля кожнага раздзела ідуць дамашнія заданні: пытанні, рэбусы. Паглядзім, што ў гэтай кнізе зацікавіць дзяржынскіх дзяцей.

**А. Р.:** Ідэя акцыі нарадзілася менавіта ў Дзяржынскім раёне: мы былі запрошаны туды на раённую навагоднюю ёлку і падчас узнагароджвання лепшых вучняў-пераможцаў конкурсаў і алімпіяд падумалі: трэба пачаць чытаць кніжкі раёнамі — выхаваўчыя творы вядомых беларускіх аўтараў. Першым, хто падтрымаў нас, быў Вацлаў Іванавіч Матусевіч — незвычайна інтэлігентны чалавек, загадчык аддзела адукацыі Дзяржынскага раёна.

**У. Л.:** Да акцыі будуць далучаны вучні 1 — 11 класаў. На працягу месяца ў раёне будуць чытаць пэўную кнігу, у выніку мы вызначым лепшых чытальнікаў, і іх дэлегацыя павязе эстафету ў іншы раён (галоўнае, каб не ў сваёй вобласці — так цікавей!). А чаму б не? Дзяржынскія школьнікі павязуць эстафету, напрыклад, у Міёрскі раён, а потым дэлегацыя наведае Полацк — уяўляеце, якія яны вернуцца натхнёныя!

**А. Р.:** Прапанова Уладзіміра Сцяпанавіча пра эстафету — прыклад таго, як генерыруюцца новыя ідэі… А сярод ужо распрацаваных намі мерапрыемстваў — інтэграваныя майстар-класы з рэкамендацыямі пісьменнікаў, конкурс малюнкаў па прачытаных кнігах "Як я ўяўляю кнігу", абмеркаванне любімых кніжак, якія дапамаглі зразумець і адчуць нешта новае, — "Разам з кнігай вырастаем", сумеснае чытанне твораў аўтараў часопісаў "Вясёлка" і "Бярозка".

**Алеся Лапіцкая:** Якія кнігі, якія мерапрыемствы будуць прапанаваныя вучням 10 — 11 класаў?

**А. Р.:** Для вучняў старшых класаў мы падрыхтуем медыяагляд з удзелам выкладчыкаў ВНУ "Дапаможнік", дзе ўвага будзе скіраваная на класіку беларускай літаратуры, якую маюць добра ведаць сённяшнія выпускнікі і абітурыенты, а таксама правядзём дзелавую гульню "Чытаймер поспеху" — з удзелам людзей, што шмат чыталі і шмат дасягнулі. Можна прапанаваць і флэш-акцыю "Класіка на памяць", падчас якой высвятліцца, наколькі добра вучні ведаюць на памяць вершы беларускіх паэтаў, арганізаваць інтэрактыўныя ўрокі з абмеркаваннем краязнаўчых матэрыялаў "Я тут жыву". Спіс з назвамі кніг і аўтараў пакуль будзе інтрыгай…

**А. Л.:** Паводле палажэння акцыі, у 14 раёнах будуць чытаць 14 кніг. Якім чынам будуць вызначаны раёны і кнігі? Усе школьнікі аднаго раёна будуць чытаць адну пэўную кнігу альбо атрымаюць магчымасць выбраць і прачытаць тое, што больш спадабаецца?

**У. Л.:** Лепшы прынцып дэмакратыі — гэта парадак. Таму, я думаю, пэўны раён будзе чытаць вызначаную кнігу. Але мы ж не забараняем чытаць іншых! Можна параўноўваць, супастаўляць…

**А. М.:** Пры вызначэнні 14 кніг, якія мы будзем чытаць падчас акцыі, трэба найперш зыходзіць з магчымасці забяспечыць патэнцыяльных чытачоў. Бо 300 асобнікаў на раён — лічба немалая. У канчатковы спіс увойдуць нават кнігі, якія толькі рыхтуюцца ў выдавецтвах, бо трэба падкрэсліць: акцыя будзе доўжыцца цэлы год, з лютага 2011 года па люты 2012 года. Безумоўна, абраныя кнігі напісаныя на вартым узроўні, але мы не імкнёмся вылучыць іх як найлепшыя ў беларускай дзіцячай літаратуры. Што ж датычыць раёнаў, у якіх будзе праводзіцца акцыя, то ў некаторых з іх — напрыклад, у Барысаўскім — мы ўжо маем стасункі з настаўнікамі, бібліятэкарамі і абавязкова далучым іх да акцыі. Дзесьці давядзецца знаёміцца, шукаць кантакты…

**У. Л.:** Вядома, мы будзем імкнуцца далучыць да ўдзелу тыя раёны, дзе нарадзіліся аўтары кніг, а таксама зыходзіць са зместу твораў. Так, для чытачоў з Лагойшчыны будзе, спадзяюся, цікавай мая кніга "Янкаў вянок", бо ў гэтых мясцінах прайшло дзяцінства і юнацтва Янкі Купалы — тут Купала працаваў, тут пахаваў свайго бацьку і сясцёр. А жыхары іншага раёна, што прыедуць у госці, каб працягнуць эстафету, абавязкова наведаюць Акопы, што былі для Купалы роўнымі пушкінскаму Міхайлаўскаму.

**А. Р.:** У рэспубліцы яшчэ няма вопыту правядзення акцый такога маштабу, таму, каб вызначыць дакладны пералік мерапрыемстваў, што будуць праводзіцца ў школе альбо ў бібліятэцы, мы будзем зыходзіць з рэкамендацый тых хто непасрэдна працуюць з дзецьмі. Хацелася б праводзіць падчас акцыі апытанні для вызначэння колькасці чытачоў і іх прыхільнасцей, — да мерапрыемстваў і пасля правядзення акцыі.

**А. Л.:** Папулярнасць дзіцячых кніг у значнай ступені трымаецца на створаных паводле іх мультфільмах. Што робіцца ў нас у гэтым кірунку?

**А. М.:** Адносна нядаўна на "Беларусьфільме" былі зняты мультфільмы паводле народных казак — прычым, на беларускай мове. Але куды яны падзеліся, чаму іх няма на тэлебачанні, чаму іх не раскручваюць? Згадаем, напрыклад, славутую Астрыд Ліндгрэн. Яе творы і героі — яскравыя, запамінальныя. Але папулярнасць Карлсана і Пепі — у тым ліку і вынік магутнейшай піяр-кампаніі. А чаму б нам не заняцца стварэннем свайго нацыянальнага брэнда, які пасля будзе доўга прыносіць народу прыбытак?

**У. Л.:** Напрыклад, ходзіць у парку імя М. Горкага маленькі цягнічок — і кіруе ім звычайны дзядзька. А чаму б не апрануць у форму машыніста хлопчыка, які быў бы Міколкам-паравозам? Міколка — вядомы персанаж нашай дзіцячай літаратуры, гэтаксама як Вася Вясёлкін, што жыве ў нас у рэдакцыі.

**А. М.:** Галоўнае, што падчас акцыі адбудзецца дыялог з аўдыторыяй і ў людзей штосьці зрушыцца. Калі я была ў Швецыі, то пазнаёмілася са шведскай дзіцячай літаратурай — яна сапраўды цікавая, і я атрымліваю вялікае задавальненне, калі чытаю пераклады твораў шведскіх пісьменнікаў на беларускую мову. Але ў нас пішуць зусім не горшае, хай сабе параўноўваць мастацкія тэксты розных культур увогуле нельга. Проста шмат хто з дзяцей і іх бацькоў абсалютна не мае ўяўлення пра тое, што адбываецца сёння ў нашай літаратуры. Акцыя "Чытаем разам" будзе выдатнай магчымасцю расказаць пра беларускіх дзіцячых пісьменнікаў і іх кнігі.

*А зараз увага! Калі вы з'яўляецеся работнікам устаноў культуры і адукацыі, калі працуеце ў бібліятэцы альбо ў цэнтры дзіцячай творчасці — паведамляйце пра свой намер падтрымаць арганізатараў акцыі "Чытаем разам"! Дасылайце прапановы на электронныя скрыні* ***bjarozka@mail.ru*** *ці* ***vyaselka@mail.by*** *альбо тэлефануйце ў рэдакцыі часопісаў "Бярозка" (288-24-62) і "Вясёлка" (200-92-61, 204- 62- 83).*

*Вы можаце стаць і звычайным удзельнікам акцыі: набывайце кнігі сучасных беларускіх дзіцячых пісьменнікаў, чытайце іх разам з дзецьмі ці ўнукамі і дасылайце свае ўражанні ад кніг і ад іх сумеснага чытання ў рэдакцыю "ЛіМа". Цалкам магчыма, што вашы бесстаронія арыгінальныя роздумы над сюжэтамі і героямі твораў, над афармленнем дзіцячых кніг будуць надрукаваныя на старонках нашай газеты. Чытайма разам!*

На здымку: удзельнікі размовы.

## *Шаноўныя чытачы!*

***Калонка з анкетай пісьменніка займела грамадскі рэзананс, які запатрабаваў працягу размовы. Поруч з гутаркамі пра мастацтва і творчасць ёмкія і праўдзівыя словы пісьменнікаў становяцца сапраўднай завочнай дыскусіяй. Нам хацелася б адкрываць і іншыя грані і адценні ў сучаснай літаратурнай плыні. Таму мы прапануем вашай увазе тры наступныя пытанні. Публікацыя адказаў на іх будзе чаргавацца з ранейшымі анкетамі, якія яшчэ засталіся ў рэдакцыйным партфелі.***

**1. Як вы лічыце: ці павінна ў агульнай літаратурнай плыні прысутнічаць масавая літаратура? Ці згодны з думкай, быццам культура ўсяго грамадства абавязкова мае маскульт сваім ценем?**

**2. Якія кнігі, на вашую думку, цікавяць чытача? Ці праўда тое, што поспех літаратара ўсё больш залежыць ад майстэрства дызайнера і мастака, які афармляе кнігу, ад яе знешняга выгляду?**

**3. Якім ён ёсць, наш сучаснік? Што ў яго характары надае аптымізму?**

# Край захаванай спадчыны

Ірына ТУЛУПАВА,
фота аўтара

**Адным з лаўрэатаў спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2010 года стала дырэктар Гомельскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Таццяна Уласава. На высокім дзяржаўным узроўні адзначана дзейнасць па распаўсюджванні краязнаўчых ведаў.**

### Сярод гістарычных помнікаў

Культурная сталіца 2011 года — Гомель — сустракае гасцей, як быццам не клапоцячыся пра ўражанне, якое пра сябе стварыць. Часцей так бывае сярод людзей: калі чалавек, перакананы ў сваіх поглядах і звычках, які годна пачувае сябе ў грамадстве, дбае толькі пра той след, які застанецца ад сустрэчы з калегам, аднадумцам, сябрам. Устаноў культуры ў горадзе шмат, і яны не даюць чалавеку стаць тым нецікаўным мінаком, якому ў гэтым жыцці ўсё абыякава: і адноўленыя вехі гісторыі, рысы якіх увасоблены ў адрэстаўраваным палацы Румянцавых — Паскевічаў, і веліч Вялікай Перамогі, падрабязны шлях да якой прасочвае Гомельскі абласны музей ваеннай славы, і мудрасць продкаў, занатаваная ў рэчах, сабраных у філіяле Веткаўскага музея народнай творчасці. Ходзячы па пакоях ды калідорах гэтых устаноў, сам сабе толькі і падзівішся, чаму не завітаў сюды раней: настолькі яны цікавыя ў абласным цэнтры. І Гомельскі палац цяпер — твор мастацтва, унутры якога — яшчэ сотні мастацкіх твораў: у кожным пакоі, на кожнай сцяне, кожнай паліцы: тут быў таксама вялікі збор кніг, якія любілі яго гаспадары…

З думкай пра горад і яго жыхароў не прамінеш і яшчэ два будынкі, дзе назапашана найбольш значная інфармацыя: у навуковых крыніцах, мастацкіх тэкстах, публіцыстычных артыкулах. Дзве галоўныя кніжныя скарбніцы — Гомельская абласная і Гомельская гарадская бібліятэкі — таксама навідавоку, у цэнтры. Фасад Гомельскай абласной бібліятэкі выходзіць на плошчу Перамогі, Гомельскай гарадской — на вуліцу Савецкую. Яны някідкія, але заўважныя: у Гомельскай абласной як помніка архітэктуры пачатку 60-х гадоў ХХ стагоддзя, у гарадской — да таго яшчэ — як нядаўна абноўленай пасля рамонту.

### Эмацыянальны выбух

Рамонт будынка, нядаўна праведзены перад усяленнем сюды Гомельскай гарадской бібліятэкі, толькі падрэтушаваў рысы гісторыі. І — як быццам вызначыў характар дзейнасці ўстановы, якая тут размясцілася: краязнаўчы. Пераезд у гэтае старое-новае памяшканне Гомельская гарадская бібліятэка імя Герцэна сумясціла са святкаваннем свайго юбілею: ёй у 2009-м споўнілася 90!

Гледзячы на бібліятэку цяпер, лічбы гэтыя, каб яны адкляіся ў свядомасці, паўторыш неадойчы: настолькі яна сучасная. Расчыніш дзверы — і ўбачыш шырокую, адпаліраваную да мармуровага бляску лесвіцу, якая нагадвае шыкоўныя палацы. Але ўзнімешся на другі паверх — і перад вачамі разгортваецца карціна жыцця XXI стагоддзя. Стагоддзя сучасных тэхналогій і магчымасцей. І сустрэне вас найперш выстаўка выданняў пра Беларусь.

Па ходу дырэктар бібліятэкі Таццяна Уласава, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2010 года, патлумачыць: на першым паверсе размяшчаецца аддзел абанемента. Другі распачынае інфармацыйна-пошукавая зона, аказваюцца інтэрнэт-паслугі. Для наведвальнікаў створаны электронны каталог, ёсць свой сайт. Магчымасці для аддаленых карыстальнікаў — выключныя: маюць высакахуткасны Інтэрнэт, уласныя краязнаўчыя базы даных.

Як жа чытачы ўспрынялі такі пераезд і змену іміджу? Эмацыянальна чытач адрэагаваў імгненна, гэта можна прасачыць па ўхвальных запісах. Узрасла колькасць чытачоў: за 2010 год да 20 з лішкам тысяч павялічылася лічба наведванняў. Рэзка ўзрасла кнігавыдача: на 60 тысяч асобнікаў.

Менавіта ў цяперашнім памяшканні пасля доўгага перапынку ўпершыню адкрылі дзіцячы аддзел. Цэнтральная гарадская бібліятэка толькі ў трыццатыя гады ХХ стагоддзя абслугоўвала дзяцей! Цяпер тут больш як тысяча хлопчыкаў і дзяўчынак. Пры тым, што бібліятэка знаходзіцца ў цэнтры горада і маладых сем'яў не так і шмат.



### Расказваць пра людзей

"Нам шчасціць праз усю дарогу на людзей, — працягвае думку Таццяна Уласава. — Яны дапамагалі пераконваць скептыкаў, хто не спяшаўся развітацца са сваімі кансерватыўнымі поглядамі на бібліятэку. Дзякуй богу, што знайшліся тыя, хто нам падказваў і дапамагаў. На кожным этапе яны былі. А хацелася, каб і залы былі адпаведныя. І мэблю, якой так захапляюцца наведвальнікі, выраблялі на прадпрыемстве "Гомельдрэў".

Альбо кажуць: пакажыце, дзе напісана, што ў бібліятэцы павінна быць выставачная зала? — а я ведаю, што яна павінна быць! Фактычна ўсе выстаўкі маюць краязнаўчы кірунак.

Таму што мэта — расказаць пра людзей, якія жывуць у горадзе".

*"Гарадское краязнаўчае таварыства на базе бібліятэкі працуе 12 гадоў. Энтузіясты яго стварэння — выкладчыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны, супрацоўнікі палацава-паркавага ансамбля, прыватныя асобы. За гэты час прайшло 83 пасяджэнні, па выніках пасяджэнняў выдалі зборнікі краязнаўчых матэрыялаў . Да прыкладу, у 2010 годзе адно з пасяджэнняў мела назву "Таямніцы народнай душы: абрадавы фальклор Гомельскага раёна". Асноўная мэта ў працы краязнаўчага таварыства — расказваць пра невядомыя старонкі гісторыі горада, вобласці.*

Выстаўкі — разнапланавыя. Сумесна з аддзелам адукацыі Гомельскага гарвыканкама праводзілі конкурс, прысвечаны гербу горада, якому 450 гадоў. Работы школьнікаў паказвалі ў розных тэхніках: саломка, вышыўка, нават вырабы з цеста.

Да дня абароны дзяцей прайшла выстаўка лялек. Праз выстаўку даведаліся пра захапленні дарослых людзей. Анжаліка Шабалтас — член Саюза мастакоў Беларусі — стварае аўтарскую ляльку. Шэсць сваіх работ падаравала бібліятэцы. Святлана Бацунова, якая жыве ў Гомелі і з дзяцінства займаецца вышыўкай, прэзентавала ў бібліятэцы выставу сваіх твораў: вышытыя крыжыкам карціны, пераважна сюжэты Рафаэля. На маскоўскай міжнароднай выстаўцы сярод 600 удзельніц яна трапіла ў дзясятку лепшых.

Выстаўка Клуба калекцыянераў — людзей вельмі адукаваных і сур'ёзных, у каго найбагацейшыя калекцыі, — уразіла шматаблічнасцю: былі выстаўлены мініяцюрныя кнігі, грашовыя знакі, "акопная" літаратура, нават нацельныя крыжыкі (быў крыжык далёкага XII стагоддзя). Таксама — абрадавае ліццё, манеты. Калекцыі шануюць, таму вельмі рэдка іх выстаўляюць. Поспех быў нечуваны.

Да дня горада была падрыхтаваная выстаўка, прысвечаная творчасці пісьменнікаў-гамяльчан. Усяго ж летась прайшло 27 выставак.

### Працаваць… і зноў нараджацца

Цяпер бібліятэка пачала рыхтаваць уласныя краязнаўчыя бібліяграфічныя выданні, у тым ліку штогадовы агляд "Гомель: людзі, падзеі, факты". Краязнаўчы кірунак з'яўляецца прыярытэтным і пры стварэнні электронных інфармацыйных рэсурсаў: "Мастакі і пісьменнікі Гомеля", "Гомель: старонкі гісторыі", базы даных пра ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны — ураджэнцаў Гомеля. Таксама ў распрацоўцы база "Вуліцы Гомеля", "Гістарычныя дзеячы".

Гарадское краязнаўчае таварыства на базе бібліятэкі працуе 12 гадоў. Яго дзейнасць падтрымліваюць выкладчыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны, супрацоўнікі палацава-паркавага ансамбля, прыватныя асобы. За гэты час прайшло 83 пасяджэнні, па выніках пасяджэнняў выдалі зборнікі краязнаўчых матэрыялаў. Да прыкладу, у 2010 годзе адно з пасяджэнняў мела назву "Таямніцы народнай душы: абрадавы фальклор Гомельскага раёна". Асноўная мэта ў працы краязнаўчага таварыства — расказваць пра невядомыя старонкі гісторыі горада, вобласці. На базе матэрыялаў, якія распрацоўваюцца навуковай грамадскасцю і бібліятэкарамі. Задача — росшук і апрацоўка інфармацыі. Пасля — яе папулярызацыя.

Цяпер стварвецца музей рэдкага аўтографа, які плануецца адкрыць сёлета.

— Што ж такое краязнаўства?

— пытаюся ў Таццяны Савельеўны, узнагароджанай менавіта за ўкараненне інавацыйных форм работы па распаўсюджванні краязнаўчых ведаў.

— Гэта вельмі шырокае паняцце. Але галоўнае — людзі, якія жывуць у гэтым краі, чым яны займаюцца, як уплываюць на развіццё свайго горада, сваёй малой радзімы. Што яны могуць зрабіць, каб яна стала прыгажэйшай. Гісторыя любой краіны складаецца з іх лёсаў.

— А што такое інавацыі?

— Ведаеце, час мяняецца. І мы шмат выкарыстоўваем традыцыйных форм працы. Але каб быць цікавымі, трэба не адставаць ад часу. Бібліятэкар цяпер робіць шмат таго, што не з'яўляецца ўласна бібліятэчнай працай. Тая ж выставачная дзейнасць. Альбо элементы музейнай справы. Але мы лічым, што так больш раскажам чытачам. І ў электронным выглядзе інфармацыю даводзім. Запусцілі новыя серыі краязнаўчых бібліяграфічных выданняў. У мінулым годзе — "Імя ў гісторыі", "Дата ў гісторыі". Ёсць краязнаўчы выпуск: "Гомель: людзі, падзеі, факты". Праходзіць год, па матэрыялах друкаваных выданняў, робім выпускі, дзе храналагічна паказана, што адбывалася ў горадзе.

— Дзе ж рыхтуюць краязнаўцаў-бібліятэкараў?

— Ды яны нараджаюцца самі! Пры ўмове, што ёсць цікавасць да гэтай дзейнасці. А калі няма, праваліш справу. Калі знаёмы з гэтым светам, усё зробіш як трэба.

***На здымку:** дырэктар Гомельскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Таццяна Уласава.*

## Першы крок

# Яшчэ адно свята кнігі

**Пра сваю першую бібліятэку распавядае паэт, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя" Уладзімір МАЗГО:**

— Чытаць я навучыўся вельмі рана, яшчэ да школы, маючы дома "Азбуку" і "Буквар". У першым класе адразу ж запісаўся ў школьную бібліятэку. Чытаў запоем, прагна, не адрываючыся, аддаючы перавагу прыгодніцкім і гістарычным кнігам. Паступова пашыралася кола бібліятэк і любімых аўтараў, фарміраваўся мастацкі густ. Кнігу сёння не заменяць ні тэлевізар, ні камп'ютар. Толькі кніга здольная быць для нас самым верным і самым шчырым сябрам, якому можна даверыць свае думкі і ўражанні.

Шмат цудоўных людзей, сапраўдных майстроў бібліятэчнай справы сустракалася за гэты час на жыццёвым шляху. І адна з іх — Яніна Шматко. Пазнаёміліся мы ў Зэльве, калі Яніна Людвікаўна працавала загадчыцай бібліятэкі ў зэльвенскай сярэдняй школе № 2. Зямлячка прапанавала мне кожны год на пачатку вясны праводзіць у роднай школе свята кнігі з удзелам беларускіх пісьменнікаў. Задума падалася даволі цікавай, і я адразу ж пагадзіўся. Так з'явіліся "Зэльвенскія сакавіны", якія праводзяцца ўжо каля двух дзясяткаў гадоў.

Юныя чытачы пад кіраўніцтвам Яніны Шматко рыхтаваліся да кожнага свята загадзя: складалі праграму, развучвалі творы гасцей, рыхтавалі музычныя нумары. Такія сустрэчы з творцамі выклікалі ў школьнікаў павышаную цікавасць да вывучэння роднай мовы і літаратуры, да знаёмства з музычным мастацтвам, да спасціжэння сакрэтаў творчасці. Разам з пісьменнікамі ў школу прыязджалі кампазітары, артысты, дзеячы культуры і мастацтва. Гэта Юрка Голуб, Мікола Маляўка, Уладзімір Марук, Алена Таболіч, Якаў Навуменка, Алег Елісеенкаў, Анатоль Грэкаў, ансамбль "Берагіня", Наталля Матыліцкая ды іншыя. Беручы пачатак са школьнага, свята паступова пашыралася да гарадскога і раённага.

## Вечарыны

# Маладосць душы

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

"Вы сабраліся тут з нагоды майго дваццацігоддзя, таму жадаю ўсім маладосці", — такімі словамі сустрэў запрошаных на святочную вечарыну ў Дом літаратара юбіляр Аляксандр Вашчанка. Сказаў і заінтрыгаваў. А сапраўды, колькі ж "стукнула" гэтаму энергічнаму, напоўненаму новымі ідэямі і планамі творцы? Таямніцу выдаў старшыня Мінскай гарадской арганізацыі СПБ Міхаіл Пазнякоў, павіншаваўшы юбіляра з 60-годдзем.

Працуючы большую частку жыцця школьным настаўнікам музыкі, Аляксандр Пятровіч прывык сувымяраць рытм свайго жыцця з рытмам жыцця сваіх вучняў. А можа, ён проста па прыродзе сваёй цікаўны чалавек. А цікаўныя імчаць па жыцці, акрыленыя новымі праектамі.

Юбілейная вечарына склалася для творцы — пісьменніка, барда, даследчыка даўніны, перакладчыка — своеасаблівым праектам. З аднаго боку — прэзентацыяй усёй шматграннай творчасці, з другога — адмысловым справаздачным канцэртам. Аляксандр Пятровіч праз літаратуру і музыку пераказаў гасцям сваё жыццё. І была тут, як узгадванне пра маленства, "Калыханка", напісаная на словы Янкі Купалы; і аўтабіяграфічнае апавяданне пра выпадковую сустрэчу хлопчыка-музыканта з выдатным гарманістам Мадрыдам, прачытанае са сцэны радыёрэжысёрам Алегам Вінярскім; і цудоўнае выкананне дуэтам з падрослым сынам песні, стылізаванай пад бардаўскую творчасць старажытных кельтаў. Кожны зацікаўлены мог набыць кнігу Шпілеўскага ў перакладзе і з каментарыямі Аляксандра Вашчанкі.

# «Не, класікі не паміраюць...»

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**




**А ўсё-такі цудоўную прыдумалі... Не, я маю на ўвазе не тое, пра што з такім натхненнем спяваў некалі Уладзімір Высоцкі: "Чудесную религию придумали индусы", а серыю "ЖЗЛБ" — выдавецкі праект, ля вытокаў якога стаялі Уладзіслаў Мачульскі, Віктар Праўдзін і Віктар Шніп. Канечне, паколькі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ён выходзіць толькі з 2004 года, яму яшчэ далёка да знакамітай серыі "ЖЗЛ". Тым не менш задума ўдалася. Якіх толькі імёнаў у ёй не напаткаеш! Уладзімір Мулявін (кніга, прысвечаная яму і славутаму ансамблю "Песняры", стала першынцам), Міхаіл Пташук, Мікалай Яроменка, Міхаіл Фінберг, Расціслаў Янкоўскі, Мікалай Чаргінец... А нядаўна "ЖЗЛБ" папоўнілася кнігай пра Івана Шамякіна "Летапісец эпохі". У гэты аб'ёмны том, укладзены Алесяй Шамякінай, увайшлі шматлікія матэрыялы, што дазваляюць лішні раз упэўніцца у тым, які велізарны ўнёсак І. Шамякіна ў развіццё беларускай літаратуры. Ёсць і мажлівасць даведацца, што за чалавек ён быў, якія схільнасці меў, чым захапляўся. Адкрыць для сябе ўсё тое, што і патрапляе пад вызначэнне "Жыццё знакамітых людзей Беларусі".**

Калі паспрабаваць коратка вызначыць, хто ж ён, І. Шамякін, то, бадай, найбольш дакладна зрабіў гэта ў сваіх згадках "Вернасць" Алесь Савіцкі:

"Чалавек, які не прымае зло і прызнае найвышэйшай вартасцю здольнасць дарыць людзям толькі дабро.

Салдат, які прайшоў Вялікую Айчынную вайну ад першай яе крывавай зарніцы да салюта Перамогі над знішчанай дашчэнту гітлераўскай ваеннай машынай.

Шчаслівы бацька, які выхаваў чацвярых дзяцей, а яшчэ больш шчаслівы дзядуля, акружаны ўнукамі.

Творца сусветнага ўзроўню, які напісаў дзясяткі раманаў, аповесцей і іншых літаратурных твораў, перакладзеных з беларускай мовы на дзясяткі іншых моў; агульны наклад яго твораў лічыцца ў мільёны паасобнікаў і працягвае кожны год прырастаць.

Усё гэта ён, Іван Пятровіч Шамякін, народны пісьменнік Беларусі, чыё імя на зямлі беларускай ведае і стары і малы; ён — без перабольшання — эпоха. І на яго кнігах духоўна выспявала не адно пакаленне нашых людзей".

З вялікай душэўнай цеплынёй, хораша піша пра І. Шамякіна Мікалай Чаргінец. Свае ўспаміны назваў проста, але разам з тым і сардэчна, так, як кажуць пра блізкага чалавека, па імені і па бацьку — "Іван Пятровіч". Ужо гэтага дастаткова, каб зразумець, як шмат значыў І. Шамякін у жыцці Мікалая Іванавіча, які глыбокі след пакінуў, як клопатна ставіўся да кожнага, каму патрэбная была ягоная падтрымка. Успаміны М. Чаргінца, аднак, не толькі пра І. Шамякіна, але і пра Андрэя Макаёнка, Мікалая Матукоўскага, а таксама пра жонку І. Шамякіна — Марыю Філатаўну.

Па сутнасці, гэта нават і не ўспаміны ў іх традыцыйным разуменні, а невялікая аповесць пра тых, з кім яго лучыла душэўнае і духоўнае пабрацімства. Лаўлю сябе на думцы, што М. Чаргінец, знайшоўшы для гэтага час, мог бы тэкст значна пашырыць, удакладніць тое, пра што гаворыцца мімаходзь. Не сумняваюся, што атрымаўся б твор не менш цікавы і значны, чым аповесць самога І. Шамякіна пра А. Макаёнка. Але і тое, што з'явілася з-пад яго пяра, сведчыць пра тое, наколькі М. Чаргінец, застаючыся лаканічным, можа сказаць шмат.

Іосіф Хаўратовіч ("На чале энцыклапедычных ведаў"), які падчас працы І. Шамякіна галоўным рэдактарам Беларускай Савецкай Энцыклапедыі быў ягоным намеснікам, падае нямала таго, што звязана з працай Івана Пятровіча на гэтай адказнай пасадзе. Аўтар прыходзіць да высновы, з якой нельга не пагадзіцца: "Праз многія гады, з вышыні сённяшняга часу, можна ўпэўнена сцвярджаць: гэты перыяд быў яе (галоўнай рэдакцыі Энцыклапедыі. — **А. М.**) залатым векам". Чытач, які сочыць за энцыклапедычнымі выданнямі, у правільнасці такой высновы можа ўпэўніцца па тым, як шмат іх, знакавых, з'явілася за час "шамякінскага рэдактарства".

Гэтаксама праўда на баку Янкі Сіпакова ("Увесь лад жыцця"), калі ён сцвярджае: "Праца Івана Шамякіна ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі засталася цэлаю эпохаю ў беларускай літаратуры. Сябруючы з многімі дзяржаўнымі кіраўнікамі асабіста, ён ведаў куды пайсці і да каго звярнуцца па любым пытанні. Яго паважалі і яго слухаліся. Таму пры ім у Саюзе пісьменнікаў было спакойна, яму, здавалася, нічога ніколі не пагражала. Нават ужо не працуючы там, Шамякін жыў клопатамі Саюза — рэкамендаваў маладых таварышаў на пісьменніцкія пасады, клапаціўся пра часопісы, кідаўся ратаваць Дом літаратара, які пабудаваны менавіта пры ім. Мяне ўгаворваў на намесніка рэдактара часопіса "Маладосць" — нават аб'ектыўку для ЦК напісаў".

З тых, хто добра ведаў Івана Пятровіча, знаходзіўся з ім у сяброўскіх адносінах, — і Уладзімір Ліпскі. Таму ягоныя згадкі пра сустрэчы з І. Шамякіным, сумесную працу ў Саюзе пісьменнікаў уражваюць такімі сведчаннямі, якія мог прывесці толькі той, хто добра ведаў яго. Але Уладзімір Сцяпанавіч (зрэшты, як і шмат якія аўтары гэтай кнігі) удала выходзіць за межы асабістага, няхай і важнага, паказваючы, якога выдатнага сучасніка мы мелі ў асобе І. Шамякіна. І не толькі пісьменніка, а і чалавека: "Іван Пятровіч Шамякін — з вялікай літары Чалавек. Калі ён сябраваў, то сябраваў верна і аддана. Калі браўся дапамагчы маладому аўтару атрымаць кватэру ці тэлефон, то дабіваўся свайго. Калі душа плакала, то ён не хаваў гэтага. Калі душа яго радавалася, то ад святла дабрыні і пяшчоты хораша было ўсім, хто яго акружаў".

Што ні старонка кнігі "Летапісец эпохі", то абавязкова штосьці такое, што пашырае ўяўленне пра І. Шамякіна, дазваляе ўбачыць яго з нейкага іншага боку ці прыгадаць тое, што яшчэ не было сказана. Але калі часам і мільгне ўжо вядомае, гэтаму не здзіўляешся. І. Шамякін, калі мець яго на ўвазе як Асобу, быў адзін. Прытым Глыба, Велічыня, Маштабнасць... Можна яшчэ нямала эпітэтаў прывесці, характарызуючы яго.

Аднак І. Шамякін — адзін, а тых, хто прамаўляе пра яго слова, шмат. І ўсе яны ў той ці іншай ступені канктактавалі з ім. І перад кожным Іван Пятровіч раскрыўся аднымі і тымі ж характэрнымі для яго рысамі, бо не ўмеў (і не хацеў) штосьці недагаворваць, паводзіць сябе няшчыра. Адсюль часам і ствараецца ўражанне, што быццам нанава далучаешся да ўжо вядомага. Але на гэта не звяртаеш увагі, бо на першы план выступае іншае: даверлівасць інтанацый, падзейная і фактычная насычанасць згадак. Гучыць свайго роду споведзь пра таго, каго любіў і паважаў, хто быў, ёсць і будзе для цябе заўсёды жывым.

Ва ўсякім разе, менавіта так успрымаеш успаміны Алены Васілевіч, Уладзіміра Гніламёдава, Раісы Баравіковай, Міколы Мятліцкага, Георгія Марчука, Галіны Васілеўскай, Генрыха Далідовіча, Генадзя Бураўкіна,

*Што ні старонка кнігі "Летапісец эпохі", то абавязкова штосьці такое, што пашырае ўяўленне пра І. Шамякіна, дазваляе ўбачыць яго з нейкага іншага боку ці прыгадаць тое, што яшчэ не было сказана. Але калі часам і мільгне ўжо вядомае, гэтаму не здзіўляешся. І. Шамякін, калі мець яго на ўвазе як Асобу, быў адзін. Прытым Глыба, Велічыня, Маштабнасць... Можна яшчэ нямала эпітэтаў прывесці, характарызуючы яго.*

Анатоля Бутэвіча, Ніны Чайкі, Рыгора Сакалоўскага, Івана Стадольніка, Ганада Чарказяна, Уладзіміра Сауліча, Навума Гальпяровіча... Дый іншых таксама, хто палічыў для сябе абавязкам згадаць Івана Пятровіча.

Над усімі гэтымі ўспамінамі — я думаю, што ўсе, хто пісаў пра І. Шамякіна, не пакрыўдзяцца за такое маё сцверджанне — дамінуюць успаміны дачок Івана Пятровіча, Ліны, Таццяны і Алесі: "Успаміны пра маленства", "Іван Шамякін і вёска", "Апошнія дні майго бацькі". Дамінуюць, бо гэта самыя дакладныя сведчанні пэўных момантаў ягонага жыцця і творчасці. Дый як жа іначай, калі ўсё гэта гучыць з першых вуснаў.

Асабліва цікава тое, што напісана старэйшай дачкой пісьменніка. Магчыма, я і памыляюся, але гэта, як мне здаецца, ці не першае выступленне Ліны Іванаўны ў друку. Тым больш цікава чытаць, як яна, вяртаючыся ў гады свайго маленства, не толькі перадае тое, што асабліва запомнілася ёй, але і ў пэўнай ступені паказвае тую атмасферу, у якой фарміраваўся пісьменніцкі талент Івана Пятровіча, як паступова І. Шамякін станавіўся менавіта І. Шамякіным — класікам нацыянальнай літаратуры.

Змешчаны і творы самога Івана Пятровіча. Гэта дзённікавыя запісы апошніх гадоў, а таксама запісы, аб'ядналыя назвай "Даваенны сшытак". А. Шамякіна знайшла яго — правільней, тое, што ад яго засталося (сшытак не мае ні вокладкі, ні першых, ні апошніх старонак), летам 2004 года, калі разбірала кніжныя шафы ў дачным гаражы бацькі. Так і прыйшла да чытача, кажучы словамі Алесі Іванаўны, "першая публікацыя першых спробаў пяра" І. Шамякіна. Як і ягонае апавяданне "Выпрабаванне пачуццяў", напісанае ў 1945 годзе, калі будучы пісьменнік знаходзіўся яшчэ ў дзеючай арміі, "твор быў дасланы Васілю Вітку, які працаваў у той час адказным сакратаром часопіса "Беларусь"".

Апавяданне гэтае не было надрукавана, але, на шчасце, яно зберагглося ў архіве Цімоха Васільевіча. Цяпер можна з гэтым творам пазнаёміцца, адчуўшы, наколькі малады на той час аўтар, намацваючы сваю сцяжыну ў літаратуры, кіраваўся прынцыпамі высокай маральнасці, выпрабоўваючы на яе і герояў свайго апавядання — сяржанта Налётава, у якога на радзіме засталася сям'я, і дзяўчыну Маргарыту, якую ён пакахаў, але не змог пераступіць праз сваю колішнюю любоў.

Дзённікавыя ж запісы, у першую чаргу апошніх гадоў, — гэта па сутнасці тое, чым жыў усенародна прызнаны і любімы пісьменнік у той час, калі ўсё бліжэй падступаўся да мяжы, за якой жыццё пераходзіць у іншае вымярэнне і пачынаецца вечнасць. Тады І. Шамякін жыў клопатна і заклапочана. Не столькі пра сябе думаў, колькі пра лёс роднай мовы, народа, літаратуры. Пра лёс Беларусі. Разам з тым, ні ў чым не даваў сабе паслаблення.

Прынамсі, шмат чытаў. У прыватнасці, пра гэта сведчыць запіс, датаваны 30 лістапада 2000 года: "Цяпер у мяне асаблівая цікавасць да біяграфій пісьменніцкіх. Прачытаў бадай усе біяграфіі Маруа. У ЖЗЛ — Чэхава, Гогаля. Сяргей прынёс два тамы "Пушкин в воспоминаниях современников". Зараз чытаю Ю. Лебедзева "Тургенеў". Сумнавата — не Маруа: менш пра жыццё (Івана Сяргеевіча, пра Паліну Віярдо), больш — пра сацыяльна-эканамічнае сітановішча ў Расіі ў 50-60 гг., дарэформеннай і пасля рэформеннай. Навошта мне гэта? — часам думаю. Але нічога не прапускаю — усё чытаю. Прагнасць".

9 снежня — чарговае прызнанне: "Зараз маё начное чытанне — Авідзій. О Божа! Навошта мне Авідзій?! У 80 гадоў! Растрачваю рэшткі сіл. Ці такая актыўнасць прадаўжае жыццё?". Запіс ад 24 снежня 2000-га: "Шкадую, што мала чытаю сучасных рускіх раманаў. Ды і сваіх". Маюцца на ўвазе творы, напісаныя беларускімі пісьменнікамі. Хоць Іван Пятровіч не прапускаў таго, што варта ўвагі. Пры гэтым радаваўся таленту аўтара. Радаваўся так, як гэта ўмеў рабіць толькі ён: "З захапленнем чытаю кнігу У. Ліпскага "Я. Праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод". Даўно мне хацелася напісаць радаслоўную свайго роду. Цікава. Не хапіла духу. Не мог я аддаць гады архіву. Валодзя, вучань мой, зрабіў подзвіг. А. Міхальчанка, старшыня Камітэта па архівах, у пасляслоўі назваў Ліпскага "Калумбам архіўнай справы". Сапраўды Калумб! Малайчына! Такая кніга будзе жыць вечна! Гэта праца за ўсіх гісторыкаў, літаратуразнаўцаў".

І, нягледзячы на тое, што здароўе падводзіла ўсё больш і больш, жыў новымі творамі. Не мог гэтага не рабіць. Прызнанне ад таго ж 24 снежня: "Засвярбелі рукі пісаць. Шукаю сюжэт. Ці знайду?".

Ёсць у кнізе і раздзел "Радасць зноў ці трывожнае шчасце...", змест якога склалі вершаваныя прысвячэнні Івану Пятровічу. Кола аўтараў прадстаўнічае: П. Пранузa, В. Макарэвіч, М. Мятліцкі, П. Прыходзька, М. Калачынскі, М. Аўрамчык, В. Лукша, В. Шніп. Сівалічна гучыць верш В. Лукшы "Класікі не паміраюць":

*Не, класікі не паміраюць —*
*Такі іх несмяротны род.*
*Што напісаць*
*не паспяваюць,*
*За іх дапісвае народ.*

Таму, вобразна кажучы, і дапісвае, што класікі беларускай літаратуры, а ў дадзеным выпадку І. Шамякін, — плоць ад плоці народа, яны выражальнікі ягоных дум і спадзяванняў. Яны летапісцы эпохі і адначасова летапісцы жыцця свайго народа, а таму... Дазволю сабе звярнуцца і да верша "Начное акно Івана Шамякіна" Генадзя Пашкова, які змешчаны не ў гэтым раздзеле, а дапаўняе згадкі Г. Пашкова пра Івана Пятровіча "Пад ліўнем ля аркі":

*І хай сабе —*
*з нагоды,*
*без нагоды,*
*я паўтару,*
*хоць колькі пройдзе год:*
*калі пясняр такі ёсць у народа,*
*то за яго*
*паклон табе,*
*народ!..*

Больш нічога дадаваць і не трэба.

# Год — мінулы, літаратура — сучасная

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ




Паэтычная нізка Юркі Голуба, як заўсёды, на вышыні. Наогул, даўно трэба было б ужо з усёй сур'ёзнасцю пачаць гаварыць пра гэтага неардынарнага паэта, бо так, як ён, у Беларусі сёння не піша ніхто. Найперш я тут маю на ўвазе высокую культуру верша, што і пацвярджае чарговая падборка. Галоп, алітэрацыя, метафара, спалучаная са складана-выгінастай рыфмай, выклікаюць на памяць першыя кнігі Барыса Пастарнака. Але галоўнае, што хацелася б адзначыць, — надзвычай дакладны метрычны малюнак (найцікавейшы ў гэтым плане верш — "Крэсы вяртання"). Кожны верш вытачаны, як на станку, ніводнае лішняй стапы ці паўстапы, роўныя націскі. Такая культура верша ўражвае. Сапраўды, Юрка Голуб у наш час дыскрэтнасці і ўсхвалення распаду строфікі, бясконцых "смерцяў" — аўтара, паэзіі, гісторыі, філасофіі, — не здае неакласіцысцкіх пазіцый. Спачатку, можа, крыху і складана ўспрымаць такія вершы, аднак тут ёсць свой ключ: кожны катрэн выразна падзяляецца на 2 двухрадкоўі, кожнае з якіх, бадай, незалежнае і аб'яднана адным вобразам — часцей за ўсё метафарычным. Склейваць гэтыя спарышы-вобразы ў катрэнах і з'яўляецца найскладанейшай задачай, якая паступова, пры жаданні, пераадольваецца.

"Тры легенды" Віктара Гардзея прымушаюць згадаць баладную лірыку філаматаў — Чачота, Міцкевіча. Стройнасць радкоў, шыхты вобразаў, знітаваных у мастацкае апавяданне, яшчэ больш узмацняюць падабенства. Адно, што падспудна размывае баладны канон, — адступленні, паўзы-апісанні, у тым ліку і з аглядкай на сучаснасць і побытавасць. Бо разважанні, што плоткі і ляшчы ў Свіцязі добра бяруцца на вуду, крыху змяншае магічны легендарны напеў свіцязянскіх хваляў і суцішвае водгаласы затанулых гарадоў. Той жа баланс на мяжы эпічнасці і побытавага гумару сустрэнеш у легендзе "Адкуль мядзведзь?". Хіба толькі ў трэцяй баладзе, "Лебядзіная песня", вытрыманы сумна-элегічны тон, з кранальнай кульмінацыяй — уласна лебядзінай песняй. Але і тут, ужо на лексічным узроўні, праступае сучаснасць, — "бракан'ер", "драбавік". Але ў той жа час гэтае асучасніванне лексікі не ўзыходзіць да публіцыстычнасці "Жураўля" Ягора Ісаева, ды і страчвае міфапаэтычную заглыбленасць Чачота. Дзіўны сплаў, але — "тем и интересен".

Яшчэ ў аддзеле паэзіі — чарговая падборка "Балад крыві і любові" Віктара Шніпа і вершы паэта з Гомеля Юрыя Фатнева (у перакладзе з рускай мовы Міколы Шабовіча).

Найбольш мяне зацікавіла ў празаічнай частцы апавяданне "Аператар лёсаў" Раісы Баравіковай, якую даўно ўсе ведаюць як паэтэсу, але ў прозе яна таксама не першы год тарнуе сваю дарожку. Скажу шчыра, ірэальныя рэчы мяне не захапляюць так, як, можа, пакліканы яны. Я шукаю ў творы не выкшталцонасць, а — "стрэл у яблычак". Няхай гэта будзе адзін сказ, ці адзін абзац, ці адна старонка — але менавіта для таго і варта чытаць. Так, у Раісы Баравіковай мяне неаднойчы спынялі асобныя фразы, выразы. Вось, напрыклад, спалоханая і эмацыянальна наструнеуная "Марыя Пятроўна сціснула ў кулаку сурвэтку, якою яна выцірала кроў, што выцекла з-пад мяса, выкладзенага на стол з пакета". І так гэта адразу пераносіць у звычайную гарадскую кухню — хутчэй за іншапланетную талерку ці тэлепартацыйны апарат, далібог. Альбо вось такое пра іншасвет: "…Ціха прамовіла бабуля Соня і растала, знікла ў паветры, калі толькі яно было ў тым пакоі". Тут ужо рука аўтара, рука майстра. Але ўсё-ткі, каб лепш дыхаць тым адсутна-прысутным "паветрам" у апісанні ірэальнасці, трэба паказваць бяздонную глыбіню той тагасветнай "рэальнасці". У апавяданні пра аператара іншасвет — побытавы, чыста беларускі, дамавіковазапечны. Але, напрыклад, калі той жа Ю. Станкевіч выпраўляе свайго героя з ванны ў нейкую неабдымную матрыцу, дзе вядуцца незразумелыя статыстычныя падлікі, гэта настолькі ўражвае, што сапраўды паўдня адыходзіш ад пачуцця сапраўднасці ірэальнасці. Інакш кажучы, кідаючы каменьчык у студню іншасвету, не варта адразу бразгаць ім аб жалезнае дно вядра. Дна там няма, і чытач мусіць гэта напоўніцу адчуць.

Яшчэ сярод прозы нумара — заканчэнне рамана Міхася Южыка "Леапард на балконе" і выбраныя старонкі з "дзённіка настрою" Янкі Сіпакова пад назвай "Соты".

У раздзеле навуковых публікацый Васіль Шур даследуе онім-этнонім *Іван* у літаратурных творах і ў фальклоры.

Гутарка Зіновія Прыгодзіча з вядомым беларускім рэжысёрам Валерыем Анісенкам пад назвай "Тэатр пачынаецца… з Радзімы" лёгка можа стацца і мікракнігай, мікрабіяграфіяй тэатральнага дзеяча. Далібог, не кожны раз сустрэнеш у якім-кольвек выданні інтэрв'ю памерам у 20 часопісных старонак! Для прыхільнікаў таленту Валерыя Анісенкі і сталых наведнікаў Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі — сапраўднае свята, тым не менш. Бо дзе яшчэ дазнаешся столькі і адразу.

Таксама сярод крытычных матэрыялаў — рэцэнзія Казіміра Камейшы на зборнік дакументаў і матэрыялаў "Купала і Колас, вы нас гадавалі", што летась выйшаў у РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Мікола Мікуліч у "сентыментальны эцюдзе" "Хай будзе святло!" разважае пра творчасць Максіма Танка (рубрыка "Старонкі лёсу").

Кастусь Ладуцька адгукаецца рэцэнзіяй на чарговы зборнік эсэ і нарысаў Алеся Марціновіча "Пяшчота апалага лісця", што выйшаў у 2010 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

У краязнаўчым нарысе "Навагрудчына ў часы Адама Міцкевіча" Мікалай Гайба на аснове дбайна сабраных фактаў пра мястэчкі і вёскі навагрудскай зямлі шырока разгортвае карціну тамтэйшага жыцця ў XIX стагоддзі.




Адкрывае нумар інтэрв'ю з Міністрам інфармацыі Беларусі Алегам Праляскоўскім. Зацікавіў вось гэты фрагмент: "Что касается развития печатных и интернет-версий изданий, то оперативная, новостная информация уйдет в Интернет, в печатных версиях будет в основном аналитика. Это мировая практика, и региональная пресса здесь не будет исключением". Сапраўды, трэба толькі падтрымліваць тэндэнцыю ператварэння інфармацыйных жанраў у аналітычныя. Калі не Інтэрнэт, то тэлебачанне сёння паспяхова забяспечваюць бягучай інфармацыяй. Іншая справа, што не толькі рэгіянальны, але і цэнтральны друк не спяшаецца рабіць з сучаснасці высновы і развіваецца ў гэтым плане вельмі марудна.

Апавяданне Сяргея Саламахі "Скарб" пачалося за здароўе, а скончылася… Такое адчуванне, што аўтар, прыдумаўшы асноўную інтрыгу, не здолеў даходліва данесці яе да чытача мастацкімі сродкамі. У выніку яму на апошніх старонках даводзіцца шматслоўна тлумачыць, што ён меў на ўвазе. Але — заблытаешся і ў тлумачэнні. У творы ёсць аснова, ёсць стыль і зграбнасць, ёсць адчуванне мяжы, але ўсё-такі ў карцінку яно не складваецца.

Яшчэ ў раздзеле прозы — аповесць Фёдара Конева "Туман", "Два апавяданні" Леаніда Левановіча (першае з якіх, безумоўна, трэба выносіць з рубрыкі "Проза", бо гэта ўспаміны пра Васіля Быкава) у перакладзе аўтара і цыкл апповедаў Міколы Бусько пад агульнай назвай "Танцы ў небе". Усе творы падборкі М. Бусько, як і заззычай, прысвечаны прыроднай тэме, а менавіта — лесу. Аднак лірычнасць сям-там саскоквае ў нейкую іншую сваю праяву. Так, распавядаючы ў другім творы "Дочь Перуна" пра шаравую маланку, аўтар раптам пераходзіць к канцу ледзь не на газетны стыль і завяршае апавяданне сказам: "Так что старайтесь не попадаться на пути линейной или шаровой молнии".

Паэтычныя падборкі Святланы Яўсеевай, Тамары Красновай-Гусачэнкі і Андрэя Скарынкіна, бадай, не прыўносяць чагосьці новага ў разуменне гэтых лірыкаў. Яшчэ ў аддзеле паэзіі — вершы Міколы Кандратава ў перакладзе на рускую мову Сяргея Патаранскага і Аліны Чараховіч.

У рубрыцы "Сусветная літаратура" ў "Нёмане" публікуецца заканчэнне рамана Брэта Халідэя "Забойства замужняй цнатлівкі" (пераклад Зінаіды Краснеўскай) і ўрыўкі з "Нататак пісьменніка" Добрыцы Чосіча, сербскага творцы, тэарэтыка нацыянальнага руху і першага прэзідэнта Саюзнай Рэспублікі Югаславія (пераклад Івана Чароты). Дзённік адлюстроўвае складаныя падзеі ў жыцці Югаславіі на пачатку 1990-х гадоў.

У публіцыстычным аддзеле — гутарка Тацццяны Куварынай са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом, а таксама матэрыялы да 65-годдзя з дня заснавання часопіса "Нёман": выказваюцца Іван Чарота, Алесь Бадак, Алена Брава і інш. Тут жа — інтэрв'ю з рэдактарам часопіса "Наш современник" А. Казінцавым. Усе выступленні прысвечаны адной тэме — лёс літаратурнага часопіса ў наш час і ў будучыні. Якія яго вартасці і недахопы, што яго чакае ў перспектыве, як расквітнець і прадаць тоўсты часопіс, якія змены трэба прыўносіць у рэдакцыйную палітыку? — адказы на гэтыя пытанні кожны з пісьменнікаў і адміністратараў дае розныя. Цікава было прачытаць словы аднаго з рэдактараў, што ў Японіі для прыцягнення ўвагі да літаратурнага часопіса ладзіцца штогадовы літаратурны конкурс "Дэбют". І кожны раз дасылаецца каля 900 рукапісаў. Калі такое магчыма, то скардзіцца ўвогуле няма на што, бо на нашыя літаратурныя конкурсы не дачакаешся і паўсотні заявак.




Паэтычная падборка Алены Харук пад назвай "Табе адрасую вечар" выклікае неадназначную рэакцыю. З аднаго боку, тут ёсць удалыя вобразы, асобныя радкі, але з другога — яўныя праблемы з тэхнікай (з рыфмай, перадусім). Навідавоку тая патрэбная лірыку пластычнасць, без якой добры сілаба-танічны верш становіцца пустым. Будзем спадзявацца, што аўтар зверне ў далейшым увагу на тэхніку і над ёй не зачахне, як гэта часта, на жаль, бывае.

А вось Таццяне Будовіч хочацца пажадаць толькі хутчэйшага выдання новай кнігі. Бо тое, што рэгулярна друкавалася і ў "ЛіМе", і ў той жа "Маладосці", павінна мець нейкі заканамерны працяг. Галоўнае тут — адабраць лепшае. Яе падборка "Мой горад чакае свята" — сапраўднае свята.

Яшчэ ў паэтычным аддзеле — творы Анатоля Зэкава з падборкі "Роднае", вершы Генадзя Аўласенкі "Праз межы шкадаванняў і падзей", вершаваныя легенды Віктара Гардзея.

Апавяданне "Паліна" Таццяны Бацічэлі — экзістэнцыяльна-нервовае, вытрыманае ў "прыгожа-выродлівай" эстэтыцы, з элементамі псіхалагічнага мазахізму і ўсюдыісным комплексам віны. Як навіна — гэта, канечне, цікава. Але калі і ў наступных будуць паўтарацца тыя ж калізіі той жа пазнавальнай "лірычнай" (бо эпічнага развіцця падзей тут амаль няма; усё — у замкнёнай саліпсісцкай свядомасці) гераіні, то, як казаў Астап Бэндэр сыну лейтэнанта Шміта Шуру Балаганаву, "вашы кудзеры хутка прымільгаюцца, і тады вас пачнуць проста біць". У сэнсе — крытыкі. Але пакуль "купімся" на гэты падман.

Апавяданне Святланы Саўко "Нулявы кіламетр" (якое чамусьці не трапіла ў паказальнік зместу нумара) уяўляе сабой, хутчэй за ўсё, урывак з вялікафарматнага твора, бо заканчваецца неяк дужа раптоўна, толькі-толькі разгарнуўшыся. Увогуле добрая мова, дарэчныя апісанні і неперагружаныя ўнутраныя маналогі. Ці ўбачым калі той маштабны твор?

А вось аповесць Дзмітрыя Пятровіча "Джэк" убачыць можна. Твор, у адрозненне ад папярэдняга, вельмі нават закончаны, аднак тое не дадае яму аніякай вагі. Бадай, гэта было б неблагой серыяй аднаго з бразільскіх мыльных альбо мексікоўскіх любоўна-дэтэктыўных серыялаў. Калі ж разглядаць з пазіцый сур'ёзнай прозы, то твор не вытрымлівае крытыкі — надуманы сюжэт, слязлівамеладраматычны, пры якім на апошняй старонцы з'яўляюцца ўсе героі, што да таго фігуравалі, і, абняўшыся, плачуць у тры ручаіны; "даішнікі" з думкамі пра вечнае, мужныя капітаны і дзюдаісты, якія падаліся ў гісторыкі; ненатуральныя, штучныя дыялогі — карацей, усё, што так падабаецца сучаснай хатняй гаспадыні, тут можна знайсці. Ці не зрабіць з Дзмітрыя Пятровіча беларускую Аляксандру Марыніну?

У публіцыстычнай і крытычнай частцы — матэрыялы Кастуся Ладуцькі пра кнігу Алеся Марціновіча, інтэрв'ю Вікі Трыпуцінай з Пятром Васючэнкам (банальныя пытанні і змястоўныя адказы), занатоўкі з інтэрнацкай натуры Алы Саскавец, Ігара Запрудскага пра кнігі першага дзесяцігоддзя XXI ст., Віктара Мараховіча пра князя Даўмонта, Дар'і Гуштын пра 90-годдзе БРСМ, Ірыны Клімковіч пра Мінскі тэхналагічны каледж.

# Паэзія



Алена Агіна

* * *

І.Бісеву

Верасень, брат мой,
навошта нам час для развіту?
Лета мінула,
а снегу шчэ ў госці зарана.
Сад па начах абтрасае салодкую світу
Яблыкаў спелых,
што пахнуць атавай духмянай.

Памяць святлее.
Бліжэюць празрыстыя далі.
Крок толькі ступіш —
і лёсу ці зможаш скарыцца...
Ды халадае.
І астры бадай што завялі.
Зноў у лістоты пажоўклае —
водар карыцы.

Верасень, брат мой,
нягучны харал лістападу
Болей кранае,
чым Бах у высокім саборы.
Рада жыццю і пяшчотнаму сонцу я рада,
Дробязі кожнай
без суму-трывогі, што скора

Час той праб'е,
калі ўсё ж не падасца дзівацтвам
Сну перавагу аддаць —
не радкам пра каханне.
Чуеш, брыдуць туманы
асцярожна-груваста
І асядаюць на яблынях
перад світаннем.

Ведаеш, брат мой,
што трэба — даўно адбылося,
Восень брыдзе па палях,
шалясціць над дубровай.
Хлеб на стале.
І ўсяго ад жыцця засталося
Яблыкаў пару
на лаўцы блакітнай
садовай.

* * *

Пра што ўжо тут казаць,
як спрэчкі заціхаюць
З капрызлівым жыццём —
танее лёсу ніць.
І шэпчуцца лясы,
што восень адступае
І пожні за гумном зазімак серабрыць

Да самага паўдня.
А ўвечар зноў бялеюць.
Празрыстай цішынёй напоўненыя дні
Ідуць сабе ды йдуць,
нясмела карацеюць.
Яшчэ трывожаць сны.
Ды змоўкнуць і яны.

І лёгка дыхаць мне
даўно апалым лісцем,
Сцяжынкамі прайсці
каторы раз падрад
І ведаць без нуды:
настане дзень калісьці,
Як болей не прыйду
ў зажураны мой сад.

А мудрасць, пэўна, ў тым,
што лістападзіць восень
І марыць глыбіня
мацней вышынь абняць.
Як паўзы, што ў радках, —
аголеная просінь
Сярод пустых галін.
Пра што ўжо тут казаць?!.

* * *

Дзень праляцеў,
ні на грам не спатоліўшы мары,
Ды і суботні спакой
ад распяцця душу не ўбярог.
Свеце мой ясны,
ну вось мы з табою на пару
На скрыжаванні
бяспутна-здзічэлых дарог.

Серп серабра
нахіліўся над зжатымі нівамі,
Страсці асеннія хвілі скарочваюць сну.
Ціхі мой свеце,
якімі былі б мы шчаслівымі,
Каб наша восень прыйшла
не раней за вясну.
Каб не туга варажбы,
нібы звону апошняга,
Што працінае
трывожна-балюча, да слёз.
Каб ды калі б...
Толькі вокны забітыя дошкамі.
Ціха да вуснаў паднošу душу, нібы лёс.

Светла прыму,
што ў шляхах я змагу яшчэ вынесці,
Словы падзякі шапчу — і каўтаю віну
За дабрату,
што ў сваёй выратоўнае міласці
Чашай такою
Гасподзь і мяне не мінуў.

* * *

Хутка галінка грушы
Ўквеціць маё жытло,
Боль ад нягод прыглушыць,
Быццам сто год прайшло.

Памяць нячутна схлыне,
Зменіць зямля фасон.
Будзе цвісці галінка,
Бы красавіцкі сон.

Радасць — галінка грушы...
Кволяцца цені-дні...
Б'юцца сляпыя душы,
Як матылькі ў агні.

**З рускай пераклаў**
**Мікола ШАБОВІЧ**



Фота Кастуся Дробава

## Дэбют



Іна Фралова

**Іна Фралова нарадзілася ў 1972 годзе ў г. Мінску, скончыла педуніверсітэт імя М. Танка, працавала выхавальніцай у дзіцячым садку, цяпер хатняя гаспадыня, гадуе трох дачок. З вершамі ў "ЛіМе" выступае ўпершыню.**

* * *

Як жыла б я на свеце без гэтых бяроз,
Васількоў у духмяным пакосе?!
Каб закінуў куды незгаворлівы лёс,
Як і тысячы лёсаў заносіць!

Не спрачаюся, многа цікавых мясцін —
Ёсць і моры, і сінія горы,
Прыгажосць палюбіў іх паэт не адзін,
І чужыя свяцілі ім зоры.

Маё ж сэрца да роднага краю гарыць,
Бы жаўрук крыльцы спальвае ў леце.
І таму буду ўсім і заўжды гаварыць:
Без бяроз як жыла б я на свеце?!

* * *

Прачыналіся на чорным небе астры,
На іх вейках затрымаўся бляск густы.
Нехта для суседскай
маладзенькай Насты
Бэзавыя пад акном ламаў кусты.

Ну а мне спяваў праз ноч ужо апошні
Трохі стомлены
і з хрыпатцой трамвай.
Уздыхаў ліхтар
пакрыўджана апоўначы,
Бо па горадзе шалеў зялёны май.

* * *

Я цябе і дагэтуль шукаю,
У натоўпах цябе пазнаю.
Прызнаюся, што моцна кахаю.
Прызнаюся сабе, што люблю.

Што прайшло, то ніколі не прыдзе,
Што прайшло, нам назад не вярнуць.
Не для нас сёння месяц узыдзе,
Каб не нашы прызнанні пачуць.

Але стрэнемся дзе выпадкова,
І пад маскай дзяжурнаю фраз
Пацячэ-палілецца размова
І не выдасць, бязладная, нас.

* * *

Туманы, туманы.
Ад цыганскіх кастроў.
Паплылі шызакрылыя хмары.
І бушуе па жылах шалёная кроў
Пад акорды пявучай гітары!

Рабаціць у вачах ад квяцістых спадніц,
Ад бруістага лёгкага шоўку.
Павядуць за сабой
песні тых чараўніц
У далёкую дзесьці вандроўку.

* * *

Варажыла смаленская раніца
На ружовым світанні тады.
Ты казаў, што нічога не станецца,
Што каханню не шкодзяць гады.
Ты казаў, што для нас сакавітая,
Нібы ў казачным радасным сне.
У бурштынавых промнях спавітая,
Вінаградная гронка ў акне.
Усміхаліся разам, шчаслівыя,
Бо так верылі моцна тады,
Маладзенькія і непужлівыя,
Што каханню не шкодзяць гады.



Іван Лагвіновіч

## Агармыш

На мікрааўтобусе
ў Новую Мыш
я ехаў з сябрамі
з радзімы Багрыма —
і рыфмаю-рэхам
гара Агармыш
асацыятыўна
азвалася з Крыма.

Пад ёю,
яшчэ з-за савецкіх часоў,
мяне тры разы
прывячаў санаторый,
лагодзіў гаючаю
ружай вятроў
з рэльефных абшараў
прыморскай прасторы.

Гравійкаю,
праз гарадок Стары Крым,
бы прашчур да ідала
на пакланенне,
туды прыязджаў
з Ялты хворы Максім*
з апошняй надзеяй
на цуд ацалення...

*Максім Багдановіч.

* * *

Не ўяўляю цяпер,
як я трыццаць гадоў
без бяроз і буслоў
мог пражыць у Данбасе...
Пэўна, быў заблудзіўся
ў прасторы і часе —
і дарогу дамоў
не адразу знайшоў.

* * *

Берасцяным святлом
між бяроз на грудку
ад хандры гарадской
ацаляю душу.
А зязюля раз-пораз
ку-ку ды ку-ку:
лічыць, колькі я вершаў
яшчэ напішу.

* * *

Я сёлета на Свіцязі не быў.
хоць і даўно ў красу яе ўлюбёны.
Даруйце мне, бярозы і дубы!
Даруйце, ліпы, ясені і клёны!
Даруйце, вербы, схіленыя над
празрыстаю азёрнаю вадою!
Сустрэчам з вамі быў заўсёды рад.
Прыехаўшы — не паспяшаў дадому.
Даруйце!.. На ўсё лета занямог:
даймалі млявасць, галавакружэнне...
Меў грошы і жаданне, а не змог...
да вас прыехаць на амаладжэнне.
Параіў мне ўстрымацца херувім
і не наведваць месцаў запаведных,
каб не бянтэжыць выглядам сваім
рыб у вадзе і птушак у паветры.

## У Карпатах

Высокая яліна
На ўзгор'і пры даліне.
Сядаюць ёй на плечы
ў бясхмарны вечар зоркі;
пакручваецца поўня
на пруткай верхавіне,
нібыта мяч канцэртны
на пальчыку жанглёркі.

## Заканамернасць

хлопец пакідае дом бацькоўскі
пакідае дзеўка маладая
каб на новым пляцы ўпадабаным
удваіх пабудаваць уласны
нарадзіць дзяцей у гэтым доме
ведаючы што сыны і дочкі
іх таксама па чарзе пакінуць
каб на ўпадабаных новых пляцах
будаваць уласныя дамы.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

Кніжны свет

28 студзеня 2011г.

# Ад эйфарыі да непрыняцця

**Апошнім часам у гутарках паміж прыхільнікамі музы Кліо актыўна абмяркоўваецца творчасць Анатоля Тараса. Дыяпазон эмоцый сягае ад эйфарыі і захаплення да поўнага непрымання. Хто ж лепш раскажа пра свае выданні, чым сам аўтар: гісторык, кнігавыдавец, заснавальнік серыі “Неизвестная история”, які з’яўляецца аўтарам больш як 80 кніг па самай разнастайнай тэматыцы: гісторыі, псіхалогіі, ваеннай тэхніцы, баявых мастацтвах.**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота Кастуся Дробава

**— Анатоль Яфімавіч, якое месца сярод вашых даследаванняў займае беларуская гісторыя? Як вы прыйшлі да гэтай тэматыкі?**

— Зараз гісторыя выйшла на першы план у маім жыцці. Ад іншых тэм я імкнуся адмовіцца. Спадзяюся да лета 2011 года разлічыцца з усімі запазычанасцямі і займацца менавіта праблемамі беларускай мінуўшчыны.

Увогуле, творчасцю пачаў займацца досыць даўно. Спярша гэта была навука. Я паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю па педагогіцы і доктарскую дысертацыю па псіхалогіі. У 1990-я гады пачаў працаваць галоўным рэдактарам у выдавецтве “Харвест”. Выдаваў “Бібліятэку практычнай псіхалогіі”, у якой выйшла каля 80 тамоў, з іх 60 — мае.

У 2004 годзе я заказаў маскоўскаму аўтару Аляксандру Шыракараду кнігу пра маскоўска-польскія адносіны, прысвечаную гістарычнаму прамежку ад Кіеўскай Русі да сучаснасці. Усяго 500 старонак. Калі пачаў яе рэдагаваць, нічога не ведаў пра беларускую гісторыю. Таму спярша толькі вышукваў логіку і правяраў факты. Паступова прыйшоў да пераканання, што далёка не ўсё з апісваемых падзей — праўда. Пайшоў у бібліятэку, паглыбіўся ў навуковую літаратуру і прыйшоў да высновы, што на пераважнай большасці старонак, напісаных гэтым аўтарам, адлюстроўваецца несапраўднае разуменне нашай гісторыі.

У сваёй працы А. Шыракарад даказваў, што Масква з’яўляецца цэнтрам сусвету. Ён хлусіў там, дзе яму было зручна. Мне стала крыўдна за гісторыю сваёй краіны. Я адмовіў аўтару і вырашыў напісаць кнігу сам. Два гады збіраў матэрыялы. У 2006 годзе 800-старонкавае выданне “Войны Московской Руси с Великим княжеством Литовским и Речью Посполитой в XIV — XVII вв.” трапіла на паліцы кнігарняў. У пачатку 2008 года выйшла “Анатомия ненависти. Русско-польские конфликты в XVIII — XX вв.”, пазней укладзены мной зборнік “История имперских отношений: Беларусы и русские. 1772 — 1991 гг”. Мне здаецца, гэта быў аргументаваны адказ А. Шыракараду. Яго аргументы на 500 старонках былі аспрэчаны мной на 2400. У сваіх кнігах я не праводжу класічнага навуковага даследавання. Хутчэй, абагульняю прачытанае, адмаўляюся ад розных версій адных і тых жа падзей і выбіраю тую, якая мне здаецца больш праўдзівай.

**— Якой была рэакцыя чытачоў?**

— Першая кніга разышлася чатырма накладамі па 3 тысячы кожны. Другая — двума накладамі такой колькасці. Зборнік выйшаў трыма накладамі агульнай колькасцю 4800 асобнікаў. Улічваючы сённяшнія рэаліі і стаўленне да кніг наогул і беларускай гісторыі ў прыватнасці, гэта быў грандыёзны поспех.

Чаму чытачоў зацікавілі мае працы? Мяркую, сваю ролю тут адыграла некалькі фактараў. Па-першае, ніхто з нашых гісторыкаў даўно не пісаў вялікіх абагульняльных прац. Па-другое, для маіх выданняў характэрны лёгкі стыль, тады як большасць навукоўцаў, на жаль, ужываюць грувасткія сінтаксічныя канструкцыі, лексіку, складаную для разумення. Па-трэцяе, прынцыповым было выкарыстанне рускай мовы. Па маіх падліках, толькі каля 10 працэнтаў беларусаў рэгулярна чытаюць выданні на сваёй роднай мове.

**— А ці гатовыя вы пры магчымасці перайсці да напісання кніг па-беларуску?**



— Праблем не бачу. Я добра валодаю беларускай мовай, прыкметна лепш, чым шэраг прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Акрамя таго, ужо назапашаны вопыт рэдагавання. Напрыклад, па-беларуску выходзіла кніга Зміцера Сасноўскага “Гісторыя беларускай музычнай культуры ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя”.

**— Даследаванні па гісторыі Беларусі, напісаныя на рускай мове, выдадзеныя ў Расіі… Ды яшчэ і ў назве на першым месцы суседняя краіна. Дык каму адрасаваныя вашы выданні?**

— Як беларускаму, так і расійскаму чытачу, бо прысвечаны яны гісторыі гэтых краін. У назвах маіх кніг закладзены дакладны камерцыйны разлік. Справа ў тым, што больш як 90 працэнтаў кніг выдавецтва “Харвест” ідзе на продаж у Расію. А нашым суседзям цікавая толькі ўласная гісторыя. Кнігі пра Беларусь, Літву, Украіну яны купляць не будуць. Таму выкарыстоўваю эфект “траянскага каня”: стаўлю ў назве на першае месца словы “Расія” або “Маскоўскі”. Між тым у расійскай гістарычнай навуцы дагэтуль пануе афіцыйная канцэпцыя, выкладзеная ў творах М. Карамзіна, С. Салаўёва і В. Ключэўскага. У яе аснове канцэпцыя пра выключную ролю Расіі, яе станоўчы ўплыў на развіццё суседніх рэгіёнаў. Праз уласныя кнігі спадзяюся пазнаёміць расійскіх і беларускіх чытачоў з альтэрнатыўнымі поглядамі на гісторыю. Даказваю, што Расія заўсёды з’яўлялася каланіяльнай імперыяй.

**— Як адбываецца працэс падрыхтоўкі сваіх і чужых выданняў да друку?**

— Выглядае гэта наступным чынам. Да мяне ў рукі трапляе рукапіс. Калі бачна, што ён будзе цікавы чытачу, пачынаю шукаць прыватнае выдавецтва, якое згодзіцца яго надрукаваць. Часцей за ўсё за вельмі сціплы ганарар. У сярэднім выходзіць адно выданне ў месяц. Спачатку гэта былі кнігі ў чужых серыях. Цяпер стварыў серыю “Неизвестная история”, якая ў асноўным прысвечана падзеям з мінулага Беларусі і Расіі. Цікава, што шэраг выданняў выходзіць якраз у суседняй краіне. Нават там знаходзяцца людзі, якія дзеля камерцыйнага прыбытку гатовыя друкаваць кнігі, змест якіх не супадае з афіцыйным пунктам гледжання.

**— Якія вашыя планы?**

— Цяпер у друку адначасова знаходзіцца адразу некалькі выданняў. Гэта кнігі Анатоля Грыцкевіча “Борьба за Украину в 1918 — 20 гг.” і Ніны Стужынскай “Беларусь мяцежная”, прысвечаная антысавецкаму руху ў Беларусі ў 1920-я гады; манаграфія, у якой аналізуюцца пытанні партызанскага руху падчас Вялікай Айчыннай вайны (збольшага паводле матэрыялаў Украіны); даследаванне Максіма Кірчанава “Интеллектуальная история белорусского национализма”, а таксама зборнік артыкулаў “Беларусь превыше всего”. Наогул, любая гістарычная кніга – сучасны погляд на даўніну. На маю думку, у гістарычнай навуцы незалежнай Беларусі дагэтуль пануе савецкая ідэалогія. У сваіх кнігах мне б хацелася выказаць беларускі пункт гледжання на мінулае.

# Абаронца чалавечых душ

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота аўтара

Кнігі пазіралі на людзей з зашклёных выставачных паліц. Гэтым кнігам, якія ніколі не ведалі, што значыць быць незапатрабаванымі, ніколі не пыліліся ў сховішчах, пэўна, было дзіўна, чаму гэта на іх толькі пазіраюць і нават не спрабуюць узяць у рукі, разгарнуць. А між тым людзі, якія прыйшлі ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі на адкрыццё юбілейнай кніжнай выстаўкі Івана Шамякіна, глядзячы на кнігі ціхенька перагаворваліся, і кожны ўзгадваў нешта з мінулага, незвычайна прыемнае і добрае.

Згадзіцеся, у кожнага з нас ёсць што прыгадаць, калі гутарка заходзіць пра Івана Шамякіна. Ён быў сапраўдным, народным, бо са сваімі раманамі і аповесцямі, шчырымі, праўдзівымі, шчымлівымі да болю, гераічнымі і лірычнымі, увайшоў практычна ў кожную беларускую сям’ю. Ён ведаў тое, пра што пісаў, не дазваляў сабе хлусні дзеля “прыгажосці” і “закручанасці” твора. І яшчэ памятаў пра тое, пра што дазваляў сабе забыць многія і многія таленавітыя творцы. Чытачу ў пераважнай сваёй большасці патрэбны герой. Не сітуацыя, якая душыць і крышыць лёсы, а герой, які шукае і знаходзіць выйсце з гэтай сітуацыі: выжывае насуперак усяму, ахвяруе ўсім, каб дабіцца справядлівасці, перараджаецца духоўна.

Менавіта на такіх героях бацькавых твораў засяродзіла ўвагу прысутных на ўрачыстым адкрыцці кніжнай выстаўкі Таццяна Шамякіна. А яшчэ яна падкрэсліла: “Бацька адчуваў працу як місію. І сапраўды, многія палюбілі беларускую літаратуру праз творы Шамякіна”.

Кніжная выстаўка, падрыхтаваная Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі да 90-годдзя класіка нашай літаратуры, змяшчае каля двухсот выданняў. Творчая спадчына пісьменніка прадстаўлена з першай яго публікацыі ў часопісе “Полымя” да апошніх кніг. Частку выставачнай экспазіцыі склалі пераклады шамякінскіх твораў на замежныя мовы.

У дзень адкрыцця выстаўкі адбылася таксама прэзентацыя новага выдання, кнігі “Іван Шамякін. Летапісец эпохі: успаміны, інтэрв’ю, эсэ”, падрыхтаванай да друку дачкой пісьменніка Алесяй Шамякінай. Гэты праект прадставіў галоўны рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура” Віктар Шніп. З успамінамі пра Шамякіна на прэзентацыі выступілі пісьменнікі Алесь Савіцкі, Раіса Баравікова, Адам Мальдзіс, Мікола Мятліцкі.

У гэты вечар шмат разоў гучала слова “абаронца”. Пісьменнік Іван Шамякін, які пачаў свой вялікі жыццёвы шлях абаронцам радзімы на франтах Вялікай Айчыннай, узяў у мірны час на сябе вялікую місію абаронцы чалавечых душ ад здранцвення, абыякавасці, чэрствасці, усяго несапраўднага і разбуральнага для асобы. “Геній заўжды з’яўляецца нашым абаронцам на ўсіх дарогах гісторыі”, — выказаўся паэт Мікола Мятліцкі пра Шамякіна. З ім цяжка не пагадзіцца.



***На здымку: Алеся Шамякіна выказвае падзяку ўсім, хто дапамагаў ёй у стварэнні кнігі. Сярод удзельнікаў мерапрыемства — паэты Віктар Шніп і Мікола Мятліцкі.***

# Новы імпульс дзяржаўнай бібліяграфіі

**На базе Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі рэалізаваны праект праграмы “Электронная Беларусь” па стварэнні інфармацыйнай сістэмы дзяржаўнай бібліяграфічнай інфармацыі. Пра асаблівасці распрацоўкі праекта, новыя тэхналагічныя вырашэнні і змены, выкліканыя ўвядзеннем адзінай інфармацыйнай сістэмы, карэспандэнту “Кніжнага свету” расказала Нэлі Прышчэпа, загадчык аддзела інфармацыйных тэхналогій Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі.**

Марына ВЕСЯЛУХА



— Усё пачалося ў 2003 годзе, калі ў дзяржаўную праграму “Электронная Беларусь” быў уключаны праект распрацоўкі інфармацыйнай сістэмы дзяржаўнай бібліяграфічнай інфармацыі. Яго фінансаванне распачалося толькі ў 2009 годзе, калі функцыі дзяржаўнага заказчыка праектаў былі перададзены Міністэрству сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь. Праект выкананы па заказе Міністэрства інфармацыі Беларусі, а ў выніку конкурсу, праведзенага ў канцы 2008 года, яго распрацоўшчыкам было выбрана беларускае прадпрыемства СП ЗАТ “Міжнародны дзелавы альянс”. Сістэма бяспекі для новай праграмы распрацоўвалася асобна.

**— Праект выконваўся ў межах дзяржаўнай праграмы. Якія задачы будуць вырашаны сродкамі распрацаванай сістэмы?**

— Такіх задач шмат, але самыя значныя з іх — аўтаматызацыя дзяржаўнай бібліяграфічнай рэгістрацыі кніжнай прадукцыі і СМІ з фарміраваннем на гэтай аснове адзінага банка дадзеных дзяржаўнай бібліяграфічнай інфармацыі, фарміраванне дзяржаўных бібліяграфічных паказальнікаў (новая сістэма дазваляе фарміраваць 12 відаў паказальнікаў) у аўтаматызаваным рэжыме, аўтаматызацыя апрацоўкі дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці пра кніжную прадукцыю і СМІ, вядзенне ISBN і інш.

**— Якія новыя тэхналагічныя вырашэнні рэалізаваны ў межах праекта?**

— Сістэма дзяржаўнай бібліяграфічнай інфармацыі ўключае дзве часткі: сістэму аўтаматызацыі ўнутраных бібліяграфічных работ, карыстальнікамі якой з'яўляюцца работнікі кніжнай палаты, і сістэму аддаленага онлайнавага доступу для знешніх карыстальнікаў (онлайн-частка). У цэлым сістэма атрымалася даволі вялікая і складаная. Так, частка, прызначаная для ўнутранага карыстання, складаецца з 12 падсістэм і 32 даведнікаў, што забяспечвае аднастайнасць і кантроль бібліяграфічнай апрацоўкі выданняў. Онлайн-частка забяспечыць максімальна поўны доступ знешніх карыстальнікаў да банка дадзеных дзяржаўнай бібліяграфічнай інфармацыі Беларусі праз Інтэрнэт, дасць магчымасць ажыццяўляць пошук дадзеных пра выдавецкую прадукцыю па разнастайных прыкметах, а аўтарызаваным карыстальнікам — атрымліваць інфармацыю згодна іх персанальным запытам. Усе запісы ў базе дадзеных адпавядаюць міжнароднаму бібліяграфічнаму фармату, падтрымліваюць Unicode і дазваляюць абменьвацца дадзенымі з іншымі ўстановамі. Штогод праз сістэму будзе праходзіць каля 80 тысяч адзінак друкаванай прадукцыі, выпушчаных на тэрыторыі Беларусі. Плануемае папаўненне базы дадзеных — 100 тысяч запісаў на год.

**— Нэлі Вадзімаўна, а як выкарыстанне новай сістэмы паўплывае на працу работнікаў кніжнай палаты?**

— Замест ужывання разнастайных тэхналагічных працэсаў, што існавалі да гэтага і грунтаваліся на розных сістэмах кіравання базамі дадзеных (СКБД), будзе выкарыстоўвацца адзіны тэхналагічны ланцужок, рэалізаваны на СКБД Oracle. Упершыню будзе аўтаматызаваны працэс праходжання друкаванай прадукцыі па падраздзяленнях кніжнай палаты аж да архіва. І, нарэшце, разам з новай сістэмай канчаткова сыходзяць усе каробачкі з карткамі, якія так любілі бібліёграфы, а таксама іншыя паперы, што ўвогуле скарачае час на апрацоўку выданняў.

**— Як далей будзе працягвацца рэалізацыя праекта?**

— У хуткім часе сістэма будзе зарэгістравана ў Дзяржаўным рэгістры інфармацыйных сістэм Беларусі. Пасля таго як будуць урэгуляваны некаторыя тэхнічныя моманты, онлайн-частка сістэмы з'явіцца ў Інтэрнэце на сайце кніжнай палаты. Дарэчы, сайт таксама плануецца абнавіць, стварыўшы на яго аснове адзіную з новай сістэмай інфармацыйна-камунікатыўную прастору для карыстальнікаў нашых рэсурсаў.

На працягу года плануем заключыць дамовы з беларускімі выдаўцамі пра размяшчэнне ў сістэме інфармацыі пра выданні, што толькі рыхтуюцца да друку, — гэта новы напрамак у дзяржаўнай бібліяграфіі Беларусі і першы крок па стварэнні нацыянальнай сістэмы “Кнігі ў наяўнасці і друку”.

Хачу яшчэ адзначыць, што ніводзін праект не нараджаецца гладка. Цяжкасцей і перашкод было дастаткова і ў нас, пытанне нават стаяла так: быць або не быць? Таму хочацца выказаць вялікую ўдзячнасць Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь — без яго падтрымкі праект проста не адбыўся б, а таксама Дэпартаменту інфарматызацыі Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь, які даваў нашай працы патрэбны кірунак і аказваў неабходную і дзейсную кансультацыйную дапамогу.

***На здымку: від акна падсістэмы пошуку ў онлайн-частцы.***

## Азбука Морзэ

Чэслава ПАЛУЯН

● У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі да 20 лютага праходзіць юбілейная выстаўка “Выдавецтву “Беларусь — 90!”. У межах экспазіцыі прадстаўлена каля ста найменняў розных выданняў. Выстаўку адкрываюць адны з самых першых кніг выдавецтва: У. Ігнатоўскага “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі” (1921), Якуба Коласа “Новая зямля” (1923) і “Сымон-музыка” (1925), Янкі Купалы “Безназоўнае” (1925). Таксама дэманструюцца выданні, што атрымалі дыпломы на рэспубліканскім конкурсе “Мастацтва кнігі”, кнігі-ўдзельніцы міжнародных выставак-кірмашоў.

▬ Згодна дадзеным Расійскай кніжнай палаты, па выніках 2010 года ў Расійскай Федэрацыі было выдадзена 121 738 кніг і брашур, што на 5858 найменняў менш, чым у 2009 годзе. Агульны тыраж выдадзенай літаратуры склаў 653843700 экзэмпляраў (у параўнанні з 716,55 мільёна ў 2009 годзе). Сярэдні наклад кніг склаў 5400 асобнікаў. Спецыялісты кніжнай палаты таксама ўдакладнілі, што сёння на расійскім кніжным рынку працуе 5695 выдавецтваў, іх колькасць у параўнанні з папярэднім годам зменшылася на 3,5 працэнта.

● Падведзены вынікі першага сезона “Літаратурнай прэміі BookMix.ru”. Карыстальнікі сацыяльнай сеткі аматараў кніг выбралі двух пераможцаў у намінацыях “Папулярная літаратура” і “Выбар экспертаў”. У першай намінацыі перамогу са значным адрывам атрымаў Барыс Акунін з раманам “Весь мир театр”. У намінацыі “Выбар экспертаў” прэмія была прысуджана Марыям Петрасян за раман “Дом, в котором…”.

▬ Спадчыннікі Артура Конан Дойла ўпершыню афіцыйна дазволілі напісаць новую кнігу пра Шэрлака Холмса. Як паведамляе “The Guardian”, раман пра сышчыка напіша брытанец Энтані Горавіц, аўтар шматлікіх сцэнарыяў, у тым ліку і да серыяла “Пуаро”. Пра сюжэт рамана нічога не паведамляецца, але вядома, што ён пабачыць свет у верасні 2011 года. Па словах Горавіца, кніга будзе “першакласным дэтэктывам” і захавае пры гэтым вернасць арыгінальным апавяданням і раманам пра знакамітага сышчыка.

● Цэнтральны ўніверсітэт штата Канектыкут апублікаваў штогадовы рэйтынг амерыканскіх гарадоў, жыхары якіх з'яўляюцца найбольш актыўнымі чытачамі. Паводле вынікаў даследавання 2010 года самым “чытаючым” горадам ЗША прызнана сталіца — Вашынгтон. Затым ідуць Сіэтл і Мінеапаліс, якія год за годам не пакідаюць топ-3 гэтага рэйтынгу. Цікава, што некалькі буйных мегаполісаў ЗША, такіх, як Нью-Ёрк, Чыкага і Маямі, аказаліся толькі ў трэцяй дзясятцы.

▬ Да 80-годдзя рамана “Залатое цяля” выйшла аўдыёкніга з удзелам Аляксея Кортнева. Як адзначаюць выдаўцы, аўдыёкніга пра цяля, ды не простае, а “залатое” — гэта і захапляльны экскурс у арыгінальную эстэтыку расійскага быту 1930-х гадоў, і геніяльнае, па-дзіцячы вольнае бачанне аўтарамі свету, і таленавітая ігра цудоўных артыстаў Аляксея Кортнева і Аляксея Багдасарава.

● 25 студзеня, у дзень нараджэння знакамітага паэта, барда і акцёра ў “Доме Высоцкага на Таганцы”, адкрылася выстаўка “Такое спартыўнае жыццё”. У экспазіцыі прадстаўлены дакументы, фотаздымкі з асабістага архіва Уладзіміра Высоцкага, а таксама аўтографы спартсменаў, іх падарункі любімаму паэту, успаміны пра яго. Асобны раздзел экспазіцыі, якая будзе адкрыта 31 сакавіка, расказвае пра ўвекавечанне памяці У. С. Высоцкага: перавалы і вяршыні, названыя альпіністамі яго імем, легкаатлетычныя забегі, спаборніцтвы яхтсменаў.

## Сярод кніг

# Скарбонка душэўных лекаў

Міхась ПРЫМАКА



**Казлоўскі, М. Пра кніжнікаў і кнігі: нататкі бібліяфіла, эпісталярная спадчына / Міхась Казлоўскі. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 328 с.**

Гонар не толькі аўтару, але і таму выдавецтву, што ў пярэдадзень Новага года зрабіла чытачу сапраўды ўнікальны падарунак — зборнік нарысаў і артыкулаў “Пра кніжнікаў і кнігі”. Аўтар — Міхась Казлоўскі, які жыве і працуе ў Маладзечне. Выдавецтва — мінскі “Кнігазбор”. Беларусь, якая сёння ўпэўнена набірае хуткасць у развіцці кніжнай галіны (штогод выдаецца 10 — 12 тысяч назваў кніг. Раней, у СССР, за год выдавалася 80 тысяч назваў), усё ж не вельмі ўважлівая да літаратуры бібліяфільскай, кнігазнаўчай. Была некалі спроба выдаваць гадавік бібліяфілаў — “Свіцязь”. Выйшаў толькі адзін выпуск. І гэта пры тым, што самі традыцыі збірання кніг, бібліяфільства ў нашай Айчыне проста ўнікальныя. Вось і сум бярэ, калі аглядаеш паліцку з расійскім ці яшчэ савецкім “Альманахам бібліяфіла”, кнігамі П. Беркава, М. Смірнова-Сакольскага, У. Лідзіна, М. Рубакіна, шкадаванне душу ахоплівае, што і ў нас магла быць не меншая кнігазнаўчая, бібліяфільская бібліятэка. Праўда, пэўныя зрухі ёсць. Падзеяй (шкада, пра гэта мала пісалі ў друку) можна назваць і нядаўна выдадзены зборнік “Берасцейскія кнігазборы”.

Кніга Міхася Казлоўскага — найперш пра ўласны досвед у збіранні кніг. Беларусіка — вось галоўнае зацікаўленне маладзечанскага збіральніка. Ужо на пачатку свайго расповеда аўтар зазначае: “Кнігі сабралі вас… У гэтай фразе заключаецца квінтэсенцыя бібліяфільскага збіральніцкага жыцця. Жыцця складанага, няпростага, тым больш у беларускай сумнай рэальнасці. Калі агульнавядомае выказванне, што для бібліяфіла галоўнае ногі і грошы, у Беларусі не спрацоўвае. І не дзейнічае яно па адной банальнай прычыне: у нас амаль адсутнічае даўняя і добрая традыцыя збірання кніг. Кніг, падкрэслю, менавіта беларускіх. Беларускіх па слове, па назве, па тэме, па накіраванасці. Традыцыя такая існавала, але бязлітасна і нахабна знішчалася…”

Міхась Казлоўскі — менавіта збіральнік, чалавек, лёс якога па прызванні душы падпарадкаваны бясконцаму клопату шукання беларускай кнігі. Многія артыкулы, што ўвайшлі ў “нататкі бібліяфіла”, — грунтоўныя даследаванні па той ці іншай кнігазнаўчай тэме: “Янка Купала ў выдавецкай дзейнасці Заходняй Беларусі”, “Беларускія дэкламатары Алеся Ляжневіча”, “Творы Вацлава Ластоўскага і беларуская эміграцыя”, “Беларускія выданні ў ковенскай Летуве”, “Беларускае таварыства бібліяфілаў (БТБ) у БССР” і інш.

Кніга маладзечанскага бібліяфіла багатая і на ўвагу да экслібрыса. Так, здавалася б, тэма не новая. Ёсць цэлы шэраг артыкулаў. Ёсць славуты “Беларускі кніжны знак” Віктара Шматава і Анатоля Тычыны (Мінск, 1970 год). І ўсё ж няма поўнай карціны прадмета, няма поўнай гісторыі беларускага экслібрыса. Сваім грунтоўным нарысам, адным толькі з раздзелаў кнігі М. Казлоўскі падышоў да вырашэння гэтай праблемы бліжэй за іншых даследчыкаў. Мо наперадзе ў Міхася Казлоўскага яшчэ і грунтоўная манаграфія пра беларускі экслібрыс?..

Заключаюць “нататкі бібліяфіла” падарожныя нарысы пра мала вядомых шырокаму колу чытачоў кніжнікаў Беларусі: Язэпа Камаеда (“Хутарок у далёкіх Шапавалах”), Яўгена Чараповіча (“Шапталіся яблыні ў садзе”) і інш. Міхась Казлоўскі з гэтых старонак і сам паўстае як рамантычны персанаж сапраўднай сагі пра заходнебеларускіх кніжнікаў.

Радасць ад сустрэчы з работай “Пра кніжнікаў і кнігі” ўсё ж азмрочваюць некаторыя акалічнасці, якія ні ў якім разе нельга аднесці да аўтара і выдавецтва. За зробленае ім толькі бясконца дзякаваць трэба. Тыраж кнігі — 100 экзэмпляраў. Відавочна, што “нататкі бібліяфіла” нават не ў кожную з буйных бібліятэк краіны патрапяць. Ды і ілюстрацыйны матэрыял у выданні мог бы быць нашмат багацейшы. Несумненна, архіў, бібліятэка М. Казлоўскага — сур'ёзная крыніца выяўленчага матэрыялу. Але ж першы і досыць грунтоўны крок зроблены. Няхай наступнікі пойдуць следам. Ды і сам паважаны Міхась Казлоўскі, апантаны, руплівы захавальнік беларускай кніжнай прасторы, яшчэ шмат што зробіць. У гэтым сумнявацца не даводзіцца.

# Эксклюзив — своими руками

**Сегодня тех, кто решил не сливаться с толпой, проявить свою индивидуальность, особенно привлекает в качестве хобби декоративно-прикладное творчество: одежда, украшения, композиции и панно для дома, сделанные своими руками. Но где найти неиссякаемый источник идей, как научиться правильно использовать разнообразные материалы и выбирать инструменты для работы? Ответы на эти и многие другие вопросы вы найдёте в книгах ООО "Харвест", которые мы сегодня представляем вниманию читателей "Кніжнага свету".**

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО,
Юзефа ВОЛК




## Может, рискнём выкроить... леопарда?

Именно к этому — буйному полёту фантазии в создании штор для собственных окон собственными же руками — подталкивает читателя Уэнди Бэйкер в книге **"Лучшие шторы и жалюзи"**. В предисловии к изданию автор пишет: "Занавешивать окна традиционными шторами лишь потому, что так принято, — пустая трата времени и денег". Руководствуясь инструкциями, тщательно разработанными в этой книге, читательницы освоят школу создания штор и жалюзи: научатся выполнять необходимые швы, оформлять верх штор и выбирать отделку, экономить при выборе ткани, изготавливать шаблоны на миллиметровке, а также учитывать, что появление роскошных штор ведёт к революции домашних аксессуаров. Пройдя курс обучения, вы сможете смело советовать друзьям и знакомым бахрому с помпонами и атласные ленты с набором хрустальных бусин в качестве новой отделки к любимым шторам, а также станете экспертом по всем видам имеющихся в продаже карнизов и заглушек к ним. Шестьдесят оригинальных проектов штор и жалюзи с иллюстрированными пошаговыми инструкциями убедят вас, что, например, римские шторы (которые тут подаются в разных вариациях) — это достаточно просто, а сочетание муслина или парашютного шёлка с настроченными лентами — исключительно изысканно. Найдутся в книге советы для любителей восточной экзотики и эстетов, которые не прочь украсить окно занавеской в виде небрежной "шали с бахромой" или с подкладкой а-ля леопард.




## Семь способов набора начального ряда

Иллюстрированный самоучитель Нэнси М. Уайзмэн **"Техника вязания. Все виды отделки"** с благодарностью возьмут в руки все, кто любит вязать, но ещё не дошёл до уровня высшего пилотажа в этом хобби: в созданных вашими руками вещах где-то тянет резинку, кое-где "светятся" неудачно прибавленные петельки или не совсем идеально лежит плечевой шов. (Признаюсь сразу, автор покорила меня одной цитатой: "Если вы заметили, что где-то сбились в выполнении узора, не поленитесь распустить этот кусок. Иначе готовую вещь вы никогда не будете носить с удовольствием".) На страницах данной книги автор раскрывает много маленьких секретов, которые помогут изделию предстать во всей красе: несколько способов набора петель, незаметные убавления и прибавления, оформление кромки на разных узорах вязки, разные способы закрыть петли плечевого скоса и горловины, хитрости создания красивых петель для пуговиц в разных видах изделий, а главное — множество способов исполнения трикотажных швов. Не обошла вниманием автор и полезные мелочи — такие, как присоединение новой нити в процессе вязания, заправка концов нитей, укрепление плечевого шва, хранение пряжи и вязаных изделий и даже — о величайшая предусмотрительность! — ведение листка учёта работы. Потому что, если придётся на время отложить вязание, потом вы вряд ли вспомните, какие, например, спицы использовали. Или как вяжется что-то "особенное".




## Цветы, безопасные для аллергиков

Книга **"Вышивка лентами. Постигаем шаг за шагом"** посвящена одному из наиболее популярных хобби последнего времени. Она расскажет о том, какие материалы и инструменты понадобятся для работы, и предложит пошаговые уроки от переноса рисунка на канву до создания цветочного гербария из разноцветной роскоши шёлковых и капроновых лент. На щедро иллюстрированных страничках читатели найдут полезные советы: как закрепить ленту в конце вышивки элемента, сделать узелок, ознакомятся с выполнением швов "полупетля", "петля", "полупетля с двойной закрепкой", "французский узелок", "колониальный узелок" и многими другими тонкостями этого вида вышивки, а также узнают, чем отличается шов "двойной стежок с нахлёстом" от шва "двойной стежок с настилом". А потом попадут в цветочную оранжерею. Нежные ромашки и скромные маргаритки, яркие маки, дельфиниум, флоксы и даже подсолнух с помощью усвоенных техник теперь смогут украсить интерьер вашего дома. Создатели книги не забыли поместить отдельный раздел "Цветовая гармония вышивки", в котором рассматриваются спектральные и ломаные цвета, даются советы, как подобрать аналогичные и дополнительные цвета к рисунку, а также о том, какие цвета являются монохромными и нейтральными. Читателей ждёт не только теория, но и иллюстрации национальной палитры костюмов разных народов нашей планеты. Завершает издание раздел "Вышивка на изделиях", открывающий простор для творчества. Вышивка лентами способна преобразить скатерти и салфетки, сотворить из обычных вещей уникальные рамки для фотографий и стаканчики для карандашей, открытки и шкатулки для рукоделия. В книге также размещаются схемы вышивок.




## Природа — лучший художник

Один из мудрецов как-то заметил, что природа является лучшим художником и творцом. Безусловно, это утверждение справедливо, но человек часто соперничает с природой, создаёт красоту своими руками. При этом, воплощая в жизнь свои креативные идеи, мастер часто обращается к самой природе. Ведь даже обыкновенный камень или веточка, случайно подобранные на дороге, в умелых руках могут превратиться в яркое и неповторимое произведение искусства или же в оригинальное украшение для дома или офиса.

Научиться искусству и тонкостям работы с природным материалом, освоить секреты флористики, резьбы по кости, изготовлению изделий из ракушек, дерева, соломки и камня поможет книга Светланы Хворостухиной **"Поделки из природных материалов"**. Автор доказывает и показывает (а это главное), что из обычных листьев, палочек и лепестков полевых цветов можно выполнить панно, по стилю сходное с живописным. Из камешков, найденных на берегу реки или в поле, несложно собрать фигуру ёжика, создать декор для зеркал и подсвечников. Подробные инструкции, приведённые в книге, помогут правильно подготовить материал для работы и подобрать нужные инструменты, научат работать с соломкой и ракушками.

Особое место в книге отводится технике работы с костью, она всё реже и реже используется для изготовления поделок, поэтому автор подчёркивает, что важно сохранить промысел, не утратить технологий работы с этим материалом.




## Модно и просто

Если вы следуете тенденциям моды, но при этом желаете выделяться среди окружающих, обратите внимание на вещи, изготовленные своими руками. В короткий срок можно сделать оригинальные предметы гардероба, затратив на это совсем немного труда. Широкий выбор пряжи и фурнитуры позволяет изготовить вещи любого дизайна, и при этом совсем не обязательно выбирать сложные модели с замысловатой отделкой. Не заблудиться в богатом мире вязания, вышивки, макраме, мягкой игрушки, бисероплетения, лоскутного шитья и швейного мастерства поможет полная энциклопедия **"Рукоделие"** (составитель Елена Бойко).

Если вы никогда не занимались рукоделием, не огорчайтесь. Благодаря книге вы сможете постичь это искусство с самых азов: научитесь набирать петли, подбирать пряжу и ткани, вывязывать различные узоры, делать выкройки, освоите технику макраме и бисероплетения и многое-многое другое. Освоив основные приёмы различных видов рукоделия, вы сможете перейти к выполнению предложенных моделей, а затем и сами без труда сумеете сконструировать и выполнить изделие любой сложности. Подробное описание и иллюстрации помогут справиться с работой начинающим рукодельницам, а опытные мастерицы узнают из этой книги много нового.




## Рисуем на ткани

"Большинство людей под словом "батик" понимают расписанную от руки ткань. В более узком смысле батик — это конкретная технология окрашивания ткани или обобщённое название разнообразных способов её ручной росписи. В основе этих приёмов лежит принцип резервирования — нанесение специального состава, не пропускающего краску на те места ткани, которые должны остаться незакрашенными и образовать узор", — так Анна Эм, автор книги **"Батик"** серии "Шаг за шагом", начинает знакомить читателя с этим удивительным искусством.

Батик объединил в себе особенности и приёмы многих изобразительных искусств, таких как графика, акварель, витраж, пастель, мозаика и другие. Интересно и то, что значительное упрощение приёмов росписи по сравнению с традиционными техниками и многообразие специальных средств позволяет расписывать различные детали одежды, предметы интерьера, картины на шёлке даже тем, кто никогда раньше не занимался оформлением ткани.

В яркой, красочной книге Анны Эм читатель найдёт простые и ясные инструкции не только по работе с тканью, но и сведения о материалах и основных видах техник, советы по созданию собственных работ, а также множество фотографий, пошагово демонстрирующих процесс работы с самого начала и до конца. Кроме того, в книге представлены шаблоны, которыми вы сможете воспользоваться и создать свои собственные работы.

Словарь терминов, который предваряет теоретические и практические главы, познакомит читателя с основными понятиями, употребляемыми при работе с батиком. Теоретические главы расскажут о том, как важна в работе композиция, как грамотно определить цветовое решение работы, как правильно выбрать инструменты и материалы, подобрать ткани, краски, кисти, соорудить рамки и подрамники. Автор учит и правильно оформлять батик в рамки, закреплять красители на ткани, переводить рисунок на ткань, даёт и подробные инструкции по изготовлению дизайнерских открыток.

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих лицензию на полиграфическую деятельность, по состоянию на 1 января 2011 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие полиграфической деятельности: выпуск печатной продукции |
|---|---|---|---|---|---|
| ООО "Типография Макарова и К" | 220141, г. Минск, ул. Ф.Скорины, 40-211 | 190452979 | 02330/0150429 выдана 05.12.2003 № 196, продлена от 19.11.2008 № 133 | До 05.12.2013 | за исключением газет |
| Производственное ООО "Спектр-Р г. Гродно" | 230000, г. Гродно, ул. Титова, 24 | 500561288 | 02330/0150433 выдана 05.12.2003 № 196, продлена от 19.11.2008 № 133 | До 05.12.2013 | за исключением периодических изданий |
| Белорусско-российское ООО "Росбелпак" | 246015, г. Гомель, ул. Лепешинского, 1, к. 804 | 810000390 | 02330/0150432 выдана 05.12.2003 № 196, продлена от 19.11.2008 № 133 | До 05.12.2013 | за исключением периодических изданий |
| ЧУП "Завод Белкооппрогресс" Белкоопсоюза | 220024, г. Минск, п/у Колядичи, ул. Бабушкина, 64 | 100150599 | 02330/0150442 выдана от 03.05.2006 № 68 | До 03.05.2011 | за исключением газет |
| Частное учреждение образования "Минский институт управления" | 220102, г. Минск, ул. Лазо, 12 | 100687805 | 02330/0150461 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ОАО "Бумажная фабрика «Спартак»" | 213010, г. Шклов, Могилевской обл., ул. Фабричная, д. 26 | 700032335 | 02330/0552718 выдана от 04.09.2009 № 102 | До 04.09.2014 | за исключением периодических изданий |
| РУП "Информационно-вычислительный центр Национального статистического комитета РБ" | 220070, г. Минск, пр. Партизанский, 12а, к. 8а | 100067865 | 02330/0552724 выдана от 19.12.2003 № 203, продлена от 04.12.2008 № 140 | До 19.12.2013 | за исключением газет |
| Учреждение образования "Белорусский государственный технологический университет" | 220050, г. Минск, ул. Свердлова, 13а | 100354659 | 02330/0150477 выдана от 22.01.2004 № 16, продлена от 16.01.2009 № 7 | До 22.01.2014 | за исключением газет |
| ООО "В.И.З.А. ГРУПП" | 220073, г. Минск, ул. Кальварийская, 25, к. 113 | 100850265 | 02330/0150449 выдана от 22.01.2004 № 16, продлена от 16.01.2009 № 7 | До 22.01.2014 | за исключением периодических изданий |
| ЧУП "Завод электроники и бытовой техники Горизонт" | 220014, г. Минск, пер. С. Ковалевской, 62, к. 16 | 191055812 | 02330/0150428 выдана от 19.11.2008 № 133 | До 19.11.2013 | за исключением газет |
| Минское областное унитарное предприятие "Борисовская укрупненная типография им. 1 Мая" | 222120, г. Борисов, ул. Строителей, 33, Минская обл. | 600126259 | 02330/0150443 выдана от 22.01.2004 № 16, продлена от 19.12.2008 № 151 | До 22.01.2014 | без ограничений |
| ООО "Медисонт" | 220004, г. Минск, ул. Тимирязева, 9, офис 404 | 101460089 | 02330/0552782 выдана от 22.01.2004 № 16, продлена от 19.12.2008 № 151 | До 22.01.2014 | за исключением газет |
| Унитарное полиграфическое коммунальное предприятие "Могилевская областная укрупненная типография имени Спиридона Соболя" | 212030, г. Могилев, ул. Первомайская, 70 | 700008828 | 02330/0150452 выдана от 16.02.2004 № 42, продлена от 03.02.2009 № 13 | До 16.02.2014 | без ограничений |
| Производственное унитарное предприятие "Бумажная фабрика" Департамента государственных знаков Министерства финансов Республики Беларусь | 222120, г. Борисов, ул. Заводская, 55 Минской обл. | 600017868 | 02330/0150451 выдана от 27.02.2004 № 56, продлена от 03.02.2009 № 13 | До 27.02.2014 | за исключением периодических изданий |
| Совместное предприятие ООО "Флексограф" | 220035, г. Минск, ул. Игнатенко, д. 7, к. 31, 3 этаж | 101458062 | 02330/0150454 выдана от 27.02.2004 № 56, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 27.02.2014 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| ОАО "Минский автомобильный завод" | 220102, г. Минск, ул. Социалистическая, 2 | 100320487 | 02330/0552720 выдана от 21.09.2009 № 108 | До 21.09.2014 | за исключением газет, кроме газеты «Автозаводец» |
| Частное производственно-торговое унитарное предприятие "Издательство Альтернатива" | 224013, г. Брест, пр. Машерова, 75/1, к. 312 | 290334782 | 02330/0150460 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ОАО "Борисовский завод медицинских препаратов" | 222120, г. Борисов, ул. Чапаева, 64/27. Минская обл. | 600125834 | 02330/0494111 выдана от 11.03.2009 № 29 | До 11.03.2014 | за исключением периодических изданий |
| ОАО "Полиграфкомбинат им. Я. Коласа" | 220600, г. Минск, ул. Красная, 23 | 100299680 | 02330/0150496 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | без ограничений |
| Республиканское дочернее производственное унитарное предприятие "Минская типография" | 220036, г. Минск, пр-т Дзержинского, 1, к. 1- 7 | 100026542 | 02330/0494124 выдана от 03.04.2009 № 38 | До 03.04.2014 | за исключением газет |
| Издательско-полиграфическое частное унитарное предприятие "Новик" | 220030, г. Минск, ул. Октябрьская, 12 | 100012479 | 02330/0150459 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ОАО "Транстэкс" | 220034, г. Минск, ул. Чапаева, 5 | 100211404 | 02330/0150458 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| Унитарное полиграфическое коммунальное предприятие "Костюковичская укрупненная типография" | 213640, г. Костюковичи, ул. Ленинская, 43, Могилевская обл. | 700004041 | 02330/0494126 от 03.04.2009 № 38. | До 03.04.2014 | без ограничений |
| ЗАО "Родина" | 222720, г. Дзержинск, ул. Ленинградская, 10, Минская обл. | 100064853 | 02330/0150457 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 №19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| Гродненское областное унитарное полиграфическое предприятие "Гродненская типография" | 230025, г. Гродно, ул. Полиграфистов, 4 | 500013667 | 02330/0552745 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 №19 | До 29.03.2014 | без ограничений |
| Минское областное унитарное предприятие "Несвижская укрупненная типография им. С. Будного" | 222620, г. Несвиж, ул. Гейсика, 1, Минская обл. | 600031238 | 02330/0150466 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | без ограничений |
| Коммунальное полиграфическое унитарное предприятие "Поставская типография" | 211875, г. Поставы, ул. Ленинская, 42 | 300077844 | 02330/0494127 выдана от 03.04.2009 № 38 | До 03.04.2014 | без ограничений |
| Минское областное унитарное предприятие "Логойская типография" | 223110, г. Логойск, пер. Восточный, 4 | 600026000 | 02330/0150465 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | без ограничений |
| КУП "Пружанская городская типография" | 225140, г. Пружаны, ул. Свободы, 41, Брестская обл. | 200027121 | 02330/0494224 выдана от 20.04.2009 № 46 | До 20.04.2014 | без ограничений |

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

### Будаўніцтва. Агульныя пытанні

**Рыжевская, М. П.** Технология строительного производства: учебное пособие для учащихся специальности «Промышленное и гражданское строительство» учреждений, обеспечивающих получение среднего специального образования / М. П. Рыжевская. — Минск: Беларусь, 2010. — 357 с. — 900 экз. — ISBN 978-985-01-0891-3 (в пер.).

### Будаўнічыя матэрыялы

**ОАО «Гродненский комбинат строительных материалов»: история, современность, будущее**: [60 лет / автор текста – Э. С. Ярмусик]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2010. — 150 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-476-833-5 (в пер.).

### Мастацтва. Забавы. Спорт. Планіроўка. Ландшафтная і садова-паркавая архітэктура

**Благоустройство участка от ландшафтного дизайна до садовых построек**: большая энциклопедия. — Минск: Харвест, 2010. — 223 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-8555-0 (в пер.).

### Архітэктура

**Блохина, И. В.** Семь чудес света / [Блохина Ирина Валериевна]. — Минск: Харвест, 2009. — 32 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-7853-8 (в пер.).

### Выяўленчае мастацтва. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Маляванне і чарчэнне

**Грейвз, Д.** Портретное сходство: практический курс: [как правдоподобно изображать людей] / Дуглас Грейвз; [перевел с английского В. И. Кашкан]. — Минск: Попурри, 2011. — 173 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1134-7.

**Коренькова, А. С.** Черчение: 9-й класс: рабочая тетрадь: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений / А. С. Коренькова. — 2-е изд., стереотипное. — Минск: Новое знание, 2010. — 71 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-475-412-3.

**Левейль, П.** Эмоциональный портрет: [пошаговая методика построения и рисования: перевод с английского] / Поль Левейль. — Минск: Попурри, 2011. — 126 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1137-8.

**Черчение**: 9-й класс: решение упражнений по учебному пособию «Черчение. 9 класс» автор В. Н. Виноградов / [составитель С. В. Смолич]. — Минск: Юнипресс, 2010. — 78 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-332-8.

### Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Мастацкія промыслы

**Веселые и забавные фигурки из бисера своими руками** / [автор-составитель Мирослав Вячеславович Адамчик]. — Минск: Харвест, 2010. — 127 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-8631-1 (в пер.).

**Игрушки и фигурки из бисера** / [автор-составитель Мирослав Вячеславович Адамчик]. — Минск: Харвест, 2010. — 79 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-8632-8 (в пер.).

### Забавы. Відовішчы. Гульні. Спорт. Тэатр. Сцэнічнае мастацтва. Драматычныя прадстаўленні

**Орлова, Т. Д.** История театра в вольном изложении / Т. Д. Орлова. — Минск: Медисонт, 2010. — 235 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6887-87-4.

### Грамадскія забавы і святкаванні. Мастацтва руху. Танец

**Чурко, Ю. М.** Хореография в зеркале критики: сборник статей / Ю. М. Чурко; Министерство культуры Республики Беларусь, Белорусский государственный университет культуры и искусств. — Минск: БГУ культуры и искусств, 2010. — 343 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-6798-57-6 (в пер.).

### Настольныя гульні

**105 лучших игр для всей семьи**: правила игр. — Минск., 2010. — 23 с. — 4000 экз.

### Спорт. Гульні. Фізічная культура

**Антидопинговые правила для применения на Первых юношеских Олимпийских играх в Сингапуре, 2010** / Международный олимпийский комитет; [составитель А. А. Ванхадло; перевод с английского: Е. В. Куриленкова]. — Минск: РУМЦ ФВН, 2010. — 66 с. — 80 экз. — ISBN 978-985-6658-36-8.

**Ахмеров, Э. К.** Волейбол: многолетняя тренировка: практическое пособие для тренеров / Э. К. Ахмеров, Л. И. Акулич, В. Н. Вертелко. — Минск: МГПТК полиграфии, 2010. — 291 с. — ISBN 978-985-6712-31-2 (в пер.).

**Баранов, Л. Г.** Сравнительный анализ ударной техники в спортивных и традиционных видах боевых искусств: методические рекомендации: [для студентов]: в 2 ч. / Л. Г. Баранов; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2010–

Ч. 1. — 2010. — 74 с. — 45 экз.

**Беларусь на I летних юношеских Олимпийских играх, Сингапур, 2010** / Национальный олимпийский комитет Республики Беларусь; [автор и составитель Петр Рябухин; перевод: Василий Юрчик, Алина Салтыкова]. — Минск: Парадокс, 2010. — 47 с. — Текст параллельно на русском и английском языках. — 400 экз. — ISBN 978-985-451-244-0.

**Волейбол в спортивной школе**: пособие для тренеров по волейболу / [Э. К. Ахмеров и др.]; под общей редакцией Э. К. Ахмерова. — Минск: БГУ, 2010. — 254 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-260-4 (в пер.).

**Колеснев, Ю. В.** Греко-римская борьба: учебно-методическое пособие / Ю. В. Колеснев, В. Н. Осянин, Д. Д. Захарченко; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет транспорта, Кафедра «Физическое воспитание и спорт». — Гомель : БГУТ, 2010. — 190 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-468-666-0.

**Комплексы упражнений фитбол-гимнастики** / Министерство спорта и туризма Республики Беларусь, Белорусский государственный университет физической культуры, Институт повышения квалификации и переподготовки руководящих работников и специалистов физической культуры, спорта и туризма; [составители: О. В. Давидовская, Н. Л. Малышева]. — Минск: БГУФК, 2010. — 20 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6953-30-2.

**Котов, А. В.** Организация и проведение соревнований по волейболу: методические рекомендации / А. В. Котов, Н. Ю. Котова; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2010. — 40 с. — 45 экз.

**Мехрикадзе, В. В.** Метание копья: пособие: [для студентов / В. В. Мехрикадзе, Э. П. Позюбанов, Б. В. Ермолаев]; Министерство спорта и туризма Республики Беларусь, Белорусский государственный университет физической культуры. — Минск: БГУФК, 2010. — 32 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6953-27-2.

**Митрахович, С. С.** Туризм: 8–11-е классы: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / С. С. Митрахович. — Минск: Асар, 2010. — 24 с. — 4300 экз. — ISBN 978-985-6711-64-3.

**Новицкий, Д. Э.** Метод комплексной оценки игровой деятельности в баскетболе: методические рекомендации / Д. Э. Новицкий; Белорусский государственный университет, Кафедра физического воспитания и спорта. — Минск: ГИУСТ БГУ, 2010. — 35 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-491-051-2.

**Овчаров, В. С.** Играем в футбол: 5–11-е классы: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / В. С. Овчаров; Национальный институт образования. — Минск: Асар, 2010. — 127 с. — 6300 экз. — ISBN 978-985-6711-66-7.

**Официальные Правила баскетбола 2010 и официальные интерпретации**: утверждено исполкомом ОО «БФБ» 09.09.10: действительны для всех соревнований, проводимых на территории Республики Беларусь: действуют с 1 октября 2010 г. — Минск, 2010. — 132 с. — 1000 экз.

**Первые летние юношеские Олимпийские игры 2010 года в Сингапуре: методические рекомендации по питанию, временной и климатической адаптации и основам фармакологического обеспечения спортсменов** / Н. Г. Кручинский [и др.]; Министерство спорта и туризма Республики Беларусь, Государственное учреждение «Научно-исследовательский институт физической культуры и спорта Республики Беларусь». — Минск: РУМЦ ФВН, 2010. — 46 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6658-35-1.

**Положение об организации и проведении антидопингового контроля в сфере физической культуры и спорта в Республике Беларусь (национальные антидопинговые правила)** / Национальное антидопинговое агентство; [составитель А. А. Ванхадло]. — Минск: РУМЦ ФВН, 2010. — 38 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6658-37-5.

**Садовникова, В. В.** Аэробика: 5–11-е классы: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / В. В. Садовникова; Национальный институт образования. — Минск: Асар, 2010. — 91 с. — 4500 экз. — ISBN 978-985-6711-68-1.

**Физическая культура, спорт и здоровый образ жизни в XXI веке**: сборник научных статей / Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина; [редколлегия: Н. И. Приступа (главный редактор) и др.]. — Брест: БрГУ, 2010. — 86 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-473-600-6.

## МОВА. МОВАЗНАЎСТВА. ЛІНГВІСТЫКА. ЛІТАРАТУРА

### Агульныя пытанні лінгвістыкі, літаратуры і філалогіі

**Жукова, И. Б.** Риторика и теория аргументации: учебно-методическое пособие для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальности 1-02 01 02-06 История. Социально-политические дисциплины / И. Б. Жукова; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2010. — 124 с. — 130 экз. — ISBN 978-985-480-619-8.

**Писарук, Г. В.** Библейские тексты: взгляд ритора: учебно-методическое пособие: [для студентов] / Г. В. Писарук; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2010. — 69 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-473-570-2.

### Мовазнаўства і мовы. Лінгвістыка

**Иностранные языки и современный мир**: сборник материалов республиканской научной конференции студентов, Брест, 15 апреля 2010 г. / [редколлегия: Л. М. Максимук и др.]. — Брест: БрГУ, 2010. — 246 с. — Часть текста на английском, испанском, немецком и французском языках. — Библиография в конце докладов. — 119 экз. — ISBN 978-985-473-556-6.

**La table ronde**: сборник материалов / Белорусский государственный университет, Кафедра английского языка и речевой коммуникации; [под общей редакцией И. Ухвановой и М. Сарновского]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2010– — ISSN 2218-8002.

Вып. 1: Дискурс в академическом пространстве: материалы международного «круглого стола» (3–5 апреля 2009 г., Минск). — 2010. — 145 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-476-808-3.

### Мовы

**Академическое письмо**: учебно-методическое пособие по письменной практике для студентов 3-го курса / Минский государственный лингвистический университет; [составители: Э. А. Усилова и др.]. — 4-е изд. — Минск: Лексис, 2010. — 155 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6932-11-6.

**Английский язык**: 4-й класс: рабочая тетрадь: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / [Л. М. Лапицкая и др.]. — Минск: Аверсэв, 2010. — 128 с. — 20100 экз. — ISBN 978-985-529-605-9.

**Английский язык**: 7-й класс: выполненные упражнения к учебному пособию «Английский язык. 7 класс» авторов Н. В. Юхнель, Е. Г. Наумовой / [составитель М. А. Гонсиевская]. — Минск: Юнипресс, 2010. — 190 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-532-355-7.

**Английский язык**: практические задания для самостоятельной работы: пособие для студентов заочной формы обучения ФПУ / Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский

# Кампазітар — гэта Прафесія!

## *Сустрэча за «круглым сталом»*

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
рэдактар аддзела мастацтваў
"ЛіМа", вядучая сустрэчы
за "круглым сталом"

**Пры канцы мінулага года адбыўся XV з'езд Беларускага саюза кампазітараў. Са справаздачным дакладам праўлення выступіў старшыня БСК Ігар Лучанок, які ў той жа дзень быў зноў, і на безальтэрнатыўнай аснове, абраны кіраўніком творчай суполкі. У рабоце з'езда браў удзел міністр культуры Беларусі Павел Латушка. Ён уручыў найвышэйшую ўзнагароду міністэрства — нагрудны Ганаровы знак — музыказнаўцы Эльвіры Алейнікавай і кампазітару Марыне Марозавай, а таксама падзякі кампазітарам Аляксандру Гулаю, Васілю Кандрасюку, Аляксандру Клеванцу, Яўгену Паплаўскаму. Міністр выступіў з прамовай, звярнуўшы ўвагу на тыя захады па падтрымцы нацыянальнага прафесійнага акадэмічнага музычнага мастацтва, якія робяцца на дзяржаўным узроўні (у прыватнасці, шматгадовую праблему з выданнем нот плануецца вырашыць на базе нядаўна створанага Інстытута культуры Беларусі). І заклікаў кампазітараў да актыўнага ўдзелу ў значных знакавых для айчыннай культуры бліжэйшых падзеях: 100-годдзі з дня нараджэння Максіма Багдановіча, якое адзначаецца сёлета, і чарговым юбілеі народных песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа (2012 год). Звярнуўшыся да людзей, адораных музычным талентам, як да эліты нацыі, П. Латушка адзначыў, што ва ўмовах эканамічнага крызісу ім удалося галоўнае: захаваць свой творчы саюз...**

**А праз нейкі час прадстаўнікі Беларускага саюза кампазітараў сабраліся ў рэдакцыі "ЛіМа", каб за "круглым сталом" пагаварыць пра некаторыя праблемы, якія хвалявалі дэлегатаў з'езда і ад вырашэння якіх залежыць не толькі лёс эліты нацыі, але і перспектыва духоўна-культурнага развіцця нашай краіны. Удзельнікамі размовы сталі члены праўлення БСК, добра вядомыя ў творчым і навуковым асяроддзі асобы: музыказнаўцы Радаслава Аладава і Таццяна Песнякевіч, кампазітары Галіна Гарэлава, Алег Залётнеў і Рыгор Сурус.**



Фота Кастуся Дробава

**Святлана Берасцень.** Нагадаю, што да з'езда Беларускага саюза кампазітараў "ЛіМ" прымеркаваў публікацыю артыкула Таццяны Песнякевіч "Музыка чакае ўвагі!" (нумар за 19.XI. 2010 г.). Хто чытаў — заўважыў: там няма традыцыйнай "справаздачнай" канкрэтыкі, пераліку прозвішчаў. Таццяна Пятроўна мудра адмовілася ад прынцыпу "кожнай сястрыцы па завушніцы", каб засяродзіць увагу чытача на саміх праблемах, якімі жыве саюз. Дарэчы, і з трыбуны з'езда, нават у самых аптымістычных выступленнях, гучаў усё той жа лейтматыў: "Няма таго, што раньш было". Дый сама падзея — з'езд кампазітараў краіны! — нібы страціла свой узнёслы духоўны сэнс, колішнюю грамадскую значнасць і не выклікала цікавасці, а таму і розгаласу, у масавых СМІ. Перадз'ездаўскія канцэрты сучаснай беларускай музыкі праходзілі ў сталіцы без належнай рэкламы. Склалася ўражанне, што з жыцця нашага грамадства проста знікае цэлы пласт культуры. Бо ўсё часцей, нават у асяроддзі людзей адукаваных, сустракаеш такіх, якія не ведаюць і ведаць не хочуць пра існаванне "эліты нацыі", а сваю элементарную неінфармаванасць у прафесійным музычным свеце, абмежаванасць у яго разуменні кампенсуюць спасылкамі на змену часоў і прыярытэтаў, амбіцыямі, агрэсіўным невуцтвам і нігілізмам. Неверагодна, але адной з маіх калег давялося выслухаць ушчуванні супрацоўніка шаноўнага выдання: маўляў, прапанова напісаць пра сучасных беларускіх кампазітараў — нонсэнс, бо ў наш час кампазітараў няма, гэтая прафесія сышла на нішто, а ёсць тэхніка з наборам кнопак, і варта толькі націснуць адпаведныя, як музыка сама загучыць, і прычым тут кампазітары...

**Галіна Гарэлава.** Што тут скажаш... Хіба толькі ўсклікнуць: "Ратуйце Музыку, ратуйце кампазітараў!". Калі ты не чытаў "Вайну і мір", гэта не значыць, што такой кнігі няма, што яна не напісана, што не існуе Леў Талстой. У такіх сітуацыях трэба найперш галаву чалавеку на месца паставіць. А як гэта зрабіць...

**С. Б.** Сапраўды: а як?.. Калі нехта не чытаў "Вайну і мір", на гэта могуць быць розныя прычыны. Адна з іх — чалавек не ўмее чытаць. І часцей за ўсё тыя людзі, якіх адпуджваюць самі словы "філармонія", "опера", "сімфонія", "класіка", непадрыхтаваныя да таго, каб чытаць іх змест, — не ўмеюць чытаць вобразную мову гукаў. Таму не ходзяць на адпаведныя канцэрты, як, напэўна, не хадзілі б слухаць літаратурныя дэкламацыі на незнаёмай мове або глядзець іншаземныя фільмы без дубляжу дыялогаў. Навучыцца слухаць музыку — гэта больш складаны працэс, чым авалоданне навыкамі чытання літар. У музыкі — свая мова, разуменню якой трэба доўга, калі не ўсё жыццё, вучыцца. Яна (як, зрэшты, і спрычыненне да сур'ёзнай літаратуры) вымагае асаблівай унутранай працы.

**Г. Г.** Вось! Я нават сваім студэнтам, музычна падрыхтаваным людзям, якія прыйшлі ўжо вучыцца кампазіцыі, гэта тлумачу. Наколькі вядома, піяніст або скрыпач на занятках у класе акадэміі будзе ўсё ўважліва слухаць і асэнсоўваць, ніколі не праігнаруе параду ці заўвагу педагога: маўляў, што вы мне гаворыце, я даўно ўжо ўмею граць. А выказваць сваё меркаванне, пажаданне пачаткоўцу-кампазітару наконт яго работы, часцей за ўсё, не мае сэнсу, бо ён перакананы, што сам піша правільна і добра, і кожную заўвагу ўспрымае як нейкую недарэчнасць. І тады я мушу тлумачыць, што ёсць музыка і такая, і такая, і такая, але адрозненні — прынцыповыя. Удала зарыфмаваныя радкі для насценгазеты і раман у вершах — не адно і тое ж. І ў класе кампазіцыі вучаць гэтай унікальнай творчай прафесіі, вучаць "кампазіцыі рамана"... Вось як даводзіцца размаўляць з музыкантамі. А як паразумецца з тымі, хто не мае ніякага дачынення (ды і ніякай цікавасці) да сферы сур'ёзнай музыкі? Можа, нехта з удзельнікаў нашай размовы ведае?

**Радаслава Аладава.** Адзін мудры чалавек сказаў, што калі ёсць добрыя кампазітары, яны абавязкова будуць пачутыя. Будуць людзі, зацікаўленыя гэтай музыкай. І я ведаю, якія аншлагі збіралі, напрыклад, прэм'еры твораў Уладзіміра Кандрусевіча, Ларысы Сімаковіч. Хай сабе гэта адбывалася не па "магістральнай лініі" працы нашага саюза, але менавіта гэтыя беларускія кампазітары здолелі адчуць і задаволіць запатрабаванні нашай сённяшняй моладзі! Дарэчы, творцы яны дастаткова прафесійныя. Я чалавек, які звяртаецца да традыцыі, таму не заклікаю "парваць з мінулым" найхутчэй. Але я хацела б усё ж ад традыцый, і асабліва традыцый 60-х — 70-х гадоў мінулага стагоддзя, пакінуць павагу да прафесіі. Вось Галіна выказвае занепакоенасць тым, што ў нас кампазітараў не паважаюць у грамадстве, і ў роспачы шукае адказу: што ж рабіць? А на маю думку, справа ў тым, што ў нас кампазітары не паважаюць самі сябе і свой прафесіяналізм. І працуюць неяк адмежавана ад усіх маральных ідэй, якія існавалі і заўжды існуюць. Раней у нас была палітычная тэма, да якой так або інакш звяртаўся кожны кампазітар. Цяпер з'явілася духоўная тэма — і ўсе пераключыліся на яе, прычым як пішуць — гэта няважна. Але ёсць духоўная музыка і ёсць творы, напісаныя на духоўную тэму. Толькі адзін раз мы пра гэта загаварылі: на рэпертуарна-закупачнай камісіі Міністэрства культуры, і шэраг твораў тады ўсё ж такі адхілілі, нягледзячы на іх тэму. Мне здаецца, калі людзі будуць адказна ставіцца да прафесіі і арыентавацца на таго самага слухача, па якім мы сёння гэтак тужым, дык, верагодна, будзе нейкі зрух...

**Г. Г.** Не пагаджуся з вамі, Радаслава Мікалаеўна. Таму што вы маеце на ўвазе толькі адну катэгорыю слухачоў — тых, што не хочуць канцэнтраваць сур'ёзную ўвагу і надта напружваць сябе...

**Р. А.** Гэта — рэальнасць! Мы можам браць для прыкладу якую заўгодна частку слухачоў. А што мы робім для слухача інтэлектуальнага? Мы самі ж не ходзім на канцэрты сваіх жа калег... Мне здаецца, самыя балючыя праблемы існуюць сёння на ўзроўні этыкі ў саюзе кампазітараў. І калі яны будуць вырашаны, тады, верагодна, і з публікай будзе лягчэй паразумецца.

**Таццяна Песнякевіч.** А што вы маеце на ўвазе пад "этыкай у саюзе кампазітараў"?

**Р. А.** Сур'ёзнае стаўленне да творчасці калег і наведванне канцэртаў...

**Г. Г.** ...наведванне хаця б прэм'ер калег, я ўжо не кажу ўвогуле пра канцэрты з твораў беларускіх кампазітараў! Дарэчы, Радаслава Мікалаеўна, заклікаючы пачуць запатрабаванні моладзевай аўдыторыі, абмяжавала прытым прастору нашай творчасці пэўнымі жанрамі. Таму што былі названыя два прозвішчы, два кампазітары, якія працуюць у жанры... Нават не ведаю, як яго патлумачыць...

**Р. А.** Ну, а прозвішча Ігара Стравінскага ў вас не выклікае сумніву? Яго творы ў нас збіраюць публіку. Поўныя залы. Калі ёсць нейкая цікавасць да музыкі, слухач на канцэрт прыходзіць. Гэта праўда, і давайце не будзем яе хаваць ад саміх сябе.

**Алег Залётнеў.** Трэба проста пісаць і прапаноўваць выканаўцам цікавую музыку! Яна прыцягне ўвагу: мабыць, не адразу, бо, дапусцім, ад цябе нічога адметнага не чакалі, — але пасля незвычайнай прэм'еры пойдзе пагалоска, і ўжо наступным разам публіка пойдзе, дайце веры. І ў сённяшняй сітуацыі кампазітарам трэба да саміх сябе звярнуцца: для сябе мы пішам ці ўсё ж такі для пэўнай аўдыторыі? Аўдыторыя не бывае масава аднароднай і выключна моладзевая. Публіка бывае і пажылая, і сярэдняга ўзросту, бывае навуковая аўдыторыя, якой неабыякава, чым займаюцца айчынныя кампазітары...

**Г. Г.** Слушна! Бывае і адмыслова фестывальная аўдыторыя...

**А. З.** Што трэба, каб заваяваць яе? Першае: добрая музыка, якую мы павінны напісаць. Другое: добрая і разумная, мэтанакіраваная прапаганда — прапаганда, скіраваная на тых, каго магла б зацікавіць канцэртная праграма. Трэцяе: падтрымка ад саюза кампазітараў, а яна, у сваю чаргу, можа быць забяспечана толькі падтрымкай БСК з боку дзяржавы. Наш творчы саюз у свой час і створаны быў менавіта дзяржавай, і фінансаваўся ёю. Сёння саюз фактычна кінуты на выжыванне. У новай рэальнасці, можа, так і павінна быць. Але ў той жа час трэба паклапаціцца пра стварэнне ў краіне інстытута спонсарства. Для гэтага ў дзяржаве павінны быць адпаведныя законы, якія б не стрымлівалі, а стымулявалі і заахвочвалі развіццё спонсарства і пра якія апошнім часам шмат гаворыцца. Тады мы самі знайшлі б тых людзей, якія маглі б фундаваць нашы праекты, дапамагаць саюзу ў арганізацыйна-творчай дзей-

насці. Хаця б добрай музыцы дапамагчы прабіцца!

**Р. А.** Але прытым усё наладзіцца толькі тады, калі будуць творчыя праблемы вырашаныя і калі будзе сапраўды ажыццяўляцца адбор музыкі для выканання паводле высокіх прафесійных крытэрыяў, калі на публіцы будзе з'яўляцца ўсё самае лепшае... Мяне проста дзівіць, як кампазітар сёння піша сімфонію ў трох частках, у якой 52 мінуты музыкі, музыкі досыць нейтральнай... І натуральна, што дырыжор, дасведчаны ў сучаснай сітуацыі, кампануючы "зборную" праграму з'ездаўскага канцэрта, мусіў выбраць з усёй сімфоніі для публічнага выканання адну кароткую частку. І гэтая музыка, у цэлым ацэненая прафесіяналамі даволі скрушна, была ўспрынята публікай (у той невялічкай частцы твора, што прагучала) з неверагодным энтузіязмам і нават выконвалася на "біс". Таму, каб у будучыні пазбегнуць такіх сітуацый, трэба рабіць сумленны прафесійны адбор твораў для канцэртных праграм, арыентуючыся неяк і на тое, чаго хоча сучасная філарманічная публіка. Але бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што слухаць у вечаровай зале сімфонію такога кшталту, працягласцю 52 мінуты, якую, дарэчы, і прафесіяналы не могуць слухаць, — яна б не хацела.

**Г. Г.** Але ж сімфоніі Дзмітрыя Смольскага публіка слухае! Праўда, даўжэй за 40 мінут ён ніколі не піша...

**Т. П.** Я не пагаджуся з тым, што трэба арыентавацца на запатрабаванні публікі.

**Р. А.** Арыентавацца на публіку трэба абавязкова, інакш будуць пустыя залы!

**Г. Г.** Ну хіба можна арыентавацца на публіку? На якую публіку арыентавацца ў нас? Ці ж арыентуюцца на публіку, напрыклад, нашы самыя запатрабаваныя і сур'ёзныя калегі ў замежжы?

**Р. А.** Яны арыентуюцца на тую сітуацыю, якая склалася там! Там ёсць шыкоўны высокі пласт інтэлігенцыі. Музыкантаў. Людзей, якія гэтым цікавяцца. І ўрэшце — не трэба казаць, што музыка — гэта не элітарнае мастацтва. Гэта элітарнае мастацтва, і наша прафесійная музыка ў тым ліку! І тут калі няма гэтай эліты, дык няма каму на канцэрты хадзіць! Вось вам і праўдзівы адказ на пытанне.

**Г. Г.** Калі няма — значыць, трэба ствараць!

**Р. А.** Што значыць "ствараць"? Значыць, трэба хаця б нечым прывабліваць публіку. Дапусцім, тыя, што слухалі і ўпадабалі Скерца са згаданай сімфоніі, могуць прыйсці яшчэ на які-небудзь канцэрт, і калі не будуць расчараваныя, пачнуць хадзіць у філармонію. А тыя, хто пайшоў з аднаго бясконцага вечарова-начнога камернага канцэрта, не пратрымаўшыся да яго заканчэння, думаю, больш не паддадуцца на прынадныя анонсы.

**Г. Г.** Вярнуся да той думкі, якую выказаў Алег Барысавіч: пісаць для сябе ці для публікі? Калі ты пішаш, напачатку не думаеш пра "адрасата" свайго твора, толькі потым прыкладна пачынаеш уяўляць, дзе мог бы ён прагучаць, у якім кантэксце, каго б зацікавіў. Мне ўспамінаецца даўняя савецкая тэлеперадача "Музычны рынг", стваральнікі якой аднойчы "сутыкнулі" ў студыі фальклорны ансамбль пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Пакроўскага і некалькі рок-груп. Рокеры атакавалі: мы, маўляў, пішам на патрэбу дня, ладзім акцыі пратэсту супраць наркотыкаў, супраць алкаголю і г. д., а вы, маўляў, пішаце для сябе, нават адмовіліся паўдзельнічаць у акцыі для будаўнікоў БАМа. Пакроўскі тады адказаў: так, але толькі тады, калі ты пішаш для сябе, музыка мае сапраўдную каштоўнасць. Сапраўды, калі пішаш пра нешта асабліва для цябе дарагое, аўдыторыя адыходзіць на дальні план. Але атрымаць жывы водгук на сваю музыку, вядома, хочацца... Ты можаш здаволіцца аўдыторыяй камернай залы, а камусьці патрэбны стадыён. Алег Елісеенкаў, найталенавіты чалавек, пайшоў з акадэмічнай музыкі, патлумачыўшы: "Мне патрэбны подых стадыёна". І калі Уладзіміру Кандрусевічу ці Ларысе Сімаковіч таксама патрэбны "подых стадыёна", яны і пішуць у адпаведным жанры. А калі гэты жанр — не мой? Я лічу, не трэба ламаць сябе, нічога шчырага і годнага з гэтага не атрымаецца: трэба выказвацца тою музычна-вобразнай мовай, на якой ты думаеш. Калі маё прызванне — камерная музыка, навошта брацца за рок-оперу?

**А. З.** Дык ніхто і не адмаўляе разнастайнасці напрамкаў, стыляў, жанраў!

**Р. А.** У творчасці і не можа быць "моды", абмежавання нейкімі жанрамі, тэндэнцыямі. Кожны піша, як ён адчувае. Іншая справа, што творца не павінен пісаць толькі дзеля таго, каб потым гэтыя ноты нейкім чынам прадаць, атрымаць грошы і супакоіцца. Павінна ж быць нейкая іншая мэта: калі не мара пра паспяховае публічнае выкананне, дык хоць бы проста самавыяўленне! Але калі ты пусты чалавек, дык тваё самавыяўленне нікога не зацікавіць.

**Г. Г.** І мне пасля кожнай "рэпертуаркі" бывае проста сорамна, балюча за прэстыж нашай прафесіі...

**А. З.** А я скажу, чаму сорамна. Таму што рэпертуарна-закупачная камісія пачала нагадваць багадзельню. Там не адбіраюць творы — сапраўды добрыя, вартыя выканання. Адбываецца раздача "кожнай сястрыцы па завушніцы". Бо ўрэшце абмяркоўваюцца не творы, а матэрыяльнае становішча іх аўтараў. Аднаго пашкадуючы, другога. У выніку, прабачце за рэзкасць, купляецца нотнае смецце, і ў гэтым смецці патанае сапраўды вартая ўвагі музыка, якую з прыемнасцю гралі б выканаўцы і слухала публіка.

**Р. А.** Якая б ні была закупачная камісія, яна можа выбіраць толькі з таго, што прапанавана самімі аўтарамі. На жаль, часта тое, што яны прапануюць, — мала цікавае. Але ж яны прафесіяналы і жывуць са сваёй творчай працы. Мы, закупачная камісія, не ацэньваем талент аўтара. Мы ацэньваем канкрэтны твор, скажам так — прафесійны ўзровень зробленай рэчы. І часам гэты ўзровень пакідае жадаць лепшага...

**А. З.** Навошта ж тады купляць?!

**Р. А.** А мы далёка не ўсё купляем. Я ўжо казала пра адну з апошніх "рэпертуарак", на якой адхілілі кан'юнктурныя "духоўныя творы". Але бываюць кампрамісы. У свой час мудрэц і найярчэйшы кампазітар Леў Абеліёвіч, зважаючы на маю бескампраміснасць, перасцерагаў мяне ад працы ў гэтай камісіі: "Табе няма чаго там рабіць, бо кампазітары хочуць есці". З гадамі і я, мабыць, памудрэла. І цяпер гатовая пачуць і падтрымаць тых, хто, мабыць, не надта таленавіты, але дастаткова сур'ёзна працуе.

**Г. Г.** Вядома, "адтуль", "звыш", кожнаму з нас дадзена не пароўну. У творчасці мы непараўнальна розныя. Але членства ў саюзе дае нам, няроўным, пэўнае раўнапраўе. Вынікам і сталася праграма з'ездаўскіх канцэртаў, у якую кожны, без абмеркавання і адбору ў асяроддзі калег, мог прапанаваць якія заўгодна свае творы, нават даўнія, якія не ёсць паказчыкам творчай працы ў міжз'ездаўскі перыяд. Крыўдна, што канцэрты гэтым разам не прагучалі брэндам сучаснай беларускай музыкі. Не было на афішах сузор'я імён, затое на першы план выйшлі людзі, якія скарысталіся сваім раўнапраўем і прапанавалі сябе...

**Р. А.** Толькі не трэба казаць, што "так атрымалася"! Давайце будзем самакрытычнымі, шчыра прызнаемся, што ўсе мы тут недапрацавалі, праўленне павінна было праявіць актыўнасць і пракантраляваць працэс адбору музыкі, укладання праграм.

**Т. П.** Памылкай было звярнуцца да кампазітараў, каб яны самі складалі заяўкі з пералікам уласных твораў, выкананне якіх яны хацелі б пачуць на з'ездзе. Асабліва пачалі актыўнічаць тыя, каму доўгі час, і з аб'ектыўных прычын, не шанцавала на публічнае выкананне сваіх опусаў. А многія таленавітыя і яркія творчыя асобы проста адмовіліся ўдзельнічаць у такой самадзейнасці.

**А. З.** Крыўдна, калі крытэрыі прафесіі кампазітара пачынаюць размывацца ў нашым жа творчым асяроддзі... А колькі спекуляцый робіцца вакол яе! Калі я працаваў на Беларускім радыё, быў музычным рэдактарам вяшчання для дзяцей, да мяне аднойчы звярнулася даволі вядомая дама, кіраўніца самадзейнага дзіцячага гурта, з просьбай набыць некалькі дзіцячых песень. Прынесла фанаграму. Выбраў дзве немудрагелістыя мілагучныя песенькі — такія на радыё заўсёды запатрабаваныя, — і папрасіў для аплаты прынесці іх ноты. Мая просьба яе здзівіла: "Ведаеце, з нотамі ў мяне... праблемы". Тады ўжо здзівіўся я: "Вы назвалі сябе кампазітарам. Як жа вы "пісалі" і развучвалі песні, калі ў вас праблемы з нотамі? Як жа заплаціць за вашу працу, калі няма нот?" Праз месяц я ўбачыў у вестыбюлі Дома радыё маляўнічую канцэртную афішу, дзе гэтая дама была прадстаўлена як кампазітар, спявачка, паэт... Цяпер, вы ведаеце, яна такая не адна. Нават неадукаваныя складальнікі друганскіх і пасрэдных песенек-аднадзёнак называюць сябе кампазітарамі і часам глядзяць звысоку на тых таленавітых і музычна эрудзіраваных людзей, якія ёсць у нашым саюзе. Чаму так сталася?

**(Завяршэнне размовы за "круглым сталом" — у бліжэйшых нумарах)**

***На здымку:** удзельнікі "круглага стала".*



*Работа Міхаіла Баразны з серыі "Старыя рэчы".*

# Сімвалічная Еўропа

**Сталічны Музей сучаснага выяўленчага мастацтва прэзентаваў выстаўку "Еўропа плюс-мінус". Як зазначыла на адкрыцці дырэктар гэтай установы культуры Наталля Шаранговіч, у экспазіцыі два аўтары: мастак, кандыдат мастацтвазнаўства, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна і мастацтвазнаўца, куратар выставак і міжнародных выставачных праектаў, фотамастак Кацярына Кенігсберг. Прадстаўлена больш як 90 знакамітых работ, якія бачылі не толькі жыхары Беларусі, а і Вены ды Кіева.**

**Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара**

Выстаўка цікавая, разнастайная, нечаканая, універсальная і ў нечым іранічная. Фотаздымкі ўтрымліваюць не толькі фотавыявы, што, зразумела, галоўнае, а запісы, тэксты, замалёўкі. "Еўропа плюс-мінус" — даследчыцкая серыя, бо мастацтва ў сучасным свеце і ёсць пэўнае даследаванне. Але даследаванне ў работах не фізічнае або геаграфічнае, яно метафізічнае, культуралагічнае, духоўнае, так бы мовіць, — сучаснага свету і чалавека ў ім, ці чалавека ў сучасным свеце. Адчуваецца не проста погляд фатографа, а погляд сапраўднага мастака з перадачай жывапісных якасцей.

Са слоў Міхаіла Баразны і Кацярыны Кенігсберг, дадзены праект, які працягваецца ўжо каля дзесяці гадоў, не завершаны, знаходзіцца ў працэсе. У работах можна ўбачыць як хранікальна-дакументальныя здымкі, так і пастановачныя кадры, як фотаграфіку, так і творы, якія нагадваюць кніжную вёрстку. Фотаздымкі ў розных краінах аб'яднаныя іранічнымі, часам парадаксальнымі сумяшчэннямі. Шматлікія фундаментальныя паняцці еўрапейскай культуры даўно перавандравалі на вулічныя і дарожныя ўказальнікі, назвы магазінаў, сталі звыклымі. Адна з задач праекта "Еўропа плюс-мінус" — у вядомым выявіць нечаканае і невядомае. А яшчэ зразумець, што Еўропа не на карце, набытым квітку або ў кропцы прыпынку цягніка, яна тут — у нас унутры.

У экспазіцыі — фатаграфіі і фатаграфіка з серый "Еўропа ±", "Старыя рэчы", Некалькі слоў". Фатаграфічныя творы ўтрымліваюць шмат ідэй і думак, сэнсавых ліній і сімвалаў, яны глыбокія, часам вельмі эмацыянальныя і пачуццёвыя.



*Работа Міхаіла Баразны з серыі "Старыя рэчы".*



*Работа Кацярыны Кенігсберг з серыі "Некалькі слоў".*

# Тут ужо ўсё прыдумана

Жана ЛАШКЕВІЧ

**Пра тое, што ў Мінску ёсць адмысловы тэатр для дзяцей і юнакоў — Тэатр юнага гледача — ведае, пэўна, уся Беларусь. Як жа не ведаць: каля пяцідзесяці з лішкам гадоў то артысты едуць да дзяцей па гарадах і вёсках, то дзеці да артыстаў — у сталіцу. Цэлымі аўтобусамі. І паездка асабліва ўдаецца, калі дасведчаны настаўнік дамовіцца пра невялічкую экскурсію па тэатральным закулíссі і творчую сустрэчу з яго насельнікамі. Але ж тэатр ужо два гады рыхтуюць да рамонту...**

Адмыслова да школьных зімовых вакацый Беларускі рэспубліканскі ТЮГ аднавіў сваё закулíссе ў галерэі "Vilnius" сталічнай бібліятэкі № 18 аж да 8 лютага. Праўда, зала не самая вялікая — дык і закулíссе адпаведнае. Чароўнае? Насамрэч. Чараў вымагае казка, чароўная гісторыя, прыгодніцкая авантура, феерыя, легенда, паданне і нават камедыя паводле нацыянальнага фальклору. Праўда, тэатральныя чары й чарадзействы простыя. Часцей за ўсё добрага ведання фізікі, хіміі ды матэматыкі хапае, каб іх спраўдзіць. А вось каб даць ім веры, патрэбна яшчэ сёе-тое...

За кулісамі чаруюць мастакі ды іх памагатыя (грымёры, бутафоры, закройшчыкі, швачкі, макетчыкі, дэкаратары, сталяры, электрыкі, зваршчыкі і яшчэ, і яшчэ!). Сучасную сцэнаграфію няможна ўявіць без святла, прасторы, вобраза спектакля. З самых простых рэчаў, даступных кожнаму народнаму ўмельцу ў краме "Зрабі сам", у тэатры збіраюцца замкі, фантаны і касмічныя караблі. Бывае, праўда, што над якой-кольвек мудрагелістай трохпавярховай канструкцыяй тыднямі працуе завод, а на сцэне асталёўваюць басейн або кладуць чыгуначныя рэйкі. Лепшыя сцэнографы пачуваюць сябе стваральнікамі сцэнічных светаў і звыкла сумяшчаюць таленты жывапісца, канструктара, мадэльера, скульптара і майстра хоць куды.

...Але спектаклі аджываюць свой век. Замкі, фантаны і касмічныя караблі — у горшым выпадку трапляюць на злом. Разам з бутафорыяй. Касцюмы можна перашыць альбо падарыць школьнай самадзейнасці. На ўспамін тэатральным мастакам застаюцца эскізы ды фотаздымкі, так што нават сорак гадоў сцэнічнай дзейнасці свабодна змесцяцца ў адмысловыя альбомы. Чаму так? Таму што самі па сабе рэчы для спектакля не заўжды ўяўляюць сабою вялікую матэрыяльную каштоўнасць. А каштоўнасць мастацкая... Яе не бывае без святла, прасторы і вобраза. Прынамсі, без суправаджальнага тэксту. Але расповеды пра спектаклі, якія ўжо няможна паглядзець, цікавы хіба тэатразнаўцам...

А калі распавесці не пра старыя спектаклі пэўнага тэатра, а пра тэатр? Пра гісторыю сусветнага тэатра на матэрыяле сваіх старых спектакляў? Крыху ўяўлення, і наша тэатральная старызна зробіцца каштоўнай! Уявім, як Старажытную Грэцыю прадстаўляць маскі ды лялькі з "Антыгоны" (Сафокла і Жана Ануя). Дзе Грэцыя, там і Рым, толькі тлумачыць трэба дасціпна і дакладна: грэчаскі тэатр спраўджвалі людзі вольныя, і за гэта іх паважалі, а ў Рыме выканаўцу маглі і лупцоўкі задаць, бо акцёры звычайна былі чыёй-небудзь уласнасцю. За сярэднявечча адыграюць фахверхавыя дамкі ды стылізаваныя строі (з казак Шварца і Андэрсана). Вядома, бо пасля міракляў ды містэрый казка якраз у сярэднявеччы і зацвердзілася. Камедыю дэль артэ ў тюгаўскім варыянце спраўдзяць касцюмы й маскі са "Шчаслівых жабракоў" Карла Гоцы. Японскі тэатр — кімано, масткі і заднікі з "Жураўліных пер'еў" Дзюндзі Кінасіты...

Эскізы, заднікі, тэатральная мэбля ды зброя, бутафорыя, касцюмы... А разам з імі — тэатральныя прыёмы ды ўмоўнасці, вобразы ды характары, эпохі, ды светы, ды іншасветы... А гаворка пра акцёраў і пра тое, што і як яны паказвалі цягам стагоддзяў, адбываецца дзякуючы асноўнаму мастаку "Чароўнага свету закулісся" — Ларысе Рулёвай, мастаку Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача з 1980 года (галоўнаму мастаку — з 1993). Яна стварыла візуальны вобраз больш як ста спектакляў, ацэненых годна і вельмі высока. Спектакляў папулярных, на якія вокамгненна разбіралі квіткі, лаўрэатаў і дыпламантаў тэатральных фестываляў ("Бэмбі", "Чыпаліна і яго сябры", "Кот у ботах", "Шчаслівыя жабракі", "Сястра мая Русалачка", "Дарога на Віфлеем"). Спектакляў дзіўных, якія, здаецца, з'явіліся не ў час, вытрымалі, самае большае, два тэатральныя сезоны і... засталіся тэатральнай таямніцай ("Антыгона", "Марныя намаганні кахання").

З тюгаўскім закулíссем Ларыса Рулёва асвойталася пры канцы 1970-х гадоў. Скончыла БДТМІ (цяпер — Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў), аддзяленне тканін і мадэлявання. Працавала ў "Харошках". Строі да адной з праграм знанага харэаграфічнага ансамбля сталіся яе дыпломнай работай, а праграма тая аб'ездзіла, без перабольшання, палову свету. Аднаго разу "Харошкі" трапіліся Хэрлуфу Бідструпу, выбітнаму дацкаму мастаку, майстру шаржа і карыкатуры. Уражаны беларускімі строямі "Харошак", Бідструп праз артыстаў перадаў мастаку Л. Рулёвай падарунак — свой альбом.



На пытанне пра таямніцы свайго сцэнічнага чарадзейства Ларыса Рулёва ўсміхаецца, перасмыкае плячыма і настойліва апавядае пра чарадзейства, так бы мовіць, калегіяльнае. Гэта калі святло і прастора, вобраз і стыль, касцюм і грым ствараюць асяроддзе для адмысловага сцэнічнага панавання акцёра.

Тюгаўскае чарадзейства яшчэ не так даўно сілкавала акцёрская асоба Міхаіла Пятрова, чые касцюмы да сёння захоўваюць у тэатры, і, паводле адной з вядомых актрыс, "яны грэюць". Пятроў дапамагаў знайсці вобраз, нібыта гуляючы с мастаком... і з рэжысёрам. У яго, адпаведна рэжысёрскай задачы... хутчэй, ласкавае просьбы, куры па сцэне маглі хадзіць, але глядацкія вочы няможна было адвесці ад Пятрова. Ён з курачкай размаўляў, браў на рукі — як у спектаклі "Шукай ветру ў полі". Тэатральную курачку Пятроў забіраў да сябе на лецішча, выгульваў на прыродзе...



Складаныя акцёрскія асобы паспрыялі таму, што Ларыса Рулёва займела цвёрдае перакананне: мастаку трэба даверыць. Колькі давялося перажыць, калі актрысы кідалі: "Я гэта не надзену, гэта не мой фасон, не мой колер, мне гэта не пасуе!" У спектаклі "Голы кароль" угаворамі ды перакананнямі Рулёва агаліла плечы актрысе — прыгожай мажной кабеце. І трэба ж было, каб у гэтай сукенкі "без плячэй" яе ўбачыў вядомы замежны рэжысёр! Не, здымацца, на жаль, не запрасіў. Але ўхваліў адмысловым кампліментам яе жаноцкасць і прыгажосць. Сукенка зрабілася добрым талісманам актрысы; яна і да сёння сцвярджае: варта было апрануцца ў Ларысіну сукенку, як шанцунак з'яўляўся ніадкуль! "Мастаку трэба даваць, — паўтарае Рулёва, — мастак бачыць, як будзе выглядаць акцёр пад тэатральным асвятленнем, пасярод дэкарацый альбо на голай сцэне"...

З бальшынёй рэжысёраў усё проста: пагаварылі, абмеркавалі, што да чаго ў спектаклі, ды пайшлі выконваць. Са знакамітым рэжысёрам Мікалаем Шыйко Ларыса Рулёва перажывала найпадрабязны перыяд застольнай працы... у Нацыянальнай бібліятэцы (дайсці да старога будынку былое Ленінкі ад тэатра — тры хвіліны). Разам гарталі кнігі, шукалі ды выдумлялі вобразы. Мікалай Шыйко, а за ім і Юрый Міроненка, дасціпна заўважалі, што ў добрым тэатры ўжо ўсё прыдумана, важна толькі пра гэта ведаць і скарыстаць у патрэбны час. Скарыстаць можна, але як уведаць?

За савецкім часам тэатральныя мастакі часцяком збіралі выразанкі з газет і часопісаў — адметныя касцюмы, будынкі, краявіды, цікавыя аблічча ды фрызуры сілкавалі ўяўленне. Рэжысёрскае таксама. Сабраным дзяліліся, давалі адно аднаму паглядзець, паразважаць... Пачалі дзяліцца з Міроненкам, працуючы над "Бэмбі", і высветлілася, што ў рэжысёра і мастака амаль адны і тыя самыя выразанкі... з тымі самымі сюжэтамі ды аб'ектамі. Праўда, рэжысёр Міроненка збіраў не столькі выразанкі, колькі ідэі ды задумы. Да іх увасаблення на сцэне Міроненка ставіўся вельмі строга, пільнаваў кожную драбязу. У "Бэмбі" Ф. Зальтэна ён папрасіў мастачку прыкрыць акцёрскія твары дэталямі касцюмаў і строга папярэдзіў актрыс: ніякага грыму перад выхадам на сцэну, хіба тон на твар. Але прыгажосць — страшная сіла. Адна з актрыс парушыла забарону, ужыла сцэнічны грым, калі не сказаць — злоўжыла ім. Міроненка выхавана падаў ёй руку, правёў да рукамыйніка і... сваёй рукою змыў грым. "Жорсткі, крыўдны ўрок, — кажа Рулёва, — але трупа ўбачыла, як трэба цаніць датклівую сцэнічную працу і як адна недарэчнасць можа ўсё сапсаваць".

"Чароўны свет закулісся" мае на ўвазе сустрэчы з майстрамі тэатральных спраў і аповеды, расповеды, гутаркі й гаворкі. Бо ў добрым тэатры ўжо ўсё прыдумана. Важна толькі пра гэта ведаць не адно тэатральнаму прафесійніку, але і гледачу — без яго ж тэатра проста не бывае, рыхтык як без святла, прасторы ды вобраза...

***На здымках: з выстаўкі па "Чароўным свеце закулісся".***

---

Яна ХАДОСКА

# Знайсці інтанацыю

**У шматлікіх прыхільнікаў Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі — свята: улюбёнаму творчаму калектыву споўнілася 20 гадоў. Яго мастацкі кіраўнік, народны артыст Беларусі Валерый Анісенка распавядае…**

**— Валерый Данілавіч, пры канцы мінулага сезона ваш тэатр атрымаў званне "заслужаны калектыў".**

— Гэта высокае званне. Мы, шчыра кажучы, яго заслужылі, зрабіўшы тое, што не заўважыць немагчыма: у "хоры" культуры беларускай мы не згубіліся, сваю ноту ўзялі. У студзені 1990 года выйшла пастанова Савета Міністраў БССР пра стварэнне нашага тэатра, так што афіцыйна 24 студзеня нам споўнілася 20 гадоў.

**— Ваш творчы лёс звязаны з многімі тэатрамі, у тым ліку з Тэатрам-студыяй кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм". Вы стаялі ля яго вытокаў, а ў гэтым сезоне тэатр-студыя таксама юбіляр...**

— Шмат можна ўспамінаць пра тое, як ставіўся спектакль "Паляванне на качак", прэм'ера якога стала нагодай для стварэння ў Мінску тэатра кінаакцёра. Самая галоўная мая радасць, што "дзіця нарадзілася здаровым", яно не згубілася, яно развіваецца, бо гэты тэатр любяць, ведаюць, ён дае магчымасць раскрыцца многім нашым акцёрам кіно.

**— У РТБД, які вы сёння ўзначальваеце, кожны сезон багаты на прэм'еры.**

— Галоўная прэм'ера 20-га сезона — "Сонечка", п'еса-інсцэніроўка паводле рамана "Злачынства і пакаранне" Дастаеўскага. Што і казаць: Дастаеўскі! Выпрабаванне на годнасць і прафесіяналізм. Далей будзе спектакль "Шчаслівы муж" рэжысёра Васіля Драньо-Майсюка. "Янкаў Вянок" паводле Купалавых вершаў паставіць Святлана Навуменка. Пра ўсё не раскажаш, бо ў нас ёсць эксперыментальная сцэна, ёсць Цэнтр беларускай драматургіі і рэжысуры.

**— Ваш тэатр запатрабаваны, і вельмі прыемна адзначыць, што моладзь з вялікім захапленнем ходзіць на вашы спектаклі.**

— Цікавасць моладзі — гэта вынік нашай мастацкай палітыкі. І моладзь прыходзіць да нас, а потым становіцца нашым сталым гледачом. Вырастаюць іх дзеткі і ідуць да нас на нашы казкі. Таму важна знаходзіць такую інтанацыю ў кантакце з гледачом, каб моладзі было цікава прыходзіць у тэатр.

**— Асноўная частка трупы РТБД — моладзь. І многія вашы выпускнікі, вашы студэнты БДУ культуры і мастацтваў маюць магчымасць працаваць на гэтай сцэне разам з прафесійнымі акцёрамі. Гэта добрая практыка, вопыт, школа.**

— За гэта — вялікі дзякуй былому рэктару ўніверсітэта культуры і мастацтваў Ядвізе Дамінікаўне Грыгаровіч. Гэта магутная асоба ў нашай культуры. Яна дазволіла некалі мне працаваць ва ўніверсітэце і дапоўніць навучальную праграму. А працэс выхавання артыста, няважна, якога ён узросту, — працэс самаразвіцця, самавыхоўвання, самаўдасканалення павінен быць штодзённы. Практыка, тэатр, сцэна — вельмі важныя ў нашай справе.

**— Ці ёсць у вас запаветная мара, якая магла б спраўдзіцца ў бліжэйшы час?**

— Ёсць, але я не скажу, бо гэта ўжо не будзе марай. А ўвогуле… Мару дажыць да таго часу, калі нас не будуць цісніць планамі. Мая мара — стварыць высокамастацкі калектыў, студыю. Не проста набор, сход індывідуальнасцей, а менавіта студыйную атмасферу. Спадзяюся, што ў лепшых спектаклях, у лепшыя моманты гэта студыйная атмасфера існуе і ў цяперашнім нашым тэатры.

# Міфалогія асіметрыі

## Беларуская проза першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя

Ірына ШАЎЛЯКОВА

**Панарама беларускага літаратурнага працэсу першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя ўвогуле і прозы ў прыватнасці, безумоўна, набудзе выразныя контуры, разгорнецца ў больш ці менш празрыстых заканамернасцях, што дазволіць усталяваць прычынна-выніковыя сувязі паміж тэндэнцыямі і перспектывамі развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства на канкрэтным гістарычным этапе, — некалі.**
**Таму, хто назірае за быццём айчыннай літаратуры ў рэальным часе (чытачам, крытыкам, літаратуразнаўцам, самім пісьменнікам), даволі цяжка адразу скласці панарамнае і адначасова сістэмнае ўяўленне пра плён эстэтычных і мастацкіх пошукаў яе стваральнікаў.**
**Аднак ужо зараз можна акрэсліць сутнасныя асаблівасці прозы 2000 — 2010 гадоў як найважнейшага складніка найноўшай мастацкай славеснасці.**

Вызначальнай, характаралагічнай рысай беларускай прозы гэтага перыяду паўстае спалучэнне праблемна-тэматычнай, жанравай, стылявой поліфанічнасці з дамінаваннем цэнтральнай ідэі — ідэі адраджэння (аднаўлення ў новай — няўстойлівай — сацыякультурнай парадыгме) *нацыянальнай самасці*. У фокусе мастацкай увагі ўсіх удзельнікаў беларускага літаратурнага працэсу (і "традыцыяналістаў", і "авангардыстаў") знаходзяцца анталагічна важныя для нацыянальнай культуратворчасці праблемы гістарычнай памяці, повязі эпох і пакаленняў, асэнсавання стасункаў асобы і грамадства ды інш. Аднак пра што б ні пісалі сёння беларускія літаратары: пра вайну, пра шчымлівую незваротнасць першага кахання, бабровыя тоні, напалеонаўскія скарбы ці пра галодных галубоў на гарадскіх сметніках, — яны непазбежна пішуць пра Беларусь, рэальную і ідэальную, сённяшнюю і колішнюю. Па сутнасці напачатку XXI стагоддзя нацыянальнае мастацтва слова перажывае тую ж абвостраную сітуацыю пошуку ўласнай эстэтычнай, каштоўнаснай, духоўна-маральнай ідэнтычнасці, што і ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя.

Разважаючы пра пошукі новай эстэтычнай змястоўнасці сучаснай беларускай прозы, В. Козіч прыходзіць да высновы, якая ў найбольш агульным выглядзе адлюстроўвае пазіцыю цэлага шэрага даследчыкаў і стваральнікаў найноўшай літаратуры: напрыканцы XX стагоддзя "стала відавочным, што рэалістычны метад мастацтва (які так хораша і рознабакова расквітнеў на нацыянальнай глебе ў папярэднія дзесяцігоддзі) страчвае дасягнутыя вышыні. Ён ужо ў многім не задавальняе патрэбы чытача. Прынцып імітацыі, адлюстравання жыцця ў мастацкіх формах, адпаведных рэальнаму жыццю, а часам і проста апісання з'яў рэчаіснасці, адыходзіць на другі план перад тым, што пісьменніка цікавіць не столькі адлюстраванне, колькі перадача асабістага суб'ектыўнага бачання жыцця. Літаратары шукаюць новыя шляхі спасціжэння чалавека, нашага сучасніка".

Разам з тым, асобныя айчынныя літаратуразнаўцы адмаўляюць беларускаму авангардызму ў самім праве на існаванне. Таксама вялікае сумненне выклікае ў некаторых даследчыкаў факт здзяйснення беларускага постмадэрнізму — нават як *адносна* паслядоўна выяўленага феномена сучаснай культуры: "Гэта гістарычна абумоўлены факт: ёсць некамплементарныя для пэўных нацыянальных культур стылёвыя парадыгмы: напрыклад, адраджэнцкая для расійскай, бо ў эпоху Адраджэння ў Маскоўі панавала мангола-тарскае ярмо і арыгінальная культура не магла інтэнсіўна развівацца; класіцысцкая і постмадэрнісцкая парадыгма — для беларускай… — і гэта неабвержная рэальнасць, калі глянуць шырэй на гісторыю нераўнамернага развіцця літаратур у свеце" (Л. Сінькова).

Калі разглядаць мастацкую літаратуру як складаную сістэму, здатную да самаарганізацыі, можна меркаваць, што структура найноўшай беларускай літаратуры як пэўнага складніка гэтай сістэмы, відазмяняючыся пад уплывам разнастайных сацыякультурных фактараў, застаецца ўсё ж адносна пастаяннай незалежна ад вонкавых уздзеянняў на сістэму. Назіранні за тымі працэсамі, што вызначалі зменлівую панараму беларускага літаратурнага жыцця пачатку 2000-х, яскрава сведчаць: мастацкае выяўленне анталагічна важнай (нацыятворчай) праблематыкі адбываецца пераважна ў сістэме каардынат рэалізму — дынамічнай мастацкай сістэмы, эстэтыка і паэтыка якой, паводле гісторыі сусветнай літаратуры XIX — XX стагоддзяў, эвалюцыянуюць (абнаўляюцца, узбагачаюцца, ускладняюцца) разам з "патрэбамі чытача". У пэўным сэнсе, беларускі пісьменнік сёння смела перадусім *рэалізмам*, што ў якасці мастацкай сістэмы стратэгічна скіраваны не на імітацыю жыцця, а на аднаўленне быцця ва ўсёй складанасці яго праяў. Аналіз празаічных твораў, якія з'явіліся ў апошняе дзесяцігоддзе (публікацыі ў газетах і часопісах, у Інтэрнэце, кніжныя выданні), дазваляе зрабіць выснову, што рэалізм і як "тэхніка пісьма", і як стратэгія мастацкай тыпізацыі ў беларускай літаратурнай прасторы ў першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя не толькі не траціць сваіх пазіцый, але ўмацоўвае іх, у тым ліку і праз своеасаблівую асіміляцыю элементаў іншых мастацкіх стыляў (неарамантызму, неабарока, постсентыменталізму і г.д.). Інакш кажучы, у беларускай літаратуры 2000-х не адбываецца *вяртання да рэалізму* — па той прычыне, што пераважная большасць пісьменнікаў старэйшага і так званага сярэдзіннага пакалення з гэтай мастацкай сістэмы ніколі не "сыходзіла". Калі ж супаставіць агульныя відарысы айчыннай прозы 1990-х і канца 2000-х гадоў, становіцца відавочна: калі першая ў большай ступені арыентавана на жанравы і стылявы эксперымент, вынікам якога нярэдка была энтрапія сюжэта як сістэмы ўзаемазвязаных падзей, дык у абмежжы другой прыярытэт належыць фабульным "гісторыям", іх мастацкі "каркас" вырастае з паэтыкі рэалізму, у той ці іншай ступені "аплодненай" элементамі нерэалістычных сістэм.



Малюнак Алесі Ісы

Мастацкая літаратура надзвычай чуйна рэагуе на змены ў культурнай свядомасці: сёння свет ва ўяўленні чалавека паўстае намнога больш складаным і адначасова няпэўным, чым пяцьдзясят, дваццаць пяць ці нават дзесяць год таму. Ужо напрыканцы 1990-х гадоў у прозе пісьменнікаў, якія належалі да розных пакаленняў, выяўлялі цікавасць да вобразна-выяўленчых магчымасцей разнастайных мастацкіх сістэм, "тэхнік пісьма", выразна акрэслілася тэндэнцыя да пераасэнсавання сутнасці і функцый мастацкай умоўнасці. Сярод найбольш заўважных наступстваў гэтага, з аднаго боку, вылучаецца ўзрастанне функцыянальнай ролі і "ўдзельнай вагі" прытчавасці (В. Быкаў, В. Казько, В. Карамазаў, Уладзімір Сцяпан), сімвалічнасці і алегарычнасці (І. Шамякін, В. Казько, Ф. Сіўко, Адам Глобус, Алесь Наварыч, С. Дубавец), гратэскавасці (А. Мінкін, Вінцэсь Мудроў, С. Рублеўскі), фантастычнага (Ю. Станкевіч, А. Федарэнка) і містычнага (А. Казлоў, Л. Рублеўская, Віталь Чаропка, А. Бароўскі, Г. Аўласенка і інш.) пачаткаў у прозе аўтараў, індывідуальна-творчыя стылі якіх, нягледзячы на разнастайнасць эстэтычных нюансіровак (напрыклад, неарамантызм — у раманах і аповесцях Л. Рублеўскай, Я. Конева, постсентыменталізм — у творах А. Глобуса другой паловы 1990-х — пачатку 2000-х), "каранямі" трымаюцца ў паэтыцы рэалізму. З другога боку, маладзейшыя літаратары настойліва спрабуюць актуалізаваць у постмадэрнай сістэме каардынат шэраг прыёмаў мадэрнісцкага (сюррэалістычнага — Альгерд Бахарэвіч, абсурдысцкага — Зм. Вішнёў, Ілля Сін) пісьма.

Зрэшты, неабходнасць асэнсоўваць зменлівую рэчаіснасць падштурхоўвае не толькі маладых ("новых", "авангардыстых") літаратараў, але і пісьменнікаў-"традыцыяналістаў" ("старых" — паводле колішняга вызначэння А. Федарэнкі) да пошукаў як змястоўнага, так і форматворнага кшталту. У якасці адметнай рысы літаратурнага працэсу першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя сёння вылучаецца імкненне празаікаў розных пакаленняў адшукаць адэкватныя "духу эпохі" мастацкія формы дзеля ўрэчаўлення традыцыйна важнай для нацыянальнага прыгожага пісьменства аксіялогіі. Гэта, у сваю чаргу, абумоўлівае спецыфіку праблемна-тэматычнай і жанрава-стылявой палітры беларускай прозы 2000-х гадоў.

*«У пэўным сэнсе, беларускі пісьменнік сёння смела перадусім рэалізмам, што ў якасці мастацкай сістэмы стратэгічна скіраваны не на імітацыю жыцця, а на аднаўленне быцця ва ўсёй складанасці яго праяў. Інакш кажучы, у беларускай літаратуры 2000-х не адбываецца вяртання да рэалізму — па той прычыне, што пераважная большасць пісьменнікаў старэйшага і так званага сярэдзіннага пакалення з гэтай мастацкай сістэмы ніколі не "сыходзіла".*

Па-ранейшаму значнае месца ў структуры беларускай прозы займаюць сацыяльна-псіхалагічныя творы: раманы, аповесці, апавяданні, навелы. Агульнай адметнасцю некаторых з іх становіцца ўзрастанне мастацкай ролі філасофскай сімвалізацыі з'яў, падзей індывідуальнага і нацыянальнага быцця, што дазваляе суадносіць іх з сацыяльна-філасофскай і філасофска-псіхалагічнай прозай, арыентаванай на актыўныя ідэйна-праблемныя ды жанрава-стылявыя пошукі. Так, у апавяданні "І сказана было…" (2001) В. Гігевіч арганічна спалучае ў межах аднаго твора розныя тэхнікі пісьма (напрыклад, арганічна ўплятае ў сучасны хранатоп выкананыя ў тэхніцы аўтаматычнага пісьма ўстаўныя фрагменты-згадкі пра дзяцінства героя). На грунце міфалагемы Часу актуалізуючы традыцыйна важныя для беларускай культурнай традыцыі вобразы-сімвалы дарогі, Дому, пісьменнік спрабуе асэнсаваць наяўныя і будучыя наступствы ўплыву на быццё чалавека новага божышча, сімвалічна выяўленага ў творы праз вобраз "Новай Біблії", без якой сучаснік ужо не можа абысціся, — тэлевізара.

Неаміфалагічная свядомасць, якая бачыцца сённяшнім даследчыкам "адной з самых прыкметных праяў нашага менталітэту" і выяўляецца ў прасторы літаратурна-мастацкай творчасці, акрамя іншага, у "рэзкіх сутыкненнях і нават супрацьпастаўленнях розных часавых пластоў" (М. Тычына), акрэслівае сваю прысутнасць у творах некаторых беларускіх празаікаў праз сутыкненне сутнаснага, анталагічнага і таму прыгожага ў сваёй сапраўднасці з другасным, неістотным, пустым, а таму выродлівым (аповесць В. Казько "Зазірнуць у вочы свайму "Я"" (2007), кнігі Ф. Сіўко "Ягня ахвярнае: Прыпавесці, аповесць" (2003), "Асіметрыя: аповеды, эсэ, запісы" (2005), "Дзень Бубна: прыпавесці, аповесць" (2008)). В. Казько надзвычай арыгінальна скарыстоўвае жанравы патэнцыял сказа дзеля ўрэчаўлення востра актуальнага для беларускага грамадства сацыяльна-філасофскага зместу ("Сказ пра аднавокую казу Цылю" (1986—1999), "Сказ пра ката, які смяяўся" (2009)). Паводле Ф. Сіўко, невыносная дзіўнасць сучаснага быцця каранямі трымаецца ў Міфе, у пракаветнай беларускай гісторыі: на кожным новым этапе народнага і "прыватнага" быцця паразы ў колішніх лёсаносных бітвах прарастаюць невысокімі, непрыкметнымі дрэўцамі (аповесці "Удог" (2001),"Угліс" (2003)), атрутныя ягады якіх аказваюцца самымі дасканалымі "лекамі" ад індывідуальнай волі і нацыянальнай памяці.

Новыя агульназначныя і разам з тым асобасныя сэнсы — экзістэнцыяльныя, каштоўнасныя, маральныя — акрэсліваюцца падчас звароту сучасных беларускіх празаікаў да тэм вайны (творы В. Быкава, І. Навуменкі, А. Кудраўца), стасункаў (найчасцей — канфліктных) асобы і сучаснага грамадства (творы Я. Сіпакова, Г. Далідовіча, Г. Марчука, Г. Багданавай, А. Федарэнкі, А. Казлова, С. Рублеўскага, Міхася Южыка і інш.), прыроды і постіндустрыяльнай цывілізацыі (проза Я. Брыля, А. Жука, Ю. Станкевіча і інш.), традыцыйнага ладу жыцця і ўрбанізацыі (творы Я. Сіпакова, К. Цвіркі, Алеся Наварыча), энтрапіі родавай і нацыянальнай памяці (проза К. Тарасава, Л. Дайнекі, В. Коўтун, Л. Рублеўскай) і інш. Паказальна, што адчуванне "знікомасці" *Беларускага Свету,* пэўнай нацыянальнай Атлантыды ў літаратуры 2000-х набывае важкасць вобраза-топаса. *Вяртанне-ўзгадванне* ў айчыннай прозе апошняга дзесяцігоддзя паўстае адным з галоўных матываў, што ўрэчаўляецца на розных узроўнях яе мастацкай сістэмы. Ідэя аднаўлення, вяртання з нябыту нечага страчанага, але бясспрэчна больш каштоўнага, чым дасягненні дня сённяшняга, у творчасці прадстаўнікоў старэйшага пакалення становіцца лейтматыўнай: згадаем апавяданне В. Адамчыка "Нязрушаны камень" (2000), аповесць Валянціна Блакіта "Вяртанне на Саарэмаа" (2001), "раман-споведзь" А. Савіцкага "Пісьмо ў Рай" (2003), раманы М. Кусянкова "Хмель каля волхі" (2002), Л. Левановіча "Бесядзь цячэ ў акіян" (1999—2002), "Сіняе лета" (2005), "апавяданне-імправізацыю" Г. Далідовіча "Сярод поля, сярод лесу" (2004 — 2005), аповесць Г. Дзмітрыева "Хроніка непрыкаянай душы" (2008), навелу В. Карамазава "Мой Вялікдзень" (2005) і інш. Цікава, аднак, што ў асобных выпадках спробы "рэканструяваць" былыя пачуцці ды ўзрушэнні маюць плёнам не ўзнёслы сум, але горкую іронію, як у "трагікамічнай аповесці" І. Шамякіна "Старыя рамантыкі" (2000)…

# Супольнасць славянскіх культур: з перапіскі Івана Шамякіна з перакладчыкамі

Шырокаму колу чытачоў Іван Шамякін вядомы ў першую чаргу як пісьменнік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч. Яго творы на працягу шасцідзесяці гадоў выдаваліся шматтысячнымі тыражамі, паводле многіх яго раманаў зняты мастацкія стужкі. Але зусім не вядомы яшчэ адзін жанр творчасці пісьменніка — яго эпісталярная спадчына. Такое становішча спраў звязана з некалькімі прычынамі: як правіла, пры жыцці ўдзельнікаў перапіскі эпісталярый не абнародуецца, не становіцца набыткам шырокага кола чытачоў. Многія даследчыкі разглядаюць эпісталярый як другарадны жанр у творчасці любога пісьменніка. Але між тым лісты, тэлеграмы, паштоўкі з'яўляюцца самастойным і раўнапраўным жанрам у пісьменніцкай творчасці. Эпісталярый дае магчымасць узнавіць канкрэтныя падзеі літаратурнага і грамадскага жыцця, творчую атмасферу, у якой жыў і працаваў пісьменнік. Акрамя таго, перапіска багата звесткамі пра творчыя інтарэсы пісьменніка, кола яго сувязей і ўзаемаадносін, сямейны побыт, грамадскую дзейнасць і г.д.

Лісты, паштоўкі, тэлеграмы Івана Шамякіна неаднолькавыя як па насычанасці фактычным матэрыялам, так і па аб'ёме, манеры напісання. Такая розніца вызначаецца тым, каму адрасаваны ліст, родам дзейнасці адрасата, колам тых пытанняў і праблем, якія ставяцца і вырашаюцца ў лісце.

Безумоўна, лісты Івана Шамякіна маюць некаторую долю суб'ектыўнасці ў ацэнцы тых або іншых фактаў літаратурнага і грамадскага жыцця. Усё тое, што напісана непасрэдным удзельнікам-сведкам падзей, якія адбываюцца, заўсёды нясе на сабе пячатку суб'ектыўнасці. Але ад гэтага не зніжаецца каштоўнасць дакументаў.

Акрамя таго, перапіска Івана Шамякіна дае магчымасць прасачыць за ідэйна-творчай эвалюцыяй пісьменніка. Гэтаму ў многім садзейнічае і своеасаблівы стыль, які ўласцівы лістам. Адзначаныя рысы яскрава сведчаць: эпісталярый Івана Шамякіна — самастойны, раўнапраўны з іншымі жанр творчасці. Нельга супрацьпастаўляць перапіску пісьменніка іншым жанрам яго творчасці або адводзіць ёй толькі службовую ролю — як крыніцы пэўных звестак пра самога пісьменніка, яго асяроддзе, пра падзеі літаратурнага і грамадскага жыцця.

Эпісталярый Івана Шамякіна ахоплівае амаль шэсцьдзесят гадоў — найбольш напружаных і найбольш плённых гадоў яго жыцця і творчай дзейнасці. Пісьменнік актыўна перапісваўся не толькі з калегамі па пяры, але і са сваімі перакладчыкамі, грамадскімі і партыйнымі дзеячамі. Увазе чытачоў газеты "Літаратура і мастацтва" прапаноўваюцца лісты да Вацлава Жыдліцкага і Сімяона Уладзімірава. Аўтографы гэтых лістоў захоўваюцца ў прыватным архіве нашчадкаў Івана Шамякіна, а перакладчыкам былі дасланы машынапісы гэтых лістоў, зробленыя з рукапісаў.



Фота з архіва сям'і Шамякіных.

**Іван Шамякін — Вацлаву Жыдліцкаму**

Дарагі таварыш Вацлаў Жыдліцкі!

Перш за ўсё прашу прабачыць, што не адказаў на Ваша мінулагодняе пісьмо. Меў на ўвазе напісаць Вам, але здарылася няшчасце — я трапіў пад нож хірургаў, перанёс цяжкую аперацыю і пасля доўга ачуняў. Вы добра ведаеце, калі чалавеку нездаровіцца, тады яму не да спраў і не да творчасці. Дзякую Богу, зараз усё наладзілася, працую па-ранейшаму многа і за рабочым сталом, і ў Саюзе пісьменнікаў, і ў Вярхоўным Савеце.

Вы мне пісалі, што ў Празе мае выйсці мой раман "Сэрца на далоні". Пасля пра гэта ж казалі вашы таварышы, якія былі нашымі гасцямі. Але больш ніякіх звестак не маю. Калі кніга выйшла, быў бы глыбока ўдзячны Вам, калі б Вы папрасілі выдавецтва выслаць мне якія два экземпляры.

У канцы мінулага года ў нас выйшаў мой новы раман "Атланты і карыятыды". Высылаю Вам кнігу, можа, знойдзіце час пачытаць. Раман у нас прыняты вельмі добра, тыраж у 40 тыс. <яч> экземпляраў (для беларускага выдання гэта амаль рэкордны тыраж) разышоўся за два тыдні.

Ці атрымоўваеце Вы "Полымя"? У № 1 за 1975 год надрукавана мая аповесць "Шлюбная ноч". Рэч гэта героіка-рамантычная і ўсяго шэсць аркушаў.

Нашы таварышы расказалі мне, што здароўе Ваша цяпер палепшылася, і Вы па-ранейшаму многа робіце для прапаганды беларускай літаратуры ў Чэхіі. За гэта дзякуй Вам.

Прыміце самыя найлепшыя пажаданні.

З павагай
Іван Шамякін

**Каментарый**

Ліст адрасаваны чэшскаму літаратуразнаўцу і перакладчыку Вацлаву Жыдліцкаму (1931 — 2002). Датуецца ліст пачаткам 1975 года па змесце.

*"Меў на ўвазе напісаць Вам, але здарылася няшчасце — я трапіў пад нож хірургаў, перанёс цяжкую аперацыю і пасля доўга ачуняў".* — У студзені 1974 года І. П. Шамякіну быў выдалены жоўцевы пухір.

*"Вы мне пісалі, што ў Празе мае выйсці мой раман "Сэрца на далоні".* — Раман "Сэрца на далоні" выйшаў у Празе ў 1975 годзе ў перакладзе на чэшскую мову. Пераклад зроблены Вацлавам Жыдліцкім.

**Іван Шамякін — Сімяону Уладзіміраву**

Паважаны Сімеон Владзіміраў!

Я прасіў Ванкарэма Нікіфаровіча, пасля Найдэна Вылчэва і Андрэя Германава перадаць Вам маю глыбокую ўдзячнасць за пераклад "Шлюбнай ночы". Сёння я атрымаў Ваша пісьмо, з якога даведаўся, што Вы перакладаеце і "Гандлярку". Дзякую Вам яшчэ раз за ўсю Вашу вялікую работу па прапагандзе нашай літаратуры ў Балгарыі.

Кніжка выйшла, і я пасылаю яе Вам. На рускай мове абедзве гэтыя аповесці выходзяць у "Раман-газеце".

Адначасова пасылаю кніжачку маёй драматургіі. "І змоўклі птушкі" магу прыслаць у рускім перакладзе, каб можна было пазнаёміць Вашы тэатры. "І змоўклі птушкі" лічу лепшай сваёй п'есай, вартай увагі сур'ёзных рэжысёраў і акцёраў. Безумоўна, я быў бы рады, каб у год савецкай драматургіі хоць адзін з балгарскіх тэатраў праявіў цікавасць да драматычных твораў беларускага аўтара.

Жадаю Вам паспяховай працы.

З сяброўскім прыветам
Іван Шамякін

**Каментарый**

Ліст адрасаваны балгарскаму літаратуразнаўцу і перакладчыку Сімяону Уладзіміраву (нар. 1925). Напісаны ў адказ на наступны ліст Сімяона Уладзімірава:

*"София, 8. II. 1977 г.*

*Уважаемый Иван Петрович,*

*У меня опять к Вам просьба. Я уже договорился с издательством "Хр. Г. Данов" в Пловдиве перевести повесть "Гандлярка и поэт", но не знаю вышла ли повесть в отдельную книгу. Если она вышла, прошу Вас послать мне книгу. Сожалею, что не успел найти издательства для Ваших атлантов. Роман мне нравится своей актуальностью и смелостью, но объём книги оказался роковым. Все издательства хотят издавать хорошие, но маленькие книги.*

*Я читал тоже Вашу пьесу "І змоўклі птушкі". Пьеса мне понравилась, но мне хочется шире познакомиться с Вашей драматургией. У нас в этом году будет год советской драматургии, и я надеюсь, что в репертуар театров войдут и некоторые белорусские пьесы.*

*Желаю Вам всего хорошего*
*Ваш С. Владимиров"*

Ліст І. Шамякіна датуецца 1977 годам на падставе ліста Сімяона Уладзімірава.

*Нікіфаровіч* Ванкарэм Валяр'янавіч (нар. 1934) — беларускі крытык, перакладчык з балгарскай і рускай моў на беларускую.

*Вылчаў* Найдан Станеў (нар. 1927) — балгарскі паэт і перакладчык.

*Германаў* Андрэй Дзімітраў (1932 — 1981) — балгарскі паэт і перакладчык.

*…маю гарачую ўдзячнасць за пераклад "Шлюбнай ночы".* — Аповесць "Шлюбная ноч" І. Шамякіна ў перакладзе С. Уладзімірава на балгарскую мову выйшла ў Сафіі ў 1975 годзе.

*…што Вы перакладаеце і "Гандлярку".* — Аповесць "Гандлярка і паэт" І. Шамякіна ў перакладзе С. Уладзімірава на балгарскую мову выйшла ў Плоўдзіве ў 1978 годзе.

*Кніжка выйшла, і я пасылаю яе Вам.* — На беларускай мове "Шлюбная ноч" і "Гандлярка і паэт" выйшлі асобнай кнігай у 1976 годзе, на рускай мове — у 1977 годзе.

*На рускай мове абедзве гэтыя аповесці выходзяць у "Раман-газеце".* — Выйшлі ў 1977 годзе.

*Адначасова пасылаю кніжачку маёй драматургіі.* — Хутчэй за ўсё І. Шамякін выслаў С. Уладзіміраву свой зборнік п'ес на беларускай мове "Экзамен на восень" (Мінск, 1975).

*"І змоўклі птушкі…"* — П'еса напісана ў 1976 годзе, ішла на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

***Уступ, падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі Алесі ШАМЯКІНАЙ.***

# Кватэрнае пытанне прафесара Піятуховіча

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**

**Як вядома, кватэрнае пытанне можа сапсаваць каго заўгодна. Нядаўна, калі працаваў у фондзе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта НАРБ, мне трапіліся дакументы, што асвятлялі ўмовы жыцця і побыту вядучых вучоных-філолагаў 1920-х гадоў. Большая частка тых матэрыялаў была апублікавана летась у 2-м выпуску біяграфічнага альманаха "Асоба і час". Але сёе-тое туды не ўвайшло.**

Постаць прафесара Міхаіла ці, як казалі раней, Міхайлы Піятуховіча вядомая кожнаму зацікаўленаму гісторыяй літаратуры і літаратуразнаўства. Даследчык беларускага фальклору і літаратуры XIX ст. (менавіта ён захоўваў знакамітыя рукапісы А. Рыпінскага), французскай літаратуры, адзін з першых прафесійных крытыкаў новай беларускай літаратуры. Асоба ягоная малюецца сёння паводле рэдкіх успамінаў. Але што мы ведаем пра яго самога? Як ён жыў?

Як вынікае з дакументаў, жыў ён, мякка кажучы, не дужа заможна. Асабліва кантраст заўважны на фоне дасягненняў Піятуховіча ў прасоўванні па службовай лесвіцы. 05.08.1926 ён накіроўвае рэктару БДУ У. Пічэту ліст наступнага зместу (арфаграфія і пунктуацыя арыгінала захаваныя): "Яшчэ вясной гэтага году, пры выбарах мяне на пасаду дэкана, мне было дадзена абяцаньне напэўна прадаставіць унівэрсытэцкую кватэру. Паколькі мне вядома, ва Унівэрсытэцкім флігелю павінны быць аслабаняны 4 пакоі, якія цяпер займаюць Сцэпура і Яшчэнка. У выпадку іх аслабаненьня прашу замацаваць іх за мной, альбо прадаставіць кватэру ў іншым мейсцы ў 3 — 4 пакоі (у сям'і маёй 6 душ)".

Просьба яго не задавальняецца, бо ў заяве фактычна адсутнічае падстава для таго, каб тую кватэру даць — акрамя спасылкі на дэканскую пасаду.

22 кастрычніка 1926 г. М. Піятуховіч зацвярджаецца прафесарам па кафедры беларускай літаратуры БДУ. 25 сакавіка 1927 г., будучы цяпер ужо і дэканам педфака і прафесарам, ён накіроўвае ў праўленне ўніверсітэта наступную заяву, больш разгорнутую і, па ўсім відаць, напісаную ў хвіліну адчаю: "Прашу Праўленне Б.Д.У. прадаставіць мне кватэру ў памяшканні, якое аддаецца Унівэрсытэту Сельска-Гаспадарчым Інстытутам у будынку № 33 па Савецкай вул[іцы], альбо адну з кватэр па Шырокай вул[іцы], якія маюць быць свабоднымі ў сувязі з належным пераводам некаторых профэсараў адтуль у памянёны будынак на Савецкай вул[іцы].

Зараз я жыву ў будынку Белпэдтэхнікума ў жудасных умовах: з сям'ёй у 6 душ я юччуся ў двох маленькіх пакойчыках плошчай у 8 кв.[адратных] саж.[эняў] з нізкай столлю; невялічкая кухня знаходзіцца паміж жылых пакояў, прыходзіцца заўжды ўдыхаць кухонны чад і смурод; уваход непасрэдна з халоднага калідора выклікае частыя прастудныя хваробы членаў маёй сям'і (мой маленькі сын, напр.[ыклад], заўжды хварэе на бранхіт); сама па сабе жудасная, кватэра ў дадатак да ўсяго не рамантавана на працягу ўжо некалькіх дзесяткаў год і г.д.

Такім чынам я ня толькі пазбаўлены нармальных умоў, неабходных для навуковай працы, для якой я не маю нават свабоднага кутка, не кажучы ўжо аб асобным пакою, — больш таго, я асуджаны жыць у абстаноўцы, супярэчачай самым элемэнтарным патрабаваньням гігіены. Паміж тым я ўжо ў працягу 5 1/2 год працую ў Б.Д.У. Унівэрсытэту я зараз аддаю ўсе свае сілы. Думаю, што гэта дае мне права на больш чалавечыя ўмовы існавання". Але нават і цяпер кіраўніцтва не адразу адгукнулася на просьбу прафесара: амаль праз месяц, у пасяджэнні Праўлення БДУ ад 20.04.1927 г., ягоная заява была разгледжана, пасля чаго была накладзена адпаведная рэзалюцыя: "п.16 Праф. Піатуховічу прадаставіць кватэру з 3-х пакояў у буд.[ынку] № 11 па Савецкай № 33 на 4 паверху, калі праф. Крыльцоў не згадзіцца заняць гэтую кватэру". Шматзначнае "калі" магло адыграць адмоўную ролю і на гэты раз. Усё ж такі, мяркуючы па тым, што 8 ліпеня 1927 года Піятуховіч просіць праўленне ўжо аб грашовай дапамозе на рамонт, кватэра дасталася яму.

На добры лад, падобныя рэчы мусяць асвятляцца ў мемуарах. Але іх няма. Героі не паспелі напісаць. Архівы ж — не захаваліся.

# Навуковае даследаванне — як асалода

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**24 студзеня споўнілася 80 гадоў вядомаму беларускаму літаратуразнаўцу, тэкстолагу, доктару філалагічных навук, члену-карэспандэнту НАН Беларусі Міхасю Мушынскаму. Па шчаслівым супадзенні — майму дзядулю. Пісаць пра сваякоў — заўжды няўдзячная справа. Шэраг творцаў сапраўды лепш успрымаюцца на часавай або прасторавай адлегласці, бо позірк зблізку часам развейвае рамантычны арэол. Але адначасова блізкае знаёмства дае магчымасць паглядзець на творцу як на жывога чалавека, зазірнуць у творчую лабараторыю навукоўцы і ўбачыць, як узнікаюць яго работы, зразумець ягоныя погляды на жыццё.**



Фота Ігара Кузняцова

## Чытачу «па сакрэце»

Міхась Мушынскі нарадзіўся 24 студзеня 1931 года ў вёсцы Мокрае Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Бацька, Іосіф Кірылавіч, служыў на чыгунцы, маці, Марфа Раманаўна, з'яўлялася хатняй гаспадыняй. Міхась Іосіфавіч быў другім дзіцём у сям'і. Да яго нарадзіўся Іван, ужо нябожчык, пасля — Анатоль і Валянціна.

Падчас вайны Іосіф Кірылавіч эвакуіраваўся на Урал і вярнуўся дадому толькі пасля перамогі над Японіяй. Тады сям'я перабралася на жыхарства ў Быхаў. Там дзядуля скончыў сярэднюю школу і ў пачатку 1950-х гадоў паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля яго заканчэння ў 1955-м год папрацаваў рэдактарам універсітэцкага выдавецтва. А з 1956-га — нязменна — у Інстытуце літаратуры (цяпер Інстытуце мовы і літаратуры) Акадэміі навук.

Аўтар больш як 340 навуковых прац, у тым ліку 12 індывідуальных і 31 калектыўнай манаграфій. Даследаваў творчую дзейнасць Якуба Коласа, М. Гарэцкага, М. Зарэцкага, дасягненні крытыкі і літаратуразнаўства на працягу ўсяго XX стагоддзя. Кіраваў падрыхтоўкай і ажыццяўленнем выдання 13 навукова каменціраваных збораў твораў, у тым ліку І. Мележа, М. Гарэцкага, З. Бядулі, М. Зарэцкага, Якуба Коласа, а таксама поўных збораў твораў Янкі Купалы і М. Багдановіча.

Кожны юбілей — падвядзенне пэўных прамежкавых вынікаў. Але замест падрабязнага аналізу напісаных манаграфій прапаную чытачу знаёмства з іх аўтарам, навукоўцам і чалавекам. Такім чынам, Міхась Мушынскі — гэта…

## Адналюб

У 1956 годзе Міхась Іосіфавіч узяў шлюб з Тамарай Кляноўскай (цяпер Мушынскай), з якой дагэтуль жыве ў згодзе і шчасці. Тамара Фёдараўна не толькі жонка і маці дваіх дзяцей. Кандыдат філалагічных навук, настаўніца мовы і літаратуры, аўтар школьных падручнікаў па рускай літаратуры, яна з'яўляецца першым слухачом, чытачом, крытыкам тых прац, якія піша Міхась Іосіфавіч.

Неаднойчы трапляючы да бабулі і дзядулі ў госці, шмат разоў станавіўся сведкам абмеркавання будучага артыкула. Падчас сняданку або вячэры дзядуля прагаворваў бабулі асноўныя палажэнні, выслухоўваў думкі або заўвагі і ўжо з улікам іх ствараў канчатковую версію сваёй новай працы. Цяжка пераацаніць ролю Тамары Фёдараўны і ў афармленні даследаванняў. Справа ў тым, што дзядуля так і не захацеў "перасесці" за камп'ютар. А паколькі друкарская машынка ўжо даўно выйшла з моды і з ужытку, усе навуковыя працы па-ранейшаму ствараюцца ад рукі, а ўжо потым пры дапамозе бабулі пераводзяцца ў электронны выгляд.

## Іранічны ліберал

За савецкім часам да палітычных падзей Міхась Іосіфавіч заўсёды ставіўся досыць іранічна і таму знаходзіўся нібы пасярэдзіне: паміж крытыкамі і апалагетамі тагачаснага грамадскага ладу. Але адначасова заўсёды імкнуўся адмовіцца ад адміністрацыйнай і партыйнай працы. На яго думку, яны забіралі час ад любімай навукі. Пасля абароны доктарскай дысертацыі Міхасю Іосіфавічу прапаноўвалі пасаду рэктара Інстытута культуры. А яшчэ задоўга да таго — сакратара партыйнай арганізацыі Інстытута літаратуры. Прычым, у апошнім выпадку ў перспектыве бачылася кватэра ў знакамітым "доме-даляры". Як расказвалі сваякі, тады адмова выклікала захапленне. Але цяпер, калі глядзіш на цеснаватую "хрушчоўку", застаўленую кніжнымі шафамі, часам узнікае "крамольная" думка: можа, варта было згаджацца?

## Настаўнік і вандроўнік

Калі падрастаюць унукі, яны бачацца з бабуляй дастаткова часта. А з дзядулем мы сустракаліся звычайна на святы або летам, калі я прыязджаў да іх пагасціць. Тым не менш яго выхаваўчае ўздзеянне адчувалася не менш, толькі мела іншыя формы. Часцей за ўсё яно праяўлялася падчас сумесных падарожжаў.

Колькі сябе памятаю, падчас сумесных адпачынкаў Міхась Іосіфавіч заўсёды шмат вандраваў. Прыезд у любы дом адпачынку ў рэшце заканчваўся тым, што ён абыходзіў усё наваколле і ведаў кожную сцежку-дарожку. А гадоў дзесяць — пятнаццаць таму смела сыходзіў у падарожжа на палову дня. З аднаго боку, доўгія вандроўкі былі для дзядулі своеасаблівай формай адпачынку. З другога боку, як чалавеку, што нарадзіўся ў вёсцы, яму часам надакучваў аднастайны урбаністычны краявід гарадоў, а маляўнічае наваколле радавала вока і надавала неабходнага натхнення. Акрамя таго, хто ведае, магчыма, думкі для новых артыкулаў нараджаліся менавіта ў дарозе?

Падчас адной з сумесных вандровак па Мінску мы выйшлі да старога, занядбанага басейна. І раптам Міхась Іосіфавіч прапанаваў паспаборнічаць: хто прабяжыць уздоўж яго хутчэй? Сумненняў ва ўласнай перамозе ў мяне нават не ўзнікала. Усё ж такі дзядулю на той час было ўжо каля 70 гадоў. Напачатку я лідзіраваў, расслабіўся, але тут нечаканым фінішным рыўком ён абагнаў перад самым фінішам. Цяжка пераацаніць ступень уздзеяння такога эпізода на дзіцячую псіхалогію: тут і прышчэпка ад уласнай самаўпэўненасці, і падказка, каб кантраляваў сітуацыю да канца, і павага да ўжо немаладога чалавека, які мае столькі жыццёвых і фізічных сіл.

Істотна паўплываў на мяне Міхась Іосіфавіч і ў пытаннях навуковых. Гісторыяй і літаратурай я пачаў цікавіцца яшчэ ў пачатковай школе. Зразумела, толькі ў якасці аматара і чытача. І вось падчас сумесных вандраванняў адбываліся шматлікія размовы на гэтыя тэмы. Іх часавы дыяпазон сягаў ад глыбокай даўніны да сучаснасці. Расказы пра жыццё ў вёсцы пад акупацыяй і цяжкасці пры паступленні ў аспірантуру, рэакцыя яго калег па працы на "застой" і перабудову, характары і павodзіны класікаў беларускай літаратуры ў паўсядзённым жыцці. Прычым, усе героі аповедаў паўставалі без німба над галавою, як жывыя людзі. Істотна, што ніводны з расказаў не быў катэгарычны. Мяркую, менавіта тады ў мяне нарадзілася разуменне таго, што ў жыцці няма нічога абсалютна адназначнага і ў кожнага ёсць свая праўда. Такія размовы пераварнулі маё разуменне гісторыі і літаратуры і пазней прывялі да прафесійнага інтарэсу ў гэтых сферах.

*"Несумненна, што большасць даследчыкаў беларускай мовы, гісторыі і літаратуры з'яўляюцца рамантыкамі. Пад такім азначэннем разумею іх захопленасць нацыянальнай культурай і яе мінулым. Міхась Іосіфавіч — не выключэнне. Слухаючы яго, цяжка стрымаць захапленне аб'ектам яго даследаванняў, глыбінямі, якія схаваныя ў творах аўтараў. Магчыма, менавіта такія размовы паспрыялі змене ўспрымання ягонай асобы — ад дзядулі да арыгінальнага і маштабнага даследчыка.*

## Спартсмен… і аматар дэтэктываў

Яшчэ ў маладосці Міхась Іосіфавіч актыўна займаўся спортам, у прыватнасці лёгкай атлетыкай (бегаў на кароткія дыстанцыі). З гадамі зацікаўленасць спортам перайшла ў захапленне заўзятара і тэлегледача. Ён заўсёды з задавальненнем глядзеў Алімпійскія гульні, чэмпіянаты свету і Еўропы па футболе, спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы, гімнастыцы, хакеі. Паколькі дзядуля добра памятаў куміраў мінулых гадоў, я заўсёды з задавальненнем абмяркоўваў з ім гульню мінскага "Дынама" 1980-х гадоў ці перамогу Уладзіміра Куца ў алімпійскім Мельбурне.

Падчас адпачынку Міхась Іосіфавіч заўсёды чытаў "лёгкую" літаратуру. Звычайна дэтэктывы. Асабліва ўпадабаў серыю Фрыдрыха Нязнанскага пра следчага расійскай генеральнай пракуратуры Турэцкага, на аснове якіх быў зняты вядомы серыял. Памятаю, у дзяцінстве доўга не мог зразумець, чаму дзядуля не чытае "сур'ёзную" літаратуру. Толькі з часам прыйшло разуменне, што класіка з'яўляецца яго працай і прадметам вывучэння, ад сур'ёзнасці і велічнасці якой часам трэба проста пераключацца на больш лёгкае "чытво".

## Рамантык і гумарыст

Несумненна, што большасць даследчыкаў беларускай мовы, гісторыі і літаратуры з'яўляюцца рамантыкамі. Пад такім азначэннем разумею іх захопленасць нацыянальнай культурай і яе мінулым. Міхась Іосіфавіч — не выключэнне. Слухаючы яго, цяжка стрымаць захапленне аб'ектам яго даследаванняў, глыбінямі, якія схаваныя ў творах аўтараў. Магчыма, менавіта такія размовы паспрыялі змене ўспрымання ягонай асобы — ад дзядулі да арыгінальнага і маштабнага даследчыка.

Адначасова да яго рамантызму дадаецца нязменнае пачуццё гумару, веданне безлічы жартоўных гісторый і анекдотаў. Расказвае ён іх з сапраўдным артыстызмам. Гэта надзіва кантрастуе з ягонай заглыбленасцю і не дае пераўтварыцца ў тыповага "кабінетнага" навукоўцу.

Прыклад Міхася Іосіфавіча, захопленага і апантанага даследчыка, надзвычай паўплываў і на мае ўласныя навуковыя спробы. Прызнаюся, што некаторыя праявы сённяшняга навуковага жыцця далёка не заўсёды спрыяюць зацікаўленасці менавіта гэтай галіной дзейнасці. Часцей, наадварот, адштурхоўваюць поўнай адарванасцю ад рэальнага жыцця. Шэраг даследчыкаў адчувае сябе камфортна толькі ў нечым адным: або ў паўсядзённым жыцці, або ў навуцы — і ніяк не могуць аб'яднаць іх у адно цэлае. Таму для мяне, як ні пафасна гэта прагучыць, Міхась Іосіфавіч з'яўляецца ідэалам сапраўднага вучонага, прыкладам таго, якой можа і павінна быць навука, якая з'яўляецца неад'емнай часткай жыцця.

## Шчаслівы

У рамане Самерсэта Моэма "Тэатр" галоўная гераіня, Джулія, згадвала знакамітую фразу Шэкспіра "Увесь свет — тэатр, у ім жанчыны, мужчыны — усе акцёры". І доўжыла афарызм вялікага англічаніна ўласным назіраннем: "Але тое, што я бачу <…>, усяго толькі ілюзія, толькі мы, акцёры, рэальныя ў гэтым свеце". Мяркую, працытаваны ўрывак дапаможа зразумець псіхалогію ўчынкаў і паводзін творцаў. Іх справы, штодзённая праца з'яўляюцца для іх сэнсам жыцця. Магчымасць пісаць пра самых маштабных асоб нацыянальнай літаратуры і прыносіць дзядулю сапраўдную асалоду. У неабсяжнай прасторы літаратуразнаўства адкрываюцца новыя далягляды. У няспынным руху да іх Міхась Мушынскі жыве, працуе. А значыцца — застаецца шчаслівы...

**Сярод мерапрыемстваў прэзентацыі Полацка як культурнай сталіцы 2010 года ў Мінску было адкрыццё выстаўкі “Полацкі сонцаварот” вырабаў майстроў Цэнтра рамёстваў і нацыянальных культур і работ навучэнцаў Дзіцячай мастацкай школы. У выставачнай галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці, што месціцца ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна, вельмі цёпла віталі сяброў з Полаччыны. У экспазіцыі — работы дзяцей, а таксама дарослых, якія беражліва перадаюць свой вопыт маладому пакаленню.**



# Творчы сонцаварот

**Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара**

Намеснік начальніка ўпраўлення культуры Мінскага аблвыканкама Святлана Баранок зазначыла, што прадстаўленыя творы вельмі цікавыя для ўсіх аматараў традыцыйнага народнага мастацтва, для тых, хто любіць сваю культуру і спадчыну. Кожная з работ адлюстроўвае ідэю, погляд, унутраны свет яе выканаўцы. Святлана Аляксандраўна падкрэсліла, што культурнае супрацоўніцтва паміж абласцямі нашай краіны — вельмі пазітыўны момант. Так, у мінулым годзе ладзіліся абменныя экспазіцыі сучаснага выяўленчага мастацтва паміж Мінскай і Гомельскай абласцямі ў межах Рэспубліканскай выстаўкі “Зямля пад белымі крыламі”. Што датычыць народнага мастацтва, то і тут можна дамовіцца ў арганізацыі не толькі міжабласных семінараў, а і выставак народнага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Святлана Баранок выказала надзею, што ў хуткім часе адзін з гарадоў Міншчыны таксама стане культурнай сталіцай. Бо цэнтральны рэгіён Беларусі валодае ўнікальнымі помнікамі гісторыі і культуры. А сучасны стан развіцця культуры Мінскай вобласці дазваляе спадзявацца на тое, што будзе прысвоены такі ганаровы і адказны статус.

Начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі Уладзімір Шавялёў нагадаў прысутным, што па ініцыятыве Міністэрства культуры з мінулага года здзяйсняецца праект “Культурная сталіца Беларусі”. Першым стаў “бацька гарадоў беларускіх” — Полацк. Шэраг мерапрыемстваў падрыхтавалі палачане на розных пляцоўках Мінска: паказ спектакля, адкрыццё выставак, гала-канцэрт, падчас якога была перададзена эстафета наступнай культурнай сталіцы — Гомелю. Са слоў Уладзіміра Мікалаевіча, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, мабыць, адзінае, якое дайшло да нас з тых стагоддзяў, калі Полацк, можа, толькі з’яўляўся на зямлі беларускай. Гэта неўміручае мастацтва, якое перадаецца з пакалення ў пакаленне, жывое і развіваецца.

Старшыня Полацкага гарадскога Савета дэпутатаў Наталля Гуйвік не без гонару адзначыла, што Полацк між іншым увайшоў у гісторыю краіны як першая культурная сталіца. Немагчыма пераацаніць значнасць гэтай акцыі для палачан. За год прайшло больш як 50 канцэртаў, вернісажаў, творчых сустрэч, фестываляў. Палачане і госці горада азнаёміліся з культурнымі дасягненнямі Беларусі, пабачылі выступленні лепшых творчых калектываў і дзеячаў мастацтваў. Асаблівую цікавасць выклікалі выступленні знакамітых ансамбляў “Харошкі” і “Песняры”, гастролі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, канцэрты Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, Нацыянальнага народнага хору імя Г. Цітовіча. Таксама выклікалі цікавасць такія вялікія мерапрыемствы, як 65-годдзе Вялікай Перамогі і 100-годдзе перанясення мошчаў Еўфрасінні Полацкай.





Пры канцы прамовы Наталля Васільеўна ўручыла падзяку ад Полацкага гарвыканкама дырэктару Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Раісе Вайцяхоўскай за арганізацыю і правядзенне мерапрыемстваў-прэзентацый Полацка як культурнай сталіцы 2010 года ў Мінску.

Старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута як прадстаўнік сталіцы адміністрацыйнай павітаў прадстаўнікоў сталіцы культурнай, з якімі ў іх наладжаны цёплыя, творчыя, узаемапрыемныя кантакты. Яўген Міхайлавіч засяродзіў увагу прысутных на тым, што дадзеная выстаўка арыгінальная, а не проста дзяжурны паказ здольнасцей майстроў і навучэнцаў, таго, чым Полаччына адметная: мясцовае лозапляценне, ганчарства і знакаміты полацкі брэнд — тэкстыльная мазаіка. Вельмі прыемнае ўражанне выклікаюць творчыя кампазіцыі дзяцей, у якіх адлюстравана тэма роднай зямлі, Паазер’я з яго вядомымі маляванымі дыванамі, работамі Язэпа Драздовіча.

Таксама слова бралі дырэктар Полацкай дзіцячай мастацкай школы Наталля Анцімонава, загадчык аддзела рамёстваў Полацкага цэнтра рамёстваў і нацыянальных культур, член БСМНТ і ўдзельнік выстаўкі Наталля Чымірыкіна. А знаны ўраджэнец Полаччыны, народны паэт Беларусі Генадзь Бураўкін прачытаў свае вершы, прысвечаныя Полацку.

На “Полацкім сонцавароце” прадстаўлены творы сталых майстроў і самых юных мастакоў горада. Аўтарам ад 10 да 60 гадоў. Такія ўзроставыя межы сведчаць пра неабсяжнасць жыцця. Як зямля штогод робіць кола вакол сонца, так і народнае мастацтва перадаецца з пакалення ў пакаленне і радуе нас яркімі здабыткамі на кожным новым вітку — своеасаблівы творчы сонцаварот.

У дзіцячых работах, якія кранаюць сваёй шчырасцю, адлюстраваны традыцыі старажытных рамёстваў — маляванкі, выцінанкі, роспіс па дрэве. У творах сталых майстроў захапляе ўзровень майстэрства і адданасць справе. Цеплыню рук майстра даносяць да нас тканыя ручнікі, каляровыя коўдры з абрэзкаў тканіны, драўляныя скульптуры і вырабы, сплеценыя з лазы і саломы.

У экспазіцыі таксама прадстаўлена калекцыя пад назвай “Беларуская маляванка”, якая стваралася на працягу некалькіх гадоў, але яна не статычная, яна “жыве” і штогод папаўняецца новымі творамі. А яшчэ калекцыя распісных куфраў, створаная паводле традыцыйных матываў роспісу па дрэве.

Майстры не проста таленавітыя людзі. Кожны з іх — своеасаблівы чараўнік. Толькі чараўнік размаўляе з дрэвам, жалезам, ведае іх думкі, і толькі ён можа зрабіць з сыравіны цудоўныя вырабы, якія будуць прываблівацъ гледачоў сваёй прыгажосцю і непаўторнасцю.

***На здымках: Уладзімір Каласкоў “Саламянік”; “Беларуская маляванка” 13-гадовай Веранікі Панізнік; коўдра “Хатка” — калектыўная работа майстроў народнага клуба “Рошва”.***

**Дарадцам і кансультантам рубрыкі “Дзівасвет” выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай “Дзівасвет”.**

## З глыбінкі

# З адкрытым сэрцам

**Шчаслівы той, хто мае пазітыўныя адносіны да жыцця. Як, напрыклад, нясвіжскі бард Сяргей Пракоф’еў. Ён хоча, каб была стабільнасць у душы, прыродзе, у краіне. Але на першым плане ў яго музыка, добрая, лірычная, душэўная, як і яго вершы.**

— Музыка павінна кранаць, — лічыць Сяргей Юр’евіч. — І жыць вечна. Лепшым узорам для сябе лічу творы Аляксея Рыбнікава і Андрэя Пятрова. Так хочацца, каб музыку і песні сучаснікаў і праз гадоў пяцьдзясят нашчадкі ўспрымалі як класіку.

Сапраўды, плеяда маладых аўтараў нярэдка піша добрыя творы, пра што сведчаць конкурсы розных узроўняў, дзе гучаць самабытныя балады і паэмы, а лепшыя з лепшых атрымліваюць заслужаныя ўзнагароды. Так і Сяргей Пракоф’еў у 2007 годзе стаў лаўрэатам абласнога конкурсу “Вілейская хваля”, а ў 2009-м паспяхова выступіў на абласным злёце работнікаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Асабліва кранула слухачоў песня “Франтавікі”.

— Самае галоўнае, — мяркуе Сяргей, — калі цябе пачулі і зразумелі, калі песня адгукнулася ў сэрцах людзей. Я ўвогуле люблю конкурсы, бо там адчуваеш дух саперніцтва, барацьбы. А калі людзі дзякуюць табе за выступленне — то лепшай узнагароды і не трэба.

Сяргей навучыўся іграць на гітары, падбіраючы акорды. Пасля дэмабілізацыі прыехаў у Нясвіж, уладкаваўся на працу. Аднойчы зайшоў у раённы цэнтр культуры і адпачынку даведацца, як тут з аўтарскай песняй. Яго запрасілі выступіць на адным з канцэртаў. Затым накіравалі таленавітага аўтара на конкурс у Барысаў, з якога Сяргей вярнуўся лаўрэатам. Песня “Матуля” ўразіла і журы, і гледачоў.

У Нясвіжы пры раённай бібліятэцы дзейнічае літаратурна-музычнае аб’яднанне “Валошкі”, куды заўсёды наведваецца Пракоф’еў. Яго выступленні на сустрэчах з гасцямі клуба карыстаюцца нязменным поспехам.

Кіраўнік “Валошак” Валянціна Шчарбакова гаворыць:

— Без Сяргея было б складана, бо ён удзельнічае ў кожнай сустрэчы. Яго просяць людзі. Дзякуючы нашаму барду вечары ў аб’яднанні сталі больш разнастайнымі і цікавымі.

Абласное літаратурна-музычнае аб’яднанне “Жывіца” запрасіла да сябе самабытнага творцу з Нясвіжа. І там ён паказаў высокі клас паэтычна-выканаўчай творчасці, за што неаднаразова адзначаўся дыпломамі. У Мінску запісаны дыск удзельнікаў “Жывіцы”, на якім ёсць і дзве песні С. Пракоф’ева. Летась ён быў узнагароджаны дыпломам на абласным конкурсе ў намінацыі “За папулярызацыю аўтарскай песні”.

— У мяне ёсць жаданне часцей выступаць на розных пляцоўках, дзяліцца сваім настроем і думкамі, выклікаць у слухачоў эмоцыі, — прызнаецца Сяргей. — Няхай сабе розныя, але каб не было абыякавых у зале.

**Раіса ХВІР, г. Нясвіж**

## Афарызм

*Мастацтва – не заказ і не гульня ў бірулькі, а сумленне зямлі.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**
**Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



**Адрас рэдакцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856

Наклад 3130
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 27.01.2011 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 386
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686